ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# Комуністычнае выхаванне

ОРГАН
НАРКОМАСВЕТЫ
І ЦК САЮЗА
ПАЧАТКОВАЙ
І СЯРЭДНЯЙ
ШКОЛЫ
БССР






СТУДЗЕНЬ — ЛЮТЫ
№ 1 — 2
1 9 3 5

ДЗЯРЖАЎНАЕ
ВЫДАВЕЦТВА
БЕЛАРУСІ



**АД ВАРОЖАЙ РУКІ ЗАГІНУЎ САКРАТАР ЦК І ЛЕНІНГРАДСКАГА КАМІТЭТА ВКП(б)**

**Тав. С. М. КІРАЎ**



# Ад Цэнтральнага Камітэта Ўсесаюзнай Комуністычнай Партыі (большэвікоў)

Цэнтральны камітэт ВКП(б) з вялікім жалем паведамляе партыю, рабочы клас і ўсіх працоўных Саюза ССР і працоўных усяго свету, што 1 снежня ў Ленінградзе ад здрадніцкай рукі ворага рабочага класа загінуў выдатны дзеяч нашай партыі, палкі, бясстрашны рэволюцыянер, любімы кіраўнік большэвікоў і ўсіх працоўных Ленінграда, сакратар Цэнтральнага і Ленінградскага камітэтаў ВКП(б), член палітбюро ЦК ВКП(б) таварыш Сергей Міронавіч Кіраў.

Страта т. Кірава, любімага партыяй і ўсім рабочым класам СССР, крыстальна чыстага і непахіснага, стойкага партыйца большэвіка-ленінца, аддаўшага ўсё сваё яркае слаўнае жыццё справе рабочага класа, справе комунізма, з'яўляецца самай цяжкай стратай для ўсёй партыі і краіны Советаў за апошнія гады.

Цэнтральны камітэт верыць, што памяць аб таварышу Кіраве, светлы прыклад яго бясстрашнай, нястомнай барацьбы за пролетарскую рэволюцыю, за будаўніцтва соцыялізма ў СССР будуць натхняць мільёны пролетарыяў і ўсіх працоўных на далейшую барацьбу за тaржаство соцыялізма, за канчатковае выкараненне ўсіх ворагаў рабочага класа.

*Цэнтральны Камітэт Усесаюзнай*
*Комуністычнай Партыі (большэвікоў).*

Нашу партыю пасцігла вялікае няшчасце. 1 снежня ад рукі злачынцы-забойцы, падасланага класавымі ворагамі, загінуў таварыш Кіраў. Не толькі для нас, яго блізкіх сяброў і таварышоў, але і для ўсіх ведаўшых яго па рэволюцыйнай рабоце, ведаўшых яго як байца, таварыша і друга, смерць т. Кірава з'яўляецца нічым неўзнагрaдзімай утратай. Ад рукі ворага загінуў чалавек, які ўсё сваё яркае жыццё аддаў справе рабочага класа, справе комунізма, справе вызвалення чалавецтва.

Тав. Кіраў прадстаўляў сабой узор большэвіка, не ведаўшага страху і цяжкасцей у дасягненні вялікай мэты, пастаўленай партыяй. Яго прамата, жалезная стойкасць, яго здзіўляючыя якасці натхнёнага трыбуна рэволюцыі спалучаліся ў ім з той сардэчнасцю і мяккасцю ў асабістых таварыскіх і сяброўскіх адносінах, з той прамяністай цеплынёй і скромнасцю, якія ўласцівы сапраўднаму ленінцу.

Тав. Кіраў працаваў у розных частках Саюза ССР і ў часы падполля, і пасля Кастрычніцкай рэволюцыі,—у Томску і Астрахані, ва Владзікаўказе і Баку,—і ўсюды ён высока трымаў сцяг партыі і заваёўваў для справы партыі мільёны працоўных сваёй нястомнай, энергічнай і пладатворнай работай рэволюцыянера.

Апошнія 9 год т. Кіраў кіраваў арганізацыяй нашай партыі ў горадзе Леніна і Ленінградскай вобласці. У кароткім сумным пісьме няма

магчымасці даць ацэнку яго дзейнасці сярод працоўных Ленінграда. Цяжка было-б знайсці ў нашай партыі больш падыходзячага кіраўніка для рабочага класа Ленінграда, так умела спаяўшага ўсіх партыйцаў і ўвесь рабочы клас вакол партыі. Ён стварыў ва ўсёй ленінградскай арганізацыі атмасферу большэвіцкай арганізаванасці, дысцыпліны, любві і адданасці справе рэволюцыі, якімі адзначаўся сам т. Кіраў.

Ты быў блізак усім нам, таварыш Кіраў, як верны друг, любімы таварыш, надзейны саратнік. Да апошніх дзён свайго жыцця і барацьбы мы будзем успамінаць цябе, дарагі друг, і будзем адчуваць горыч нашай утраты. Ты быў заўсёды з намі ў гады цяжкіх баёў за таржаство соцыялізма ў нашай краіне. Ты быў з намі заўсёды ў гады хістанняў і цяжкасцей унутры нашай партыі, перажыў з намі ўсе цяжкасці апошніх год, і мы страцілі цябе ў момант, калі наша краіна дасягнула вялікіх перамог. Ва ўсёй гэтай барацьбе, ва ўсіх нашых дасягненнях многа тваёй долі, многа тваёй энергіі, сілы і палкай любві к справе комунізма.

Прашчай наш дарагі друг, таварыш Сергей!

*І. Сталін*
*С. Орджанікідзе,*
*В. Молатаў,*
*М. Калінін,*
*К. Варашылаў,*
*Л. Кагановіч,*
*А. Мікаян,*
*А. Андрэеў,*
*В. Чубар,*
*А. Жданаў,*
*В. Куйбышэў,*
*Я. Рудзутак,*
*С. Касіор,*
*П. Постышэў,*
*Г. Петроўскі,*
*А. Енукідзе,*
*М. Шкіратаў,*
*Ем. Яраслаўскі,*
*Н. Ежоў.*

# С. М. Кіраў

*(Біяграфічная даведка)*

Член палітбюро Цэнтральнага камітэта ВКП(б), сакратар Цэнтральнага і Ленінградскага камітэтаў партыі, стары большэвік, член партыі з 1904 года Сергей Міронавіч Кіраў (партыйная клічка Сергей, Серж, Кострыкаў) радзіўся ў 1886 г. у г. Уржуме, Вяцкай губ. Ва Уржуме т. Кіраў скончыў пачатковую школу, затым гарадскую школу. Вучыўся добра і пасля сканчэння змог паступіць у казанскую механіка-тэхнічную школу. Яшчэ ва Уржуме, куды царскі ўрад ссылаў рэволюцыянераў, Сергей Міронавіч пазнаёміўся з палітычнымі ссыльнымі, якія сталі яго сапраўднымі першымі настаўнікамі. З імі т. Кіраў падтрымліваў сувязі, калі вучыўся ў Казані.

Рэволюцыйную дзейнасць т. Кіраў пачаў у Томску, куды накіраваўся з роднага горада для таго, каб падрыхтавацца к паступленню ў тэхналагічны інстытут. Калі вучыўся на агульна-асветных курсах, звязаўся з томскай соцыял-дэмакратычнай арганізацыяй. У студзені 1905 г. С. М. Кіраў прыняў удзел у арганізацыі ўзброенай дэманстрацыі, 2 лютага 1905 г. быў арыштаван на нелегальным партыйным сходзе разам з 40 таварышамі. Пасядзеў у „адміністратыўным парадку" некалькі месяцаў. У хуткім часе пасля гэтага арышту т. Кіраў становіцца прафесіянальным рэволюцыянерам, аддае ўсе свае сілы і выдатныя здольнасці партыйнай рабоце.

З першых шагоў сваёй рэволюцыйнай дзейнасці т. Кіраў далучыўся да невялікай тады групы томскіх большэвікоў. Затым уводзіцца ў склад томскага камітэта РСДРП і загадвае нелегальнай партыйнай друкарняй. У рэволюцыю 1905 г. на ст. Тайга праводзіў забастоўку чыгуначных рабочых, прайшоўшую з вялікім поспехам.

У самым пачатку 1906 г. т. Кіраў быў камандыраван партыйнай арганізацыяй у Маскву і Пецербург для набыцця добрай друкарскай машыны, але ў дзень ад'езду быў арыштован. Прасядзеўшы ў томскай турме каля года, быў вызвален пад залог да суда, але затым зноў арыштован па абвінавачванню ў стварэнні нелегальнай друкарні і прыгаворан судом да 3 год зняволення ў крэпасці.

Пасля адбыцця зняволення т. Кіраў пераехаў у Іркуцк, але ў хуткім часе яму прышлося ўцякаць на Каўказ—ва Уладзікаўказ. Арганізацый тут не было. Былі толькі паасобныя таварышы. Тут т. Кіраў у якасці нелегальнага работніка пражыў некалькі год. Пачалася вайна. У 1915 г. 4-ы арышт. Па этапу адпраўлен у Томск і Омск. Зноў год турмы. Прадстаяла высылка ў Нарымскі край, але перашкодзіла лютаўская рэволюцыя.

Тав. Кіраў прымае ў ёй самы непасрэдны ўдзел у якасці члена уладзікаўказскага камітэта соцыял-дэмакратычнай арганізацыі. Ва Уладзікаўказе ён працуе ўвесь 1917 г. і, калі над Каўказам запылала полымя

Кастрычніка, т. Кіраў—адзін з арганізатараў совецкай улады і кіраўнікоў узброенай барацьбы супроць белаказачых банд. Яго камандырue большэвіцкая арганізацыя ў Маскву за зброяй і снаражэннем для нараджаючагася чырвонага каўказскага фронта.

З вялікім транспартам ваенных прыпасаў варочаўся т. Кіраў у 1918 г. на Каўказ праз Царыцын. Але прабрацца ўжо было нельга. Золатапагонныя банды паспелі адцясніць разрозненыя партызанскія атрады каўказскай Чырвонай арміі. Партыя ўжо ведае т. Кірава—загартаванага і стойкага байца, яго светлы розум, яго спакойную рашучасць і ахвярную адданасць пролетарскай рэволюцыі. Яму даручаюць адказнейшы ўчастак барацьбы з контррэволюцыяй—абарону Астрахані. Кіраў упісвае найярчэйшую старонку ў гісторыю грамадзянскай вайны. Тут, каля нізоўя Волгі, т. Кіраў кіруе збіраннем і прывядзеннем у парадак XI арміі. Астрахань асталася ў руках Советаў, бо ў Рэволюцыйным ваенным совеце XI арміі, абараняўшай волжскую совецкую цвярдыню, кіпела невычарпальная энергія Сергея Міронавіча.

Разам з XI арміяй, на чале яе, т. Кіраў удзельнічае ў разгроме Дзенікіна, у аднаўленні совецкай улады на Паўночным Каўказе і ў Баку.

Пачынаецца паласа напружаных адносін паміж совецкім Азербайджанам і меншавіцкай Грузіяй. Совецкі ўрад назначае т. Кірава паўнамоцным прадстаўніком РСФСР у Тыфлісе. Праз некаторы час Сергей Міронавіч атрымлівае новае адказнае даручэнне—удзельнічаць у якасці члена совецкай дэлегацыі ў перагаворах з Польшчай аб міры.

Затым—зноў партыйная работа на Паўночным Каўказе, потым у Азербайджане. Тут т. Кіраў працуе ў якасці сакратара Цэнтральнага камітэта азербайджанскай комуністычнай партыі, члена закаўказскага Краявога камітэта ВКП(б). Тав. Кіраву—выдатнаму партыйнаму кіраўніку належыць нямала заслуг у стварэнні і ўмацаванні совецкай улады на Паўночным Каўказе і ў Закаўказзі. Бакінскі пролетарыят цаніў і любіў свайго кіраўніка, друга т. Кірава.

Партыя добра ведала т. Кірава. На X партыйным з'ездзе ён выбіраецца кандыдатам у члены Цэнтральнага камітэта, а на XI з'ездзе—членам Цэнтральнага камітэта партыі.

Страсны рэволюцыянер, непрымірымы вораг малейшых адхіленняў ад большэвізма, ад ленінізма т. Кіраў быў выдатным байцом за партыю, за Цэнтральны камітэт, за перамогу соцыялізма ў нашай краіне. Кіраў быў адным з першых там, дзе партыя вяла барацьбу пад кіраўніцтвам т. Сталіна з контррэволюцыйным трацкізмам, з зіноўеўскай апазіцыяй, правымі апартуністамі. Кіраў—бліжэйшы саратнік, вучань і друг вялікага Сталіна.

У 1926 г., пасля разгрому зіноўеўскай апазіцыі, т. Кіраў—сакратар Ленінградскага губкома ВКП(б) і паўночна-заходняга бюро Цэнтральнага камітэта ВКП(б) і кандыдат у члены палітбюро ЦК ВКП(б).

З 1928 г.—сакратар ленінградскага абласнога камітэта ВКП(б). З 1930 г.—член палітбюро ЦК ВКП(б), а з 1934 г.—член палітбюро, сакратар ЦК ВКП(б) і сакратар ленінградскага абласнога і гарадскога камітэтаў партыі.

Тав. Кіраў—член прэзідыума Цэнтральнага выканаўчага камітэта СССР многіх скліканняў.

Тав. Кіраў быў любімым кіраўніком ленінградскіх рабочых, сярод якіх ён карыстаўся велізарным аўтарытэтам. Гэта быў сапраўдны трыбун, усё жыццё якога найярчэйшая старонка ў летапісі гераічных год пролетарскай рэволюцыі і яе велізарных заваёў. Тав. Кіраў змагаўся 30 год за справу рабочага класа як сапраўдны большэвік. І такім смерць засцігла яго на баявым пасту.

# На забойства т. Кірава асветнікі адкажуць яшчэ большай згуртаванасцю

*Да настаўнікаў, да асветнікаў*

Дарагія таварышы, калі Кастрычніцкая рэволюцыя паклала канец уладзе памешчыкаў і капіталістаў, іх злосці і ненавісці да большэвікоў не было граніц. Не было такога паклёпу, якога не стараліся-б яны і іх прыспешнікі ўзвесці на савецкую ўладу, на большэвікоў, на большэвіцкую партыю.

З настаўніцтва белыя хацелі зрабіць сабе апору. Не вышла. Настаўніцтва, асветнікі, працуючы ў школах, на лікпунктах, у хатах-чытальнях, у бібліятэках, блізка стаяць к шырокім масам працоўных. Тое, чым жыве маса, ім блізка і зразумела. Гады грамадзянскай вайны наглядна паказалі, што прынесла-б народу аднаўленне ўлады памешчыкаў і капіталістаў. І ў самыя цяжкія гады барацьбы, у самыя цяжкія гады разрухі настаўніцтва стала ўсё цясней і цясней згуртоўвацца вакол партыі, вакол савецкай улады. І калі памёр Ільіч, т. Шацкі, якога мы нядаўна хавалі, адзін з папулярнейшых у настаўніцкіх масах педагогаў, пісаў мне: „Мы з жонкаю рашылі цяпер раз назаўсёды—мы пойдзем з партыяй, будзем працаваць па яе дырэктывах. Справа партыі—узяць нас ці не ў лік членаў партыі, але мы назаўсёды пойдзем з ёю“. Партыя ўзяла іх у свае рады. Тав. Шацкі выразіў у сваім пісьме тую рашучасць, якая ахапіла тады настаўніцкія масы. Усерасійскі настаўніцкі з'езд паказаў, што настаўніцтва стала апорай савецкай улады, цесна згуртавалася вакол партыі.

У краіне Саветаў ідзе вялікая будоўля. У гэтай будоўлі актыўнейшы ўдзел прымаюць настаўнікі-асветнікі. А што робіцца вакол у капіталістычных краінах? Гіне, разлагаецца капіталізм. У прыгонніцкія аковы стараецца фашызм закаваць працоўныя масы, у моры крыві затапіць рабочых, якія рвуць гэтыя аковы. Няма граніц яго лютасці. Шляхам новай грабежніцкай вайны хочуць капіталісты ўмацаваць сваю ўладу, а масы ўсё далей адходзяць ад фашызма. Усё ярчэй свеціць ім факел Саюза савецкіх соцыялістычных рэспублік.

Палітыка міру, якую ўпарта праводзіць савецкая ўлада, узрастаючая магутнасць нашага Саюза, магутнасць Чырвонай арміі, умацаванне ўплыву партыі ў вёсцы, паглыбленне работы саветаў, барацьба з бюракратызмам, культурны рост нашай краіны Саветаў, згуртаванасць усіх нацыянальнасцей, якія ўваходзяць у склад нашага Саюза,—выклікаюць дзікае шаленства ў белых, у фашыстаў, у іх прыспешнікаў.

Забойца Сергея Міронавіча Кірава—адзін з такіх прыспешнікаў.

Стрэл у спіну, у патыліцу, стрэл у аднаго з любімейшых правадыроў рабочых, гарачага комуніста, гарачага вучня Леніна—Сталіна, стрэл у беззаветнага барацьбіта за справу працоўных—свайго роду сімвал.

Толькі з-за вугла, толькі ў спіну, толькі схаваўшы свой твар, можна страляць у краіне Советаў у чалавека за тое, што ён друг і таварыш рабочага класа, друг і таварыш працоўных.

Глыбокую ганьбу і абурэнне выклікаюць такія акты. Гэты стрэл— спроба арганізаваць рассеяныя, хаваючыяся падонкі белагвардзейскіх банд, уцалеўшых чорнасоценцаў. І таму патрэбны пільнасць, насцярожанасць. Пільнасць умацоўваецца свядомасцю. Я не сумняваюся, што стрэл чорнасоценнага забойцы ў спіну барацьбіта за соцыялізм яшчэ цясней згуртуе ўсё настаўніцтва, усіх асветнікаў вакол комуністычнай партыі,— вакол любімага яе правадыра т. *Сталіна*, прымусіць настаўніцтва яшчэ глыбей прадумаць усё, што адбываецца, выпрацаваць з сябе сапраўдных барацьбітоў за соцыялізм, глыбей і шырэй ставіць сваю работу з масамі, расціць падрастаючае пакаленне комуністамі, барацьбітамі і будаўнікамі кіраўскай загартоўкі.

*Н. Крупская.*
*(„Правда“)*

# Завершаны круг здрад і прэдацельства

Ужо некалькі дзён аддзяляюць нас ад VII з'езда советаў, да якога з найвялікшым уздымам рыхтуецца ўся краіна. Ад берагоў Ціхага акіяна да пагранічных раёнаў Беларусі і Украіны, ад запалярных прастораў Кіраўска (Хібінагорска) да совецкіх субтропікаў, да „пламенной Колхиды"— усюды заканчваюцца выбары ў советы, ідуць раённыя, абласныя і краявыя з'езды советаў. Выбары ў советы з'явіліся сапраўдным аглядам той гіганцкай работы, якая праароблена за апошнія гады ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва.

Калі лепшыя ўдарнікі Масквы ў час выбараў аб'язджалі на аўтамабілях фабрыкі, заводы, да непазнавальнасці перарабленыя, прыгожыя вуліцы соцыялістычнай Масквы, яны з гонарам і радасцю глядзелі на справу сваіх рук. Не дарма было пакладзена столькі гераічных усілляў за гады першай і другой пяцігодкі. Няма ўжо такой машыны, якую мы не змаглі-б зрабіць на нашых заводах. Наша чорная металургія 16-га снежня выканала свой гадавы план, даўшы краіне 10 мільёнаў тон чыгуна, павялічыўшы за год сваю прадукцыю на 48 процантаў. Наша чорная металургія трывала заняла першае месца ў Еўропе і другое— у свеце. А толькі нядаўна яшчэ яна была адстаючым участкам.

Соцыялістычнаму земляробству прышлося вясной гэтага года вытрымаць сур'ёзны бой з прыродай, з неспрыяючымі кліматычнымі ўмовамі. Дзякуючы перавагам у соцыялістычнай сістэме гаспадаркі мы вышлі з гонарам з гэтага выпрабавання. Ураджай у цэлым па ўсёй краіне аказаўся прыкладна на ўзроўні мінулага года, а за кошт лепш арганізаванай уборкі, за кошт памяншэння страт было фактычна сабрана на 250—300 млн. пудоў хлеба больш, чым у мінулым годзе.

Буйнейшай перамогай соцыялізма з'яўляецца рашэнне лістападаўскага пленума ЦК аб адмене картачак на хлеб і некаторыя іншыя прадукты. Яно паказвае, наколькі мы прасунуліся ўперад, якія агромныя матэрыяльныя фонды мы стварылі. Яно вядзе да поўнага росквіту ўсіх тых магчымасцей, якія закладзены ў соцыялістычнай экономіцы, у совецкім гандлі. З кожным днём павялічваецца колькасць і рознастайнасць тавараў, неабходных для насельніцтва. Краіна наша з кожным днём становіцца ўсё больш магутнай і багатай. Гэта вымушаны прызнаць нават буржуазныя журналісты—людзі, якіх нельга западозрыць у асобых сімпатыях да комунізма. Як ніколі, поўнакроўны пульс жыцця нашай вялікай радзімы. Усюды кіпіць творчая работа. Спакойна, упэўнена будуюць рабочыя, калгаснікі і ўсе працоўныя СССР прыгожае, светлае радаснае жыццё. Яны будуюць гэтае жыццё пад кіраўніцтвам сваёй роднай комуністычнай партыі на чале з яе любімым і мудрым правадыром, настаўнікам і другам працоўных т. *Сталіным*. І ніякія сілы ў свеце не змогуць перашкодзіць працоўным СССР закончыць пабудову вялікага будынка соцыялізма.

Але наша радасць засмучана зладзейскім забойствам любімца ўсёй партыі—т. Кірава, якога вырвалі з нашых радоў гнусныя падонкі зіноўеўскай антыпартыйнай групы, якія скаціліся ў клааку белагвардзейска-фашысцкай контррэволюцыі. Хто яны, гэтыя тройчы праклятыя і ганьбаваныя забойцы з „ленінградскага цэнтра“? Тут зышліся тыя, хто гадамі вынашваў у сваіх дробных, брудных душонках звярыную злобу і ненавісць да партыі, да кіраўніцтва Цэнтральнага камітэта. Дзевяць-дзесяць год назад большасць з іх была маладымі людзьмі з ліку „падаючых надзей“. Зіноўеў сваёй агіднай дэмагогіяй збіваў з правільнага шляху гэтых зялёных юнакоў, унушаў ім мысль, што яны соль зямлі, „сапраўдныя рэволюцыянеры 96 пробы“. Сярод іх лідэры зіноўеўскай антыпартыйнай апазіцыі яшчэ напярэдадні XIV з‘езда, не саромяючыся, вялі контррэволюцыйную балбатню наконт „тэрмідора“, унушаючы ім мысль, што старыя партыйныя кадры нібы „перарадзіліся“. Ужо тады ў іх сеялася насенне злобы і надавер‘я да кіраўніцтва Цэнтральнага камітэта, ім даказвалася, што пабудова соцыялізма ў нашай краіне немагчыма. Сярод іх пашыраліся розныя „синие тетрадки“ і іншыя фракцыйныя дакументы зіноўеўскай апазіцыі. Імкнучыся проціпаставіць комсамол партыі, зіноўеўская апазіцыя спрабавала ў 1925 г. склікаць у Ленінградзе амаль што ўсерасійскую канферэнцыю комсамола без ведама ЦК партыі і ЦК комсамола. Як вядома, спробыператварыць ленінградскую партыйную і комсамольскую арганізацыі ў цэнтр барацьбы супроць Цэнтральнага камітэта закончыліся пазорным крахам зіноўеўскай апазіцыі. Ленінградская партыйная арганізацыя, ленінградскія пролетарыі ўжо ў ходзе XIV з‘езда пераканаліся ў антыпартыйных замыслах зіноўеўскай апазіцыі. Адкінуўшы яе, ленінградская партарганізацыя пад кіраўніцтвам т. Кірава згрупавалася вакол Цэнтральнага камітэта і заняла належнае ёй месца ў барацьбе за пабудову соцыялізма ў нашай краіне.

Наперакор капітулянтам і дэзертырам, якія не верылі ў справу соцыялістычнага будаўніцтва, вырас новы Ленінград. Яго славутымі заводамі, кузьняй індустрыяльнай магутнасці СССР, ганарыцца ўся краіна. Але агідныя перабежчыкі ў лагер капіталізма не бачылі гэтых дасягненняў. Асляпленыя злабой да партыі, контррэволюцыйныя вырадкі на ўсё глядзелі вачыма нашых *заклятых ворагаў*. Гнусныя падонкі зіноўеўскай антыпартыйнай і антысовецкай групы, якія скалацілі свой „ленінградскі цэнтр“, з ненавісцю глядзелі на кожны новы завод, на кожны новы палац культуры, на соўгасы і калгасы, якія ўзмацняюцца, на калгасныя базары. Бо ўсё гэта гаварыла, крычала аб іх здрадзе рэволюцыі, усё гэта біла па іх контррэволюцыйнай устаноўцы „чым горш, тым лепш“.

Яны прадаўжалі чапляцца за старую антыпартыйную трацкісцка-зіноўеўскую платформу, яны балбаталі аб „непасільнасці“ тэмпаў індустрыялізацыі, аб непатрэбнасці калгасаў і соўгасаў, яны аплаквалі кулацтва, ліквідаванае ў асноўным як клас. Але ці маглі яны прыйсці з гэтай праграмай аднаўлення капіталізма ў нашай краіне да рабочых і калгаснікаў? Вядома, не. Вось чаму сярод фашысцкай банды забойцаў з „ленінградскага цэнтра“ няма ніводнага рабочага, ніводнага калгасніка. Гнусныя падонкі былой зіноўеўскай антыпартыйнай і антысовецкай апазіцыі вымушаны былі варыцца ва ўласным саку, у вузкім кругу людзей, звязаных доўгімі гадамі барацьбы супроць партыі і дыктатуры пролетарыята.

Не маючы ніякіх надзей звярнуць партыю і рабочы клас з шляху пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва, праклятыя контррэволюцыйныя вырадкі сталі марыць аб інтэрвенцыі, аб узброеным нападзе імпе-

рыялістаў на СССР. Яны спадзяваліся, што такім шляхам сарвецца выкананне планаў другой пяцігодкі, што такім шляхам удасца звергнуць ненавісную ім совецкую ўладу. Ці патрэбен больш яркі доказ белагвардзейска-фашысцкай сутнасці так званага „ленінградскага цэнтра"?

Л. Нікалаеў заяўляў блізкім людзям, што „звергнуць Совецкую ўладу магчыма толькі шляхам нападу на яе замежных капіталістычных дзяржаў і што ён будзе ўсімі мерамі дапамагаць, будучы за граніцай, усякай капіталістычнай дзяржаве, якая нападзе на Совецкі саюз, каб звергнуць Совецкую ўладу".

Гнусныя падонкі зіноўеўскай антыпартыйнай і антысовецкай групы звязаліся з прадстаўнікамі капіталістычнага акружэння, не раз хадзілі да іх за дапамогай, прапаноўвалі ім розныя шпіёнскія „матэрыялы". Контррэволюцыйная шайка „ленінградскага цэнтра" атрымоўвала буйныя грашовыя падачкі ад консула адной з замежных дзяржаў, праз гэтага консула імкнулася звязацца з мацёрым контррэволюцыянерам *Троцкім.*

Вось што гаворыць аб гэтым у сваіх паказаннях *Л. Нікалаеў:*

„На наступнай сустрэчы—трэцяй ці чацвертай у памяшканні консульства—консул паведаміў мне, што ён згодзен задаволіць мае просьбы, і даў мне пяць тысяч рублёў.

Пры гэтым сказаў, што ўстанавіць сувязь з *Троцкім* ён можа, калі я дам якое-небудзь пісьмо ад групы да *Троцкага.*

Аб сваёй размове з консулам я паведаміў *Каталынава,* перадаўшы яму атрыманыя грошы ў размеры чатырох тысяч пяцісот рублёў, а пяцьсот рублёў пакінуў сабе".

*Няма ніякай розніцы* паміж мэтамі і метадамі барацьбы контррэволюцыйных падонкаў зіноўеўскай апазіцыі і паміж мэтамі і метадамі адкрытых ворагаў народу—эмігранцкіх белагвардзейскіх памешчыцка-капіталістычных арганізацый „Российский общевоинский союз" і „Братство русской правды" (дзенікінцы), якія адкрыта прапагандавалі тэрор, сістэматычна перакідваючы на тэрыторыю СССР сваіх агентаў у мэтах арганізацыі і ўтварэння тэрарыстычных актаў супроць прадстаўнікоў совецкай улады і ажыццявіўшых забойства *т. Вароўскага і т. Войкава.*

Фашысты з „ленінградскага цэнтра", гэтыя подлыя перабежчыкі ў лагер капіталізма, марыўшыя аб інтэрвенцыі, гатовыя дапамагаць самым лютым ворагам СССР, таксама паўсталі на шлях тэрора. Шляхам злачынскіх забойстваў кіраўнікоў партыі і ўрада яны думалі дэзарганізаваць партыю, дэзарганізаваць кіраўніцтва совецкага ўрада.

„Расследваннем устаноўлена,—гаворыцца ў паведамленні Народнага камісарыята ўнутраных спраў СССР ад 22-га снежня,—што гэтая антысовецкая група прадстаўляла сабой замкнутую групу, якая згубіла ўсякую надзею на падтрымку мас, палітычна пакінутую і стаўшую, з прычыны безнадзейнасці ажыццяўлення сваіх мэт, на шлях тэрора".

Не выпадкова і тое, што подлыя забойцы накіравалі сваю кулю ў т. *С. М. Кірава.* У злобных душонках удзельнікаў былой зіноўеўскай антыпартыйнай і антысовецкай апазіцыі гняздзілася нізкае пачуццё помсты да палкага трыбуна рэволюцыі, які разбіў ідэйна і палітычна зіноўеўскую апазіцыю ў Ленінградзе.

„Што датычыцца забойства т. *Кірава,*—гаворыцца ў паведамленні НКВД,—то тут, па заяве абвінавачваемых, меў месца дадатковы матыў помсты ў адносінах т. *Кірава,* які разбіў ідэйна і палітычна ленінградскую групу былых зіноўеўцаў. Нікалаеў гаворыць у сваіх паказаннях: „з *Кіравым* у былой апазіцыі ёсць свае асобыя рахункі ў сувязі з той барацьбой, якую ён арганізаваў супроць „ленінградскіх апазіцыянераў".

* * *

Хто выхаваў забойцаў з „ленінградскага цэнтра“? Хто быў на працягу многіх год настаўнікамі, ідэйным сцягам гэтай контррэволюцыйнай банды? Іх настаўнікамі і выхавальнікамі былі Зіноўеў і Каменеў.

Варта зараз успомніць некаторыя старонкі з гісторыі большэвіцкай партыі. Яны гавораць, што многа раз у рашаючыя, паваротныя моманты рэволюцыі Зіноўеў і Каменеў пазорна *здраджалі* нашай партыі і справе рэволюцыі.

1915 год. Ідзе царскі суд над дэпутатамі Дзяржаўнай думы і іншымі большэвікамі, захвачанымі на падпольнай канферэнцыі ў лістападзе 1914 г. У адрозненне ад мужных паводзін т. Петроўскага і інш. дэпутатаў-большэвікоў Каменеў пастыдна трусіць, імкнецца даказаць царскаму суду сваю салідарнасць з соцыял-патрыётам г. Іярданскім, сваю нязгоду з Цэнтральным камітэтам. У сваім артыкуле „Што даказаў суд над РСДР фракцыяй?“ Ленін кляйміў пазорам гэтыя паводзіны Каменева на судзе.

Сакавік 1917 г. Лютаўская рэволюцыя дакацілася да сібірскага захалуснага гарадка Ачынска. Каменеў выступае на мітынгу з ліберальнай соцыял-патрыятычнай прамовай (не дарма ён на судзе салідарызаваўся з Іярданскім!), лабызаецца з іменітымі ачынскімі купцамі і пасылае разам з імі прывітальную тэлеграму... Міхаілу Раманаву.

Красавіцкая канферэнцыя 1917 г. Каменеў выступае з садакладам *супроць* Леніна, супроць яго геніяльных красавіцкіх тэзісаў, супроць лозунга пераходу ад буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі да рэволюцыі соцыялістычнай. Каменеў самаўпэўнена заяўляе:

„На мой погляд, няправы таварыш Ленін, калі ён гаворыць, што буржуазна-дэмакратычная рэволюцыя закончылася. Я думаю, яна не закончылася. У гэтым наша разыходжанне“.

Каменеў спявае ўсхваляльныя гімны буржуазнай дэмакратыі: „Рана яшчэ гаварыць, што буржуазная дэмакратыя вычарпала ўсе свае магчымасці“.

Кастрычнік 1917 г. Двойчы паўтараюць Зіноўеў і Каменеў самую чорную здраду, штрэйкбрэхерства, дэзертырства ў вялікія Кастрычніцкія дні 1917 г.

Пад кіраўніцтвам *Леніна* і *Сталіна* партыя ўзмоцнена рыхтавала Кастрычніцкі штурм. 23 (10) кастрычніка ЦК партыі выносіць гістарычнае рашэнне аб узброеным паўстанні. Зіноўеў і Каменеў шалёна змагаліся супроць гэтага рашэння. Пацярпеўшы паражэнне, яны здрадніцкі выступілі ў непартыйным друку з палемікай супроць рашэння ЦК аб узброеным паўстанні, здрадніцкі раскрываючы перад буржуазіяй планы нашай партыі. Ленін у пісьме да членаў партыі большэвікоў гаварыў аб *„бязмернай подласці, сапраўдным здрадніцтве“* Зіноўева і Каменева, патрабаваў іх выключэння з партыі.

„Каменеў і Зіноўеў *выдалі* Радзянку і Керанскаму рашэнне ЦК сваёй партыі аб узброеным паўстанні і аб захаванні ад ворага падрыхтоўкі ўзброенага паўстання, выбару тэрміну для ўзброенага паўстання“,—гнеўна пісаў Ленін (т. XXI, стар. 335).

Але на гэтым не закончылася здрадніцкая роля Зіноўева і Каменева ў Кастрычніцкія дні. Яны прызналі на словах сваю памылку, іх аставілі ў партыі. Аднак не прайшло і некалькі дзён, яшчэ не закончылася ўзброеная барацьба з юнкерамі і казакамі, як Зіноўеў і Каменеў учыняюць новае здрадніцтва. Яны патрабавалі ад ЦК утварыць урад з усіх так званых „соцыялістычных партый“, ува што-б та ні стала пайсці на згоду з правымі эсерамі і меншавікамі. Яны гатовы былі прыняць

ультыматум правых эсераў і меншавікоў, якія патрабавалі не больш, не менш як зняцце Леніна з паста старшыні Соўнаркома і замены яго Аўксенцьевым або Чэрновым!

Пераканаўшыся, што ім не ўдасца пахіснуць цвёрдую волю ленінскага ЦК, Каменеў і Зіноўеў з жалкай кучкай сваіх прыхільнікаў (Шляпнікаў, Рыкаў і інш.) дэзертуюць з пастоў, падаюць заявы аб адстаўцы, спадзяючыся гэтым стварыць крызіс у радах партыі і ўрада.

Буржуазія і яе пасобнікі радаваліся і зларадчнічалі па поваду гэтай заявы, крычалі аб развале, прарочылі гібель большэвіцкага ўрада. Але дэзертырам і штрэйкбрэхерам Кастрычніцкай рэволюцыі не ўдалося ні на мінуту паслабіць вялікі ўздым мас, вялікі гераізм мільёнаў рабочых, салдат і сялян, які „адсунуў дэзертыра з такой-жа лёгкасцю, з якой чыгуначны поезд адкідвае трэскі".

Ленін указваў, што кастрычніцкі пазорны „эпізод" Каменева і Зіноўева, вядома, *не з'яўляўся выпадковым*. Не выпадкова, што яшчэ напярэдадні XIV партканферэнцыі, калі партыя пад кіраўніцтвам т. *Сталіна* разгортвала грандыёзны план пабудовы соцыялізма ў нашай краіне, Зіноўеў і Каменеў зноў выступілі з панічнымі, штрэйкбрэхерскімі заявамі, нібыта мы „не зможам справіцца з унутранымі труднасцямі з-за нашай тэхнічнай і эканамічнай адсталасці, калі толькі нас не выратуе міжнародная рэволюцыя".

Невыпадкова іх шалёная фракцыйная барацьба супроць ЦК у перыяд XIV з'езда партыі. Невыпадкова, што „ідэйнай базай" гэтай барацьбы з'явілася адмаўленне ленінскай тэорыі магчымасці перамогі соцыялізма ў адной краіне, геніяльна развітай т. *Сталіным*.

Штрэйкбрэхерства і здрадніцтва ў Кастрычніцкія дні, гнілая меншавіцкая тэорыя, што мы павінны пагібнуць ад тэхнічнай адсталасці, якая развівалася Зіноўевым і Каменевым у перыяд XIV партканферэнцыі, барацьба супроць партыі на XIV з'ездзе пад лозунгам немагчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне, беспрынцыпны блок з контррэволюцыйным троцкізмам і іншымі антыпартыйнымі і антысовецкімі групоўкамі, здрадніцкія, антысовецкія выступленні супроць партыі і дыктатуры пролетарыята перад XV з'ездам, выключэнне з партыі на XV з'ездзе; пасля аднаўлення ў партыі — двурушніцкае заігрыванне з правымі ў 1928—1929 г г., сувязь з контррэволюцыйнай групай Руціна і іншых у 1932 г. і, нарэшце, сувязь з контррэволюцыйнымі паследкамі зіноўеўскай апазіцыі, „ленінградскім цэнтрам",—такі завершаны круг прэдацельства і здрад партыі, праробленны Зіноўевым і Каменевым.

Двурушніцтва, крывадушныя заявы і слязлівыя пакаянні з мэтай ашукання партыі сталі іх другой натурай. Гэтаму яны абучалі і сваіх паследкаў.

* * *

На гэтых прыкладах двурушніцтва і ашуквання партыі, на прамых дырэктывах Зіноўева—падаваць фальшывыя, ашуканскія заявы, каб, аднавіўшыся ў партыі, зручней весці барацьбу супроць партыі, супроць дыктатуры пролетарыята,—выхоўваліся і тыя, хто потым канчаткова скаціўся на шлях белагвардзейска-фашысцкай тэрарыстычнай дзейнасці „ленінградскага цэнтра".

Прыкрываючыся ілжывымі заявамі, як ядавітая змяя, упаўзалі яны ў партыю, каб рыхтаваць свае подлыя ўкусы. Гэтым прэзрэнным вырадкам і тупым бяздзельнікам былі арганічна праціўны ўпорная, штодзённая работа і вучоба, была ненавісна жалезная партыйная дысцыпліна. Сустракаючыся пад відам розных сямейных урачыстасцей, пад відам

успамінаў аб гісторыі ленінградскага комсамола (якую яны ўсяк фальсіфікавалі ў духу трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі) і т. д., яны накачвалі адзін другога дзікай злобай да партыі, да яе кіраўніцтва. Плодам гэтай контррэволюцыйнай, фашысцкай „работы" з'явіўся выстрал 1-га снежня.

Раздавіць контррэволюцыйную фашысцкую гадзіну! Смерць забойцам і іх пасобнікам!—такі аднадушны голас мас рабочых і калгаснікаў, да глыбіні душы патрасенных зладзейскім забойствам т. Кірава. Выкарчаваць з коранем усе контррэволюцыйныя падонкі былой зіноўеўскай антыпартыйнай і антысовецкай групы! Яшчэ больш трэба ўзмацніць класавую, палітычную пільнасць, каб здыхаючая контррэволюцыйная змяя не магла больш укусіць партыю. Яшчэ больш трэба ўзмацніць пільнасць і на ідэалагічным фронце.

Мы ні на мінуту не можам забываць указання т. *Сталіна*.

„Трэба мець на ўвазе, што рост магутнасці совецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленне апошніх астаткаў паміраючых класаў. Іменна таму, што яны паміраюць і дажываюць апошнія дні, яны будуць пераходзіць ад адных форм наскокаў да другіх, больш рэзкіх форм наскокаў... Няма такой пакасці і паклёпаў, якіх-бы гэтыя былыя людзі не ўзвялі на совецкую ўладу, вакол якіх не паспрабавалі-б мабілізаваць адсталыя элементы. На гэтай глебе могуць ажыць і заварушыцца разбітыя групы старых контррэволюцыйных партый эсераў, меншавікоў, буржуазных нацыяналістаў цэнтра і акраін, могуць ажыць і заварушыцца асколкі контррэволюцыйных апазіцыйных элементаў з трацкістаў і правых ухілістаў".

Помніць аб ворагу, усюды выкарчоўваць яго астаткі, узмацніць ва многа разоў нашу ідэйна-палітычную і арганізатарскую работу!

Аб гэтым гаварыў у сваім дакладзе аб ітогах лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б) т. *Кагановіч*:

> *„Пільнасць патрабуе не толькі помніць аб ворагу. Пільнасць патрабуе, каб мы ўдзесяцярылі сваю барацьбу, каб мы ўдзесяцярылі сваю ідэйна-палітычную і арганізатарскую работу. Пільнасць патрабуе, каб мы ўсюды разілі ворага, да канца выкарчоўвалі яго астаткі".*

На забойства т. *Кірава* партыя і ўсе працоўныя СССР адказваюць узмоцненай работай па будаўніцтву соцыялізма, адказваюць бязлітасным разгромам класавых ворагаў і іх агентуры, адказваюць яшчэ большым згуртаваннем вакол ленінскага, сталінскага Цэнтральнага камітэта, вакол любімага правадыра партыі і сусветнага пролетарыята т. *Сталіна*.

*(„Большевик" № 23, 1934 г.)*

---

*А. Чарнушэвіч*

*(Народны камісар асветы БССР)*

# Ад X к XI Усебеларускаму з'езду Советаў

Рабочы клас і шырокія масы працоўных Совецкай Беларусі сустракаюць XI Усебеларускі і VII Усесаюзны з'езды советаў велізарнейшымі перамогамі на ўсіх франтах соцыялістычнага будаўніцтва.

За перыяд пасля X Усебеларускага з'езда советаў мы маем такія гістарычнага значэння перамогі, як завяршэнне першай пяцігодкі ў 4 гады, паспяховае выкананне плана першых двух год другой пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бясквасавага соцыялістычнага грамадства.

У нас пабудован фундамент соцыялістычнай эканомікі. „Працоўнае сялянства, наша совецкае сялянства канчаткова і беспаваротна ўстала пад чырвоны сцяг соцыялізма“ (*Сталін*). У Совецкай Беларусі, як і ва ўсім Саюзе, канчаткова вырашана ленінскае „хто—каго“—соцыялізм перамог канчаткова і беспаваротна.

Беларусь з адсталых акраін былой царскай Расіі ператварылася ў індустрыяльна-калгасную краіну, у адну з перадавых рэспублік Совецкага саюза не толькі па росквіту сваёй эканомікі, але і культуры—нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу. Гэтыя поспехі не прышлі самацёкам. Гэты нябачаны ў гісторыі росквіт з'яўляецца рэзультатам таго, што КП(б)Б цвёрда праводзіла генеральную лінію партыі, бязлітасна змагаючыся з усімі ўхіламі ад яе. Нашы поспехі з'яўляюцца рэзультатам правільнага ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі. Гэтага велізарнейшага росту наша рэспубліка дасягнула пры брацкай дапамозе пролетарыята ўсяго Саюза ССР. Нашы поспехі—рэзультат ленінскага кіраўніцтва ЦК ВКП(б) на чале з мудрэйшым правадыром партыі і сусветнага пролетарыята т. *Сталіным.*

Поспехі Беларусі ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва суправаджаліся разгорнутай барацьбой з класавым ворагам. Барацьба з буржуазнымі нацыяналістамі ўсіх колераў і іншымі класава-варожымі элементамі і іх агентамі, з усякімі скажэннямі ленінскай нацыянальнай палітыкі складала непарыўную частку работы партыйных і совецкіх арганізацый у практычным ажыццяўленні соцыялістычнага будаўніцтва. Пастанова ЦК ВКП(б) па справе настаўніка Сцепура дапамагла выкрыць новую тактыку класавага ворага, які праводзіў сваю шкодніцкую работу, прыкрываючыся фальшыва-нацыянальным сцягам. За гэты перыяд была выкрыта і ліквідавана контррэволюцыйная арганізацыя—„Беларускі нацыянальны цэнтр“, на чале якой стаялі агенты польскага фашызма.

Беларускія нацдэмы, карыстаючыся прытупленнем класавай пільнасці работнікаў органаў Наркомасветы, спрабавалі скарыстаць культурны фронт, у тым ліку і школу ў сваіх контррэволюцыйных мэтах. Яны

спрабавалі прывіць антыпралетарскую шавіністычную ідэалогію дзецям Совецкай школы, засмечваючы падручнікі і праграмы нацдэмаўскім хламам, працягваючы яго ў выкладанні. Класавы вораг, прыкрываючыся фальшыва-нацыянальным сцягам, спрабаваў скарыстаць кадры ВНУ і тэхнікумаў для сваёй шкодніцкай работы. Дзейнасць гэтых заядлых ворагаў працоўных выявілася ў затрыманні тэмпаў культурнага будаўніцтва, у засмечванні беларускай мовы архаізмамі, паланізмамі і іншым.

У сувязі з гэтым неабходна асабліва адзначыць гістарычную пастанову ўрада БССР аб спрашчэнні беларускага правапіса. Гэты дэкрэт нанёс сакрушаючы ўдар па беларускаму нацыяналізму і яго стаўцы на выкарчоўванне ўсяго таго, што збліжала працоўных Беларусі з рускім пралетарыятам, з пралетарскай Масквой. Гэта рашэнне ўрада выкрыла засмечанасць беларускай мовы нацдэмаўскім хламам і адначасова нанесла рашучы ўдар па вялікарускаму шавінізму, імкнуўшамуся ігнараваць усякую спецыфіку беларускай мовы. Не дарма ўвядзенне новага правапіса сустрэла сабатаж і супраціўленне нацдэмаўскіх і вялікадзяржаўных элементаў у нас, у БССР, і звярынае выццё беларускіх фашыстаў у Заходняй Беларусі.

КП(б)Б бязлітасна разграміўшы ворагаў рабочага класа, іх агентаў „справа“ і „злева“, разбіўшы на галаву нацыяналістаў усіх колераў, прывяла працоўных Беларусі да нябачных перамог.

На базе паспяховай індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі к XI Усебеларускаму з'езду советаў мы прыходзім з грандыёзнымі поспехамі ў галіне соцыялістычнай культурнай рэволюцыі. Аб гэтым сведчыць хаця-б адзін велізарнейшы рост затрат на народную асвету. Калі ў 1930 г. на гэтую справу было расходвана 53149 тыс. руб., то ў 1934 г. толькі па дзяржаўнаму і мясцоваму бюджэтах гэтыя расходы склалі 191596 тыс. руб., рост на 366 проц. Такое гіганцкае ўмацаванне матэрыяльнай базы культурнага фронта магчыма толькі ў нашых совецкіх умовах. Яно больш чым ярка гаворыць аб той велізарнейшай увазе, якую партыя і рабочы клас удзялілі і ўдзяляюць пытанням асветы мільённых мас працоўных усіх нацыянальнасцей. Возьмем такі адказнейшы ўчастак фронта культурнай рэволюцыі, як дашкольнае выхаванне. Беларусь няўхільна тут з года ў год прасоўваецца наперад да ажыццяўлення дашкольнага ўсенавуча. Толькі за апошні год нашымі дзіцячымі садамі і ачагамі ў гарадах ахоп дзяцей павялічыўся больш чым на 50 проц. у параўнанні з мінулым годам. і колькасць дзяцей у гарадскіх дашкольных установах зараз дасягае 38 000 чалавек. Яшчэ больш хуткімі тэмпамі разгортваецца дашкольнае выхаванне ў сельскіх мясцовасцях,—у параўнанні з мінулым годам тут мы маем рост на 78 проц. Аднак, гэты рост ні ў якім разе не задавальняе запросаў калгаснай вёскі. Задача далейшага арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў настойліва патрабуе яшчэ больш хуткіх тэмпаў у разгортванні сеткі дашкольных устаноў, але яго пакуль што нельга прызнаць упаўне здавальняючым. Праграмы дашкольных устаноў да апошняга часу былі перагружаны і надзвычайна соцыялагізаваны, у праграмах ігнараваліся дзіцячыя інтарэсы, у выніку чаго матэрыял, прападнасімы дзецям, быў для іх мала зразумелым. Надзвычайна дрэнна пастаўлена ў нас выданне кніжак для дашкольнікаў,— у 1934 г., напрыклад, выдана толькі адна кніжка.

Трэба звярнуць асаблівую ўвагу пытанню падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў дашкольных работнікаў,—кваліфікацыя іх асабліва на вёсцы яшчэ надзвычай нізкая.

Асноўным звяном ва ўсёй сістэме народнай асветы, безумоўна, з'яўляецца масавая школа. Яна адна з самых моцных рычагоў партыі ў выхаванні актыўных і свядомых будаўнікоў бяскласавага соцыялістычнага грамадства. Вось чаму на школу была звернута асаблівая ўвага і нашай партыяй і совецкай уладай. Мы можам з гонарам заявіць, што Совецкая Беларусь першай з саюзных рэспублік ажыццявіла ўсеагульнае абавязковае навучанне яшчэ ў 1932 г., што з'яўляецца „буйнейшай перамогай не толькі на гаспадарчым, але і на палітычным франтах“ (*Сталін*).

Гэта перамога дала магчымасць у тым-жа 1932 г. прыступіць да ўвядзення ўсенавуча на базе няпоўнай сярэдняй школы, і на сёнешні дзень ён у гарадах і рабочых пасёлках ужо поўнасцю ажыццяўлён. На вёсцы-ж пятымі класамі ахоплена 80 проц. дзяцей, скончыўшых пачатковую школу, і ў бліжэйшыя два гады гэта ўсеагульнае абавязковае навучанне ажыццявіцца поўнасцю і ў сельскіх мясцовасцях.

У 1932 г. мы прыступілі да ажыццяўлення праграмы партыі—да разгортвання сеткі сярэдняй 10-гадовай політэхнічнай школы. Зараз у старшых класах поўных сярэдніх школ налічваецца 7 100 чалавек. Развіццё дзесяцігадовай школы ліквідуе ўзросны і адукацыйны разрыў паміж вышэйшай і сярэдняй школай і значна расшырае кантынгенты для паступлення ў ВНУ. У школах рэспублікі ў сучасны момант навучаецца 979 000 дзяцей школьнага ўзросту і, што асабліва важна падкрэсліць, дзецям працоўных усіх нацыянальнасцей, якія насяляюць БССР, дана магчымасць навучацца на іх роднай мове.

Побач з разгортваннем сеткі беларускіх і нацменаўскіх школ у рабоце Наркомасветы за апошнія 2 гады асаблівая ўвага ўдзялялася барацьбе за ліквідацыю спадчыны нацдэмаўшчыны, за разгортванне сеткі рускіх школ. Ужо ў мінулым навучальным годзе ў гэтым напрамку была праробленa вялікая работа, працягвалася яна і ў гэтым годзе, і к пачатку бягучага навучальнага года сетка рускіх школ вырасла да 647 камплектаў пачатковай і 214 класаў няпоўнай сярэдняй школы. Аднак гэты рост рускай школы яшчэ цалкам не задавальняе запросаў у ёй працоўнага насельніцтва рэспублікі, і бліжэйшай задачай мы ставім далейшы рост гэтых школ. К пачатку навучальнага года школы Беларусі былі забяспечаны праграмамі і стабільнымі падручнікамі. Дарэчы аб падручніках—за апошнія два гады іх выпушчана 6 400 тыс. экземпляраў і апрача таго завезена з саюзных рэспублік падручнікаў для нацыянальных школ на 1000000 руб. Падручнікі сталі вышэй па сваёй якасці, яны пабудаваны ў адпаведнасці з праграмамі і забяспечваюць сістэматычныя веды па асновах навук. Але задаволенасць школ падручнікамі яшчэ недастатковая, у гэтым годзе стаіць задача папоўніць выпуск падручнікаў з такім разлікам, каб кожнага вучня забяспечыць поўным камплектам.

Безумоўны нашы поспехі ва ўмацаванні матэрыяльнай базы школы, але тут прадстаіць яшчэ вялікая работа, таму што патрэбны і вялікія сродкі для забеспячэння нашых школ дастатковай колькасцю наглядных дапаможнікаў, літаратурай, абсталяваннем політэхнічных майстэрняў і рабочых пакояў, трэба працягваць будаваць школьныя будынкі, галоўным чынам для няпоўных і поўных сярэдніх школ не толькі на вёсцы, але і ў гарадах, каб забяспечыць нармальную работу школ. Матэрыяльная база школы ў параўнанні з 1930 г. палепшылася ў некалькі разоў. К бягучаму навучальнаму году нашы школы падрыхтаваліся значна лепш, чым у папярэднія гады. Як-жа ідзе барацьба за павышэнне якасці школьнай работы?

У вытворчы паход мільённых мас працоўных за права рапартаваць з'ездам советаў сваімі вытворчымі перамогамі на соцыялістычнай будоўлі ўключылася актыўна совецкая школа і шырокія масы чырвона-

штандартнага настаўніцтва Беларусі. Сотнямі і тысячамі ўдарнікаў-настаўнікаў і вучняў, выкананнем навучальных планаў і праграм, паляпшэннем якасці вучобы, умацненнем барацьбы з класава-варожымі элементамі—школа і шырокія масы настаўніцтва адзначаюць адкрыццё XI Усебеларускага і VII Усесаюзнага з'ездаў саветаў. Асноўную ролю ў ажыццяўленні гістарычных рашэнняў ЦК партыі і ўрада аб школе адыграў настаўнік і ў першую чаргу настаўнік-ударнік. Ажыццяўляецца на справе ўказанне ЦК ВКП(б) аб тым, што настаўнік павінен стаць цэнтральнай фігурай, а ўрок—цэнтральным звяном педагагічнага працэса. Множацца і растуць рады настаўнікаў ударнікаў, для якіх работа ў школе стала сапраўды справай гонару, славы, доблесці і геройства.

У рэзультаце ўпарадкавання структуры школы, забеспячэння яе стабільнымі праграмамі і падручнікамі, умацавання матэрыяльнай базы школы і самаадданай работы асноўнай масы настаўніцтва веды вучняў, безумоўна, сталі больш высокімі, асабліва па матэматыцы, фізіцы і іншых прадметах. Аднак, граматнасць вучняў яшчэ недастатковая. Трэба прама сказаць, што недастаткова ў школе праводзіцца барацьба за чыстае граматнае пісьмо, за культуру вуснай і пісьмовай мовы. Слабым участкам у рабоце школы з'яўляецца выкладанне такіх важных прадметаў, як гісторыі і геаграфіі.

Выхаваўчая работа ва многіх школах не стаіць на належнай вышыні. Трэба прама сказаць, што ў цэлым радзе раёнаў выхаваўчай рабоце на ўроку і па-за школай не надаецца належнай увагі. Мы мелі факты, калі ў радзе школ асобныя „настаўнікі“ ў выхаваўчай рабоце прымяняюць старыя дарэволюцыйныя метады — фізічнае ўздзейнічанне, грубасць з дзецьмі, дачу дзецям розных мянушак. Факты гавораць аб тым, што ў асяроддзі настаўніцтва ёсць класава-варожыя элементы і іх вылазкам не заўсёды даецца рашучы адпор.

Пазашкольная работа не займае належнага месца ў жыцці школы. Мы маем факты безнагляднасці, хуліганства, грубых парушэнняў школьнай дысцыпліны. Класавы вораг у радзе школ спрабаваў уплываць на дзяцей, і ў выніку мелі месца факты антысемітызма і іншых класава-варожых праяў у школе. Трэба сказаць, што барацьба за павышэнне якасці вучобы, якая ва многіх выпадках насіла фармальны характар, прывяла да значнага паслаблення ўвагі да выхаваўчай работы ў школе і па-за школай.

На якасці работы школы дрэнна адбіваецца тая акалічнасць, што падрыхтоўка кадраў педагогаў не паспявала за ростам школьнай сеткі.

Наркомасветы прышлося недахоп кадраў папаўняць шляхам кароткатэрміновай падрыхтоўкі. Толькі за апошнія тры гады ў школы было накіравана каля 10 000 настаўнікаў, скончыўшых кароткатэрміновыя курсы. Зараз у няпоўнай сярэдняй школе—толькі 29 проц. настаўнікаў, маючых вышэйшую асвету, а ў пачатковай—толькі 39 проц., маючых закончаную сярэднюю. Такое становішча з усёй вастратой ставіць задачу падняцця кваліфікацыі настаўніцтва шляхам завочнага навучання і курсаў па павышэнню кваліфікацыі. Тут трэба прама сказаць: у нас не ўсё абстаіць благапалучна, план ахопу завочным навучаннем яўна не выканан, на месцах яшчэ не створаны ўмовы для нармальнай вучобы завочнікаў, не забяспечаны яны і патрэбнай літаратурай.

Асабліва слабае месца ў нас—гэта з забеспячэннем школ кваліфікаванымі выкладчыкамі гісторыі і геаграфіі. Для ліквідацыі гэтага прарыву ў гэтым годзе адкрыты гістарычныя і геаграфічныя факультэты пры Белдзяржуніверсітэце, а таксама пры Менскім і Магілеўскім педінстытутах. Зараз у нашых педтэхнікумах навучаецца 6 940 чалавек і ў педвузах 4400 чалавек. Толькі ў 1937 г. мы здолеем поўнасцю забяспечыць школы кваліфікаванымі кадрамі.

Пастанова ЦВК СССР аб ВНУ і тэхнікумах нанесла сакрушальны ўдар па ўсякага роду левацкіх і пражэкцёрскіх устаноўках у рабоце гэтых навучальных устаноў. На аснове гэтай пастановы тэрмін навучання ў педінстытутах павялічан да 4 год. Распрацаваны стабільныя навучальныя планы, распрацаваны праграмы па ўсіх курсах. Пакладзен канец таму непаразуменню ў метадах работы ВНУ, якое існавала раней. Праведзена вялікая работа па ачышчэнню навуковых кадраў ад класавароожых элементаў. Аднак, становішча педагагічных ВНУ астаецца ўсё яшчэ нездавальняючым. Асноўным недахопам з'яўляецца крайняя недастатковасць кваліфікаваных навуковых кадраў, нездавальняючае вучэбнае абсталяванне педінстытутаў і тэхнікумаў. Дрэнна ў нас яшчэ пастаўлена барацьба за паляпшэнне матэрыяльна-бытавога абслугоўвання студэнцтва. Усе гэтыя недахопы трэба як мага хутчэй ліквідаваць і тым самым ажыццявіць указанне правадыра т. *Сталіна* на XVII з'ездзе аб педагагічных ВНУ.

Трэба з асаблівай вастратой паставіць пытанне аб неабходнасці павышэння класавай пільнасці на ўсіх участках культурнага будаўніцтва. За апошні час мы маем у асобных школах вылазкі недабітых беларускіх нацдэмаў, вялікадзяржаўных шавіністаў. У некаторых ВНУ Менска, дзякуючы прытупленню класавай пільнасці кіруючых работнікаў і партыйных арганізацый гэтых навучальных устаноў, астаткі трацкісцкага атрэп'я спрабавалі прапагандаваць контррэвалюцыйныя трацкісцкія „тэорыі“. Усё гэта прымушае нас ставіць задачай усім работнікам культурна-асветных устаноў узмацніць барацьбу за аўладанне тэорыяй Маркса—Леніна—Сталіна, быць большэвіцкі непрымірымымі да ўсіх класава-варожых вылазак, узмацніць барацьбу за правільнае праводзенне ленінскай нацыянальнай палітыкі партыі, за ўкараненне пралетарскага інтэрнацыяналізма ва ўсю работу па выхаванню падрастаючага пакалення і ў падрыхтоўцы кадраў спецыялістаў, пранізаць ім усю работу культурна-асветных устаноў.

Перад намі стаіць задача—павысіць якасць работы ўсіх культурных устаноў, пачынаючы ад дзіцячага сада да ВНУ, ад лікпункта да клуба і тэатра. Гэту задачу паставілі перад намі партыя і ўрад. Гэтага патрабуюць важнейшыя запатрабаванні працоўных соцыялістычных прадпрыемстваў і палёў. Выкананне гэтай задачы патрабуе ад усіх органаў Наркомасветы, ад шматтысячнай арміі асветнікаў яшчэ большай настойлівасці, большэвіцкай упартасці і пільнасці. Пад сцягам Маркса—Леніна—Сталіна мы прышлі к з'езду советаў з велізарнейшымі дасягненнямі на ўсіх франтах соцыялістычнага будаўніцтва, пад гэтым сцягам мы ідзем і прыдзем да новых перамог на фронце будаўніцтва культуры нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу.

*В. Зорын*

*(Настаўнік Гомельскай школы імені Комінтэрна)*

# Як арганізаваць і праводзіць урокі вольнага рысавання ў пачатковай школе[1])

Пастаноўка мастацкага выхавання наогул і асабліва пастаноўка выкладання вобразнага мастацтва ў нашай пачатковай школе не знаходзіцца яшчэ на адпаведнай вышыні. Амаль поўнае адсутнічанне метадычнай літаратуры па пытаннях ІЗО работы ў школе, зусім недастатковая ўвага гэтай рабоце з боку органаў Наркомасветы на месцах, метадычная непадрыхтаванасць настаўнікаў пачатковай школы ў галіне выкладання графічнай граматы—усё гэта прыводзіць да таго, што заняткі па ІЗО ў пачатковай школе або зусім не праводзяцца, або праводзяцца толькі ў малодшых класах (1-м і 2-м) бясспланава і бескантрольна, або праводзяцца толькі ў 4-х класах выкладчыкам-спецыялістам. Зразумела, што такое становішча ІЗО работы ў школе не толькі не спрые правільнаму мастацкаму выхаванню дзяцей, не развівае іх мастацкіх здольнасцей, а наадварот—затрымлівае засваенне вучнямі графічнай граматы, не дае магчымасці развіццю творчых здольнасцей.

У гэтым артыкуле я маю на ўвазе даць настаўнікам пачатковай школы неабходную метадычную дапамогу ў галіне арганізацыі і правядзення ўрокаў вольнага рысавання як першага віду работы, з якога пачынаецца планавае, сістэматычнае абучэнне дзяцей графічнай грамаце.

У праграме па вобразнаму мастацтву, зацверджанай Наркомасветы БССР апошняга (1933 г.) выдання, чотка вызначаны дзве асноўных задачы выкладання вобразнага мастацтва ў пачатковай і сярэдняй школе: 1) „даць вучням элементарную графічную пісьменнасць як сродак мастацкага выхавання і агульнай політэхнічнай асветы“... 2) „накіраваць вучня да выражэння сваіх думак праз мастацкі вобраз як шляхам графічнага, так і каляровага вырашэння“... Мы асабліва падкрэсліваем, што развіццё вобразнага мышлення, уменне выразіць у мастацкім вобразе свае паняцці і ўяўленні аб акружаючым—ёсць важнейшая задача вобразнага мастацтва ў пачатковай школе. У адпаведнасці з гэтымі двума задачамі ў змест работы па ІЗО праграма ўключае: а) рысаванне, б) работа па трафарэту (лозунг, плакат і інш.), в) аб'ёмна-канструкцыйныя работы (лепка і макет).

Галоўнае месца займае рысаванне. У залежнасці ад узросту дзяцей у школе павінны праводзіцца наступныя віды работ па рысаванню: 1) вольнае рысаванне, 2) тэматычнае рысаванне, 3) рысаванне па ўяўленню і па памяці, 4) ілюстрацыйнае рысаванне, 5) рысаванне па памяці паасобных прадметаў і 6) рысаванне з натуры.

Вольнае рысаванне найбольш уласціва дзецям малодшага ўзросту. У час пераходу дзіцяці з дашкольнай установы, або з падрыхтоўчага класа

[1]) Друкуецца ў парадку абгаварэння.

ў першы клас пачатковай школы, некаторыя этапы мастацкага развіцця дзіцяці яшчэ канчаткова не зжыты (дзіця яшчэ не навучылася рысаваць планава, арганізавана, па заданню настаўніка), таму некаторы час і ў першым класе пачатковай школы вольнае рысаванне астаецца для яго знаёмай прывычнай формай мастацкай работы. Такім чынам вольнае рысаванне з'яўляецца адным з важнейшых момантаў, але не асноўным звяном у агульным плане выкладання рысавання. Яно (вольнае рысаванне) дае магчымасць падагуліць пройдзены этап работы і ўстанавіць для яе далейшы напрамак. Высветліць інтарэсы і зацікаўленасць дзяцей у акружаючым іх жыцці (прырода, школа, сям'я, грамадска-палітычнае жыццё) і выявіць ступень мастацкага развіцця на даным адрэзку часу (атрыманыя навыкі, уменні, здольнасці, фантазія) для таго, каб намеціць пэўны напрамак далейшай работы з дзецьмі па рысаванню—вось асноўная задача вольнага рысавання. Гэтага, нажаль, зусім не разумеюць многія настаўнікі і кожны ўрок, прававадзімы без плана і падрыхтоўкі, называюць вольным рысаваннем.

У маю задачу не ўваходзіць змяшчаць у гэтым артыкуле падрабязную сетку гадзін па кожнаму віду рысавання ў пачатковай школе, але я настойліва рэкамендую кожнаму настаўніку добра азнаёміцца з гэтай сеткай у праграме па вобразнаму мастацтву (выданне 1933 г. БССР).

У чым-жа сутнасць вольнага рысавання і як наладзіць гэтую работу з вучнямі ў школе?

Як паказвае сама назва, сутнасць вольнага рысавання заключаецца ў тым, што дзеці самі, па ўласнаму жаданню, выбіраюць сабе тэмы і сюжэты для рысавання. Рысаванне на тэмы, самастойна выбраныя вучнямі, без указанняў настаўніка, з'яўляецца самай характэрнай асаблівасцю вольнага рысавання. Але было-б памылкай думаць, што ў час вольнага рысавання настаўнік зусім не павінен кіраваць работай вучняў, што ён не павінен прымаць удзелу ў выбары тэм і сюжэтаў, як гэта думалі раней некаторыя шчырыя прыхільнікі прынцыпаў вольнага рысавання.

Тэматыка дзіцячых рысункаў наогул надзвычайна змястоўна і align разнастайна, яна ахоплівае ўсе бакі нашага жыцця. Але часта бывае і наадварот—сюжэты і афармленне рысункаў амаль штодзённа паўтараюцца і паступовага руху ў дзіцячых рысунках не назіраецца. Гэта звычайна бывае там, дзе няма ніякага кіраўніцтва дзіцячай мастацкай творчасцю, дзе наогул не праводзіцца ніякай работы па мастацкаму выхаванню дзяцей. Усе мы добра ведаем, як часта ў дзіцячых самастойных работах сустракаюцца „сялянскія хаткі“, прычым абавязкова старой вёскі, як часта сустракаюцца „куклы“ і „кошачкі на акошачках“. Мне асабіста прыходзілася бачыць у сшытку адной вучаніцы 3-га класа падрад 11 рысункаў хатак з кошачкай на акне. Улічваючы, што такое настойлівае і ўпартае паўтарэнне адной і той-жа тэмы магло з'явіцца вынікам якой-небудзь тэхнічнай задачы, якую не ўдавалася ўчаніцы рашыць у сваіх рысунках, я запытаў у яе, чаму яна гэтак часта малюе зусім аднолькавыя хаткі і атрымаў адказ: „таму, што яны мне падабаюцца“.

Такую стабілізацыю тэматыкі, як у гэтай учаніцы, наўрад ці можна прызнаць з'явішчам зусім нармальнага парадку. Праўда, у большасці дзяцей пачатковай школы мы заўважаем вялікую зацікаўленасць і захапленне тэхнікай. У такіх выпадках захапленне гэта, безумоўна, знойдзе сабе адбітак і ў вольных дзіцячых рысунках. І сапраўды, аэрапланы, паравозы, трамваі, аўтобусы, параходы і іншыя машыны вельмі часта сустракаюцца і паўтараюцца ў рысунках дзяцей, якія зацікаўлены тэхнікай. Але ў прыкладзе з дзяўчынкай мы маем не толькі стабілізацыю сюжэта, але

і формы трактоўкі самага рысунка, што хутчэй сведчыць аб абмежаванасці яе інтарэсаў і мастацкага развіцця. А такіх прыкладаў стабілізацыі сюжэта і формы рысунка можна шмат знайсці ў кожнай школе, дзе няма належнага кіраўніцтва мастацкай работай вучняў.

Адсюль вынікае неабходнасць умелага прадуманага метадычнага кіраўніцтва настаўніка як у часе вольнага рысавання, так і пры іншых відах рысавання. Безумоўна, прапанаваць дзецям гатовыя тэмы і сюжэты, прыдуманыя настаўнікам, у часе вольнага рысавання зусім недапушчальна, бо гэтым парушаецца ўвесь сэнс вольнага рысавання.

Перад урокам настаўнік павінен даць дзецям некаторую эмацыянальную зарадку. Для гэтага неабходна ўмелая невялікая (5—7 мінут) гутарка ў форме пытанняў настаўніка і адказаў вучняў, каб адцягнуць увагу дзяцей ад прывычнай „тэматыкі" і накіраваць яе на іншыя сапраўды цікавыя для дзяцей пытанні і з'явы.

Праводжу, напрыклад, першы ўрок вольнага рысавання ў 3 класе, пасля летніх канікул. Пасля звычайнага прывітання задаю дзецям некалькі пытанняў аб тым, як яны праводзілі лета, дзе былі, што рабілі, што чыталі, якія ў іх былі гульні і т. д. Дзеці ахвотна і красачна адказвалі мне на мае пытанні, яскрава абрысоўвалі мне свае летнія ўражанні. Пасля такой гутаркі кажу дзецям: „Ну, дзеці, усе мы за лета пагулялі, адпачылі добра, набраліся новых сіл і здароўя, а зараз давайце працаваць, будзем рысаваць". Пасыпаліся пытанні: „А што будзем рысаваць?"—„Рысуйце ўсё, што хочаце, што вам больш усяго падабаецца, што вас найбольш зараз цікавіць".

Вынік, на мой погляд, атрымаўся зусім здавальняючы: працавалі ўсе без выключэння, у сшытках паявіліся рысункі піонерскага лагера, санаторнай здраўніцы, пляж, купанне, параходы, маторкі, грыбы, ягады і інш. Роля настаўніка ў даным выпадку звялася да таго, каб непрыкметна для вучняў і не парушаючы прынцыпу вольнага рысавання падказаць дзецям цэлы рад тэм і сюжэтаў, якія сапраўды цікавы для іх і якія дапамагаюць настаўніку выявіць сапраўдны твар вучняў, іх інтарэсы і зацікаўленасць на даным уроку, ступень іх мастацкага развіцця.

Цяпер аб працэсуальным баку ўрока вольнага рысавання. Ніякага ўмяшацельства настаўніка ў працэсуальны бок работы вучняў на ўроку вольнага рысавання быць не можа, за выключэннем выпадкаў прамога парушэння дысцыпліны з боку таго ці іншага вучня або антысанітарных спосабаў карыстання фарбамі, пэндзлікам (замест таго, каб макаць пэндзлік у ваду, вучань бярэ яго ў рот, а потым на фарбы і на малюнак). Роль настаўніка ў час вольнага рысавання—гэта аб'ектыўнае назіранне за ходам усёй работы і за паасобнымі вучнямі: „тут вельмі важна адзначыць, што час вольнага рысавання ёсць найбольш каштоўны і змястоўны для кіраўніка час назірання над працэсуальнымі бакамі дзіцячай графічнай творчасці. Прадастаўленае ў сваёй творчасці самому сабе, дзіця-мастак з асаблівай выразнасцю выяўляе свае натуральныя схільнасці, павадкі, манеры і прыёмы пры скарыстоўванні алоўкаў і фарбаў для сваіх мастацкіх мэт"... „Кіраўнік заняткаў зусім натуральна займае ў гэты час пазіцыю аб'ектыўнага назіральніка. Ён асабліва шырока можа скарыстаць час вольнага рысавання для рэгістрацыі і накаплення розных заметак і нагляданняў" (В. Воронов—„Графические искусства в трудовой школе", Москва, „Работник просвещения", 1929 г.).

За чым-жа канкрэтна павінен сачыць настаўнік у часе вольнага рысавання, на чым ён павінен фіксаваць усю сваю ўвагу? Зразумела, што ў першую чаргу настаўнік павінен сачыць за зместам дзіцячых рысункаў. Выбар тэмы або сюжэта для рысунка, самая трактоўка сюжэта, спосабы і прыёмы апрацоўкі рысунка—усё гэта вельмі часта дае нам

каштоўны матэрыял для характарыстыкі маленькага мастака, для выяўлення яго мастацкага і агульнага развіцця. У рысунках адных дзяцей мы бачым поўнае, усебаковае і яскравае выкананне тэмы, у рысунках другіх мы бачым толькі павярхоўны схематызм. Вывучаючы асаблівасці мастацкай творчасці кожнага вучня, настаўніку не цяжка будзе на падставе гэтага выбраць пэўны напрамак для сваёй далейшай работы як з цэлым класам, так і з паасобнымі групамі вучняў. У гэтых адносінах часта бывае вельмі мэтазгодна і карысна на ўроках рысавання садзіць слабых і малаздольных вучняў за адзін стол з вучнямі больш моцнымі і здольнымі. Наогул, на падставе вывучэння дзіцячых рысункаў, настаўнік можа выпрацаваць цэлы рад арганізацыйных і метадычных мерапрыемстваў, якія забяспечаць больш хуткае прасоўванне дзяцей па лініі мастацкага развіцця.

Часта бывае, што ў працэсе рысавання, у тым ліку і вольнага, дзеці карыстаюцца лінейкай. Прынцыпова гэта зусім недапушчальна, таму што супярэчыць асноўным задачам рысавання—развіццю вокамеру, каардынаванай рабоце рукі і вачэй, развіццю мышачнага пачуцця і інш. Настаўнік павінен рашуча забараняць дзецям карыстацца лінейкай у працэсе рысавання, але на ўроках вольнага рысавання настаўнік павінен прадаставіць вучням свабоду ў скарыстанні прылад і матэрыялаў для апрацоўкі сваіх рысункаў [1]).

У працэсе рысавання прадметаў прамалінейнай формы некаторыя дзеці засвоілі сабе надзвычай шкодную прывычку „круціць“ сшытак, варочаць яго ў розныя бакі, у выніку чаго атрымліваецца, што вучань увесь час рысуе толькі адны вертыкальныя лініі замест таго, каб набываць навыкі вольным і лёгкім рухам рукі рысаваць прамыя лініі ў любым напрамку. Шкоднасць гэтай прывычкі ў паасобных дзяцей зусім відавочна, настаўнік павінен растлумачыць гэта дзецям, але на ўроку вольнага рысавання спыняць з-за гэтага творчую работу вучня, ці заставіць яго трэніравацца ў правядзенні прамых ліній было-б зусім няправільна. Для гэтага неабходна скарыстаць іншыя ўрокі рысавання і ў прыватнасці заняткі па набыццю фармальных навыкаў. Назіраючы за агульным ходам работы на ўроку вольнага рысавання, настаўнік часта можа заўважыць невялікую частку вучняў, якія ніяк не могуць прыстасавацца да работы і калі да іх падыходзіць настаўнік, стараюцца захаваць ад яго сваю работу, адчуваюць сябе нялоўка і ўрэшце прызнаюцца настаўніку, што ў іх нічога не выходзіць. Такім вучням трэба дапамагчы: падбадзёрыць іх, сказаць, што іх рысункі не дрэнныя, але каб зрабіць іх лепшымі, трэба працаваць больш старанна і выконваць парады і ўказанні настаўніка.

Некалькі слоў аб памылках у дзіцячых рысунках. Памылкі, якія сустракаюцца ў дзіцячых рысунках, прынята ў асноўным дзяліць на дзве групы: памылкі лагічныя і памылкі тэхнічныя. Лагічнымі памылкамі лічацца такія, якія супярэчаць нашым звычайным, нармальным успрыйманням і ўяўленням аб рэальных прадметах, прыкладна: вучань рысуе дом і побач з ім чалавека, які значна большы за дом; птушка, якая сядзіць на дрэве, большая за дрэва; дзверы многапавярховага дома аднолькавыя па вышыні з самім домам, конь або карова афарбоўваецца ў зялёны ці іншы неадпаведны колер і інш. На такія памылкі неабходна зварочваць сур'ёзную ўвагу, але самае рэагаванне на памылкі, растлумачэнне іх лепш правесці ў канцы ўрока, а не

[1]) Ёсць асобныя віды графічных работ, дзе рысаванне з дапамогай лінейкі неабходна і дыктуецца самай сутнасцю справы, як-та: рысаванне шрыфта, лозунгаў, дыяграмы і інш.

ў працэсе работы вучня. Тут патрэбна адзначыць, што не ўсякую лагічную памылку лёгка растлумачыць вучню. Ёсць цэлы рад такіх памылак, якія залежаць ад асаблівасцей дзіцячага ўспрыймання рэальных прадметаў і т. п., а пагэтаму сутнасць такіх памылак да свядомасці вучняў не даходзіць, і гэтыя памылкі ў сваіх далейшых работах рэбяты будуць паўтараць. Напрыклад, рысуецца знадворны выгляд дома і адначасова ўсё тое, што знаходзіцца ў сярэдзіне дома, у самым памяшканні. Такія „недарэчнасці“ ў дзіцячых рысунках растлумачыць бывае вельмі цяжка, а іншы раз і зусім непатрэбна. Гэта павінен добра ўлічыць настаўнік. Да другой групы памылак адносяцца такія, якія залежаць ад недастатковага практыкавання і трэніроўкі вучняў у рысаванні. Гэта так званыя тэхнічныя памылкі (няправільна праведзеныя прамыя лініі, наогул няўмелыя рысункі, няўмелая афарбоўка і інш.). Такія памылкі з узростам і па меры практыкавання паступова знішчаюцца. Для набыцця вучнямі тэхнічных навыкаў настаўнік павінен адвесці спецыяльныя ўрокі фармальных навыкаў. Я не маю магчымасці ў гэтым артыкуле падрабязна застанаўлівацца на характары і прыродзе дзіцячых памылак. У рысунках гэта завяло-б мяне далёка ад тэмы данага артыкула. Неабходна толькі адзначыць, што назіранні за памылкамі ў часе вольнага рысавання і ўмелае рэагаванне на гэтыя памылкі ў канцы ўрока, або на другіх уроках рысавання, з'яўляецца абавязковым для кожнага настаўніка пачатковай школы, які праводзіць урок па рысаванню. Бываюць выпадкі, калі настаўнік таго ці іншага класа пачатковай школы зварочваецца да выкладчыка рысавання з такой просьбай: „Навучыце вы, калі ласка, маіх рэбят рысаваць чырвонаармейца на кані, яны дрэнна рысуюць“. Такую просьбу магчыма зразумець толькі як неразуменне задач мастацкага выхавання.

Патрэбна ведаць, што ад дзяцей пачатковай школы мы не патрабуем мастацкай віртуознасці. Мінімум тэхнікі і максімум творчасці і самадзейнасці, уменне вобразна мысліць і выяўляць свае веды і ўяўленні аб акружаючым у графічнай форме, даступнай данаму дзіцячаму ўзросту—вось задача мастацкага выхавання і ў прыватнасці рысавання.

Цяпер зусім канкрэтна пагаворым аб тым, якія мерапрыемствы можа ўжываць настаўнік на падставе сваіх назіранняў за работай вучняў у часе вольнага рысавання. Якім чынам настаўнік можа скарыстаць свае назіранні для наладжвання далейшай работы з паасобнымі вучнямі і цэлым класам?

Па-першае, як я ўжо казаў вышэй, педагагічна мэтазгодным прыёмам з'яўляецца садзіць на ўроках рысавання вучняў больш слабых і тэхнічна адсталых радам з вучнямі здольнымі і мастацкі больш развітымі. Вопыт здольных рэбят, такім чынам, пераносіцца на слабых і адсталых і апошнія пачынаюць хутчэй прасоўвацца ўперад у сэнсе асваення мастацкай тэхнікі.

Па-другое, для тых дзяцей, якія ў працэсе работы выяўляюць поўную няздольнасць абыходзіцца без лінейкі, неабходна вызначыць рад практыкаванняў па правядзенню ад рукі прамых ліній рознага нахілу. Даць ім гэтыя практыкаванні ў цікавай форме, напрыклад: прапанаваць нарысаваць некалькі нахільных ліній так, каб атрымаўся стары пахіліўшыйся дом і стары, паваленый ветрам, плот і нарысаваць некалькі прамых ліній так, каб атрымаўся новы плот (вертыкальныя лініі), або прапанаваць нарысаваць рубку лесу. У гэтым заданні стаячыя і зрубленыя дрэвы дадуць камбінацыю прамых ліній рознага напрамку. Практыкаванне ў рысаванні мелам на класнай дошцы таксама з'яўляецца добрым спосабам знішчэння шкоднай прывычкі рысаваць пры дапамозе лінейкі. Такія практыкаванні магчыма даваць вучням на ўроках фармальных

навыкаў: рысаванне паасобных прадметаў па назіранню і па памяці, рысаванне з натуры (у 4-м класе).

Па-трэцяе, рысункі дзяцей адрозніваюцца не толькі па свайму зместу, але і па тэхніцы і па характару кампазіцыі (планіроўка рысункаў на паперы). Пры рысаванні, напрыклад, вуліцы, дзеці зусім па рознаму плануюць на паперы дамы. Адны раскідваюць дамы ў беспарадку па ўсёй паперы (геаметральна-планавая кампазіцыя), другія рысуюць іх на адной гарызанталі або на ніжнім гарызантальным баку паперы (фрызавая кампазіцыя), трэція (невялічкая частка дзяцей) імкнуцца нарысаваць вуліцу ў перспектыўным выглядзе, па дыяганалі паперы з паступовым умяншэннем рысунка ўверх па дыяганалі.

У першым выпадку (геаметральна-планавая кампазіцыя) дзеці прадстаўляюць сабе ўсе прадметы незасланенымі адзін другім—вынік маторназрокавага ўспрымання прасторы. У трэцім выпадку (спроба перспектыўнай планіроўкі рысункаў) мы маем справу з пераходнай стадыяй успрымання прасторы, пераход ад маторнага ўспрымання да чыста зрокавага.

Такая розніца паміж дзецьмі аднаго класа патрабуе ад настаўніка надзвычайна чулага падыходу да кожнай з пералічаных груп як у сэнсе дачы заданняў, так і ў сэнсе патрабаванняў да іх з боку настаўніка. Калі для трэцяй групы дзяцей пераход ад вольнага рысавання да другіх відаў работ, напрыклад, да рысавання па назіранню паасобных прадметаў не з'яўляецца асаблівай цяжкасцю, то для дзяцей першай і другой групы (маторнай стадыі) пераход да рысавання паасобных прадметаў па назіранню звязан з вялікімі цяжкасцямі. Усё гэта павінен улічваць настаўнік у сваёй рабоце па рысаванню з даручаным яму класам. Мне здаецца, што гэтых прыкладаў дастаткова для таго, каб паняць, якое значэнне мае аб'ектыўнае назіранне за работай вучняў у часе вольнага рысавання і якія вынікі можа зрабіць настаўнік на падставе гэтых назіранняў для сваёй работы з класам.

Вывучэнне дзіцячых рысункаў—гэта выходны пункт для метадычнавытрыманай работы настаўніка. На вялікі жаль пытанню вывучэння дзіцячых рысункаў нашы настаўнікі зусім не ўдзяляюць увагі.

Ці патрэбна праводзіць на ўроках вольнага рысавання калектыўнае абгаварэнне дзіцячых работ? Мне здаецца, што гэта не зусім мэтазгодна з прычыны таго, што тэматыка дзіцячых рысункаў у часе вольнага рысавання надзвычайна markdown рознастайна і суб'ектыўна, што не дае магчымасці знайсці адпаведны крытэрый для аб'ектыўнай ацэнкі рысункаў калектывам вучняў. Калектыўнае абгаварэнне дзіцячых работ дасягае сваёй мэты, калі тэма работы ва ўсіх вучняў аднолькавая, агульная.

Для правядзення ўрока вольнага рысавання не заўсёды патрэбна выдзяленне спецыяльнай акадэмічнай гадзіны (50 мінут). Там, дзе заняткі па рысаванню праводзіць сам настаўнік класа, часта бывае больш мэтазгодным выдзеліць для вольнага рысавання 25—30 мінут ад заняткаў па якому-небудзь другому прадмету. Практыка паказвае, што ў большасці выпадкаў 50 мінут цалкам не скарыстоўваюцца для вольнага рысавання. Справа тут у наступным: па-першае, уздым творчай актыўнасці і самадзейнасці, якімі характарызуецца працэс вольнага рысавання, не можа доўга працягвацца з аднолькавай напружанасцю. Па меры рэалізацыі ў рысунках сваіх мастацкіх замыслаў творчы ўздым дзяцей паступова спадае. Адсюль цэлы рад пытанняў да настаўніка: „Я скончыў, што мне далей рабіць?“, „Што мне яшчэ нарысаваць?“ і інш. Па-другое, немалаважную ролю тут адыгрывае арганізацыйны бок работы, абсталяванне ўрока ўсімі неабходнымі прыладамі і матэрыяламі: часта ў дзяцей нехапае фарбаў і рознакаляровых алоўкаў, каб „раскрасіць“, як дзеці кажуць, свае рысункі і працягнуць работу на больш доўгі час.

Па-трэцяе, вялікае значэнне тут мае і дробны размер рысункаў. За якіх-небудзь 20—25 мінут дзеці паспяваюць нарысаваць цэлы рад прадметаў і вычарпаць усе свае тэмы для рысавання. Урэшце, нявопытны настаўнік не ведае што рабіць. Тым часам у класе парушаецца працоўная дысцыпліна, настаўнік з нецярплівасцю чакае званка на перапынак, і канец урока канчаткова змазан. Усё гэта неабходна ўлічыць настаўніку пры падрыхтоўцы да ўрока вольнага рысавання.

Што-ж канкрэтна зрабіць настаўніку, каб пазбегнуць указаных недахопаў у арганізацыі і правядзенні ўрока вольнага рысавання? Вышэй ужо было адзначана, што настаўнік можа скарыстаць 25—30 мінут ад другога прадмета для ўрока вольнага рысавання. Справа ў тым, што вольнае рысаванне з'яўляецца для дзяцей лепшым відам адпачынку, а пагэтаму скарыстаць астатак часу (палову) ад заняткаў якім-небудзь цяжкім прадметам, на мой погляд, мае пэўны сэнс. Але гэта магчыма толькі тады, калі настаўнік сам праводзіць заняткі па рысаванню.

Наогул-жа патрэбна ўлічыць наступнае: неабходна, каб усе дзеці мелі адпаведныя прылады і матэрыялы для рысавання: паперу, рознакаляровыя алоўкі, пэндзлікі, фарбы і інш., неабходна папярэдзіць дзяцей аб тым, каб яны рысавалі вялікія рысункі. Зразумела, што ў працэсе вольнага рысавання рашуча патрабаваць ад кожнага вучня, каб у яго былі вялікія рысункі, будзе педагагічна немэтазгодна, але папярэдзіць аб гэтым перад урокам, безумоўна, трэба. Наогул на працягу ўсіх заняткаў па рысаванню трэба пераканаць дзяцей у перавазе вялікіх рысункаў (выразнасць, яскравасць, наглялнасць) перад малымі; апошняя частка з'яўляецца вынікам боязнасці і няўпэўненасці вучняў у сваіх сілах і здольнасцях. Але самым лепшым, на мой погляд, скарыстаць астатак часу ад вольнага рысавання на рысаванне па назіранню і па памяці, тады акадэмічная гадзіна будзе скарыстана цалкам па прамому прызначэнню. Сутнасць рысавання па назіранню і па памяці зводзіцца да таго, што настаўнік паказвае дзецям які-небудзь прадмет нескладанай формы на працягу 1—2 мінут (можна па лічэнню 1, 2, 3 і г. д. да 20 да 30) у залежнасці ад аднословай складанасці прадмета, потым прадмет хаваецца і настаўнік прапануе вучням нарысаваць яго па памяці. Зразумела, што ў часе працэсу рысавання настаўнік не павінен даваць вучням ніякіх указанняў, незалежна ад таго, правільна ці не яны рысуюць прадмет, не павінен рабіць ніякіх ацэнак іх работы, бо ў іншым выпадку калі, напрыклад, настаўнік скажа, што ў данага вучня рысунак зусім правільны,—усе астатнія вучні не будуць імкнуцца самастойна ўспамінаць форму прадмета і рысаваць яе па памяці, а пастараюцца зрысаваць у таго, каму настаўнік ужо даў добрую ацэнку, і тады ўвесь сэнс рысавання па памяці прападае.

Лёгкі з арганізацыйнага боку, забаўны па сваёй форме і па сутнасці вельмі карысны, таму што дапамагае развіццю зрокавай памяці, гэты від рысавання вельмі падабаецца вучням. У плане правядзення ўрока вольнага рысавання гэты від рысавання настаўнік абавязкова павінен прадугледзець.

Вольнае рысаванне праводзіцца ў 1, 2, 3 класах пачатковай школы. Падрыхтоўчы клас мы не ўлічваем, таму што рысаванне ў ім яшчэ мае спецыфіку дзіцячага сада. Па гадах навучання вольнае рысаванне размяркоўваецца прыблізна так:

| | |
|---|---|
| У 1-х класах . . . . | 7— 8 гадзін |
| У 2-х „ . . . . | 5— 6 „ |
| У 3-х „ . . . . | 3— 4 „ |
| За ўвесь год . . . . | 15—18 „ |

Вольнае рысаванне ставіць перад сабой дзве асноўных задачы.

1. Высветліць інтарэсы і зацікаўленасць дзяцей у акружаючым іх жыцці (прырода, школа, сям'я, грамадска-палітычнае жыццё).

2. Выявіць ступень дзіцячага развіцця на даным адрэзку часу (атрыманыя навыкі, уменні, здольнасці, фантазія). У адпаведнасці з гэтымі задачамі неабходна і планаваць заняткі па вольнаму рысаванню.

Вось прыкладная схема планавання ўрокаў вольнага рысавання:

| | 1 клас | 2 клас | 3 клас |
| --- | --- | --- | --- |
| У пачатку навучальнага года . . . | 1 гадз. | 1 гадз. | 1 гадз. |
| У канцы I чвэрці . . . . . . . | 1 „ | 1 „ | |
| У канцы II чвэрці . . . . . . . | 1 „ | 1 „ | 1 „ |
| У пачатку III чвэрці, пасля зімовага перапынку . . . . . . . | 1 „ | 1 „ | 1 „ |
| У канцы III чвэрці . . . . . . . | 1 „ | 1 „ | |
| Пасля вясновага перапынку . . . | 1 „ | | |
| У канцы навучальнага года (падагульненне) . . . . . . . . | 1 „ | 1 „ | 1 „ |
| | 7 гадз. | 6 гадз. | 4 гадз. |

Вось у агульных рысах увесь неабходны мінімум метадычных ведаў і арганізацыйных мерапрыемстваў, якія патрэбен настаўніку пачатковай школы для таго, каб забяспечыць правільную пастаноўку ўрокаў вольнага рысавання.

*О. Артабалеўская*

# Школьная бібліятэка ў пазашкольнай рабоце школы

*(Вопыт 22-й віцебскай узорнай сярэдняй школы)*

Мы ўсе змагаемся за добрую пастаноўку пазашкольнай работы школы. Аб значэнні гэтай работы зараз гаварыць не патрэбна, бо яна яскрава для кожнага. Але аб значэнні школьнай бібліятэкі ў разгортванні пазашкольнай работы трэба яшчэ шмат гаварыць.

Ва многіх школах бібліятэчную работу зусім недаацэньваюць. На бібліятэку не зварачаюць належнай увагі, ёй не цікавяцца ні настаўнікі, ні піонерарганізацыя, ні дырэктар школы.

У кожнай школе абавязкова ёсць планы работы кожнага з існуючых гурткоў, грамадскіх арганізацый, але мала дзе знойдзеш план работы школьнай бібліятэкі, а калі ён і ёсць, яго ніхто не правярае.

Аб рабоце школьнай бібліятэкі не бывае справаздач, яна стаіць у баку ад школьнага жыцця. Больш таго, школьную бібліятэку ў большасці выпадкаў нават не забяспечваюць умовамі для нармальнай работы. Па многіх віцебскіх школах школьныя бібліятэкі не маюць асобных пакояў, змяшчаюцца або ў канцылярыі, або разам з шафамі для пасуды. Яшчэ горш абстаіць справа з забеспячэннем школьных бібліятэк работнікамі. Школьная бібліятэка ў большасці выпадкаў аддаецца ў рукі людзей, якія зусім не ведаюць бібліятэчнай справы, не ведаюць і не жадаюць разгарнуць хоць якую-небудзь работу з кнігай сярод вучняў. Уся работа бібліятэкі—гэта фармальная выдача кніг, часам нават без уліку ўзросту і развіцця чытачоў. Трэба адзначыць, што і метадычнага кіраўніцтва школьныя бібліятэкары за мінулы год амаль зусім не мелі, за выключэннем курсаў у час зімовых канікул.

Такое становішча далей нецярпіма. Школьная бібліятэка ў жыцці школы павінна адыгрываць вялікую ролю. Асабліва яе значэнне павінна ўзрасці ў справе разгортвання пазашкольнай работы школы. Трэба дабіцца, каб на школьную бібліятэку была звернута належная ўвага ўсяго школьнага калектыва, каб яна мела ўмовы для работы і каб на чале яе стаяў чалавек, які любіць гэтую справу, ведае яе і зацікаўлен прасоўваннем кнігі ў дзіцячыя масы. Тады бібліятэка праз розныя формы работы з кнігай дасць магчымасць нашым вучням разумна і цікава скарыстаць пазашкольны час.

Н. К. Крупская сказала, што „дзіцячае чытанне грае ў жыцці рэбят вялікую ролю“ („Красный библиотекарь“, № 1, 1934 г.) Кніга фарміруе ідэалогію дзяцей. „Дзіцячыя кнігі павінны дапамагаць дзецям глыбей углядвацца ў жыццё, павінны даваць ім наказ таго, як трэба па-камуністычнаму наладжваць жыццё, змагацца за лепшую будучыню“ (Круп-

ская—„Аб дзіцячай літаратуры", ст. 16). Такую дзіцячую кнігу павінна даць вучням школьная бібліятэка. Яна павінна дабіцца 100-проц. ахопу бібліятэчнай кнігай вучняў з школы. Яна павінна паставіць сваёй мэтай пазнаёміць дзяцей з мастацкай літаратурай, давесці да іх творы лепшых старых класікаў і творы нашай сучаснай совецкай і замежнай пролетарскай літаратуры. Чытанне гэтых кніг не толькі мае ўплыў на агульнае развіццё дзяцей, але і дапамагае школе выхаваць у вучняў комуністычную ідэалогію.

„Вывучаючы мастацкія творы Л. Талстога, рускі рабочы клас пазнае лепш сваіх ворагаў",—гаварыў Ленін.

Усё гэта ўскладае на бібліятэку вялікую задачу. Ахапіць кнігай усіх вучняў магчыма толькі пры ўмове добрага падбору кніг, пры індывідуальным падыходзе да кожнага чытача, пры ўмове ўмелага прасоўвання патрэбных кніг, толькі тады вучань будзе зацікаўлен пазакласным чытаннем, будзе частым „госцем" бібліятэкі, будзе аддаваць ёй вольны час. Бібліятэка зацікаўлена ў чытанні свядомым, у чытанні з засваеннем каштоўнага, што дае кніга. Трэба самому бібліятэкару добра ведаць кожную кнігу і ведаць, каму яе даць, улічваючы асаблівасці ўзросту і развіцця вучняў.

Наша 22-я віцебская ўзорная школа пачала перабудоўваць работу школьнай бібліятэкі ў паказаным напрамку, і нам хочацца падзяліцца вопытам, які мы маем па рабоце бібліятэкі за гэты кароткі час. Чаго мы дабіліся за мінулае паўгоддзе? Па-першае, бібліятэка стала важным участкам работы школы, у рабоце якой быў зацікаўлен увесь калектыў на чале з дырэктарам. З іх дапамогай бібліятэкару ўдалося прывесці кніжны фонд бібліятэкі ў парадак (завесці міжнародную класіфікацыю кніг, новую інвентарызацыю і інш. Гэта першая неабходная ўмова для разгортвання далейшай работы з кнігай, і я раю кожнаму школьнаму бібліятэкару пачынаць з гэтага). Дзіцячыя кнігі былі разбіты на тры групы (па ўзростах дзяцей) і ў сваю чаргу групы ўнутры былі падзелены па тэмах:

1) наша соцбудаўніцтва; 2) наша мінулае; 3) вакол свету; 4) жывёлы і іх жыццё; 5) навука і тэхніка; 6) жыццё за мяжой і 7) іншыя. Гэта дало магчымасць хутка знайсці кнігу па патрэбнаму пытанню, лепш забяспечыць кожнага чытача цікавай для яго кнігай.

Для лепшага ахопу кнігай вучняў, для прыцягнення іх у бібліятэку былі праведзены гутаркі па класах на тэмы: аб задачах пазашкольнага чытання, гігіена чытання, правілы карыстання кнігай. Пры правядзенні гэтай работы ілюстраваліся лепшыя кнігі, даваліся кароткія рэцэнзіі, перадаваўся ў некалькіх словах іх змест, зачытваліся кароткія ўрыўкі з кніг.

Другім відам работы было тое, што настаўнікі ў час заняткаў сталі скарыстоўваць асобныя месцы з кніг, рэкамендаваных для чытання як добры ілюстрацыйны матэрыял. Напрыклад: „Апавяданне пра вялікі план"—Ільіна, яго-ж—„Чорным па беламу", „Знаешь ли ты физику"—Перэльмана і цэлы рад іншых. Былі зроблены спісы рэкамендаваных кніг, якія вывешаны там, дзе-б вучні хутчэй за ўсё маглі на іх звярнуць увагу. У школьнай газеце з'явіліся артыкулы аб кнігах, аб школьнай бібліятэцы.

Як вынік—увага дзяцей да бібліятэкі ўзрасла. Дзеці „кінуліся" на бібліятэчную кнігу. Рост чытачоў яскрава гаворыць аб гэтым. На 1/XII 1933 г. чытачоў было 96 чал., а на 1/II 1934 г. стала 300 чал., прыблізна 98 проц. усіх вучняў школы. Такога росту не было-б, калі-б бібліятэка далей не працягвала работы па кіраўніцтву чытаннем, па вывучэнню інтарэсаў чытачоў і не вяла-б барацьбы супроць павярхоў-

нага чытання. З гэтай мэтай бібліятэкар чула падыходзіў да кожнага чытача, цікавіўся, як спадабалася кожная кніга, яе зместам, як зразумеў яе чытач і цікавіўся характарыстыкай кнігі, данай чытачом. Для гэтага мы рабілі інфармацыі, пастаянныя і кампанейскія выстаўкі кніг. Гэтым дасягалася прасоўванне кніг не толькі мастацкай літаратуры, але і навукова-тэхнічных па самых рознастайных пытаннях. Практыка паказала, што бібліятэкар павінен ведаць кожную кнігу, якую ён выстаўляе, павінен даць аб кожнай кнізе вусную рэкамендацыю. Дзеці любяць, калі ім коратка раскажуць аб кнізе, зацікавяць іх ёй. Для гэтага трэба вывучыць інтарэсы чытачоў. Гэта дасягаецца шляхам гутарак у час выдачы кніг, абменам думкамі аб прачытаных кнігах.

Для вывучэння чытацельскіх інтарэсаў вучняў 3, 4 і 5 класаў мы раздалі анкеты з наступнымі пытаннямі:

1. У якім класе вучышся?
2. Колькі табе год?
3 Дзе бярэш кнігі для чытання?
4. Якія кнігі больш усяго спадабаліся?
5. Аб чым больш усяго любіш чытаць?
6. Якія кнігі жадаў-бы ўзяць у нашай бібліятэцы?

Подпіс.

Атрымаўся вельмі цікавы матэрыял, які яскрава паказаў нам твар нашых чытачоў і даў магчымасць, дзе гэта было трэба, пераключыць інтэрэсы вучня на іншыя рэйкі, даць яму кнігу, згодна яго жаданняў.

Вось прыклады адказаў на гэтую анкету:

1. *Калдуноў Жэня*. Мне 10 год, я вучань 3 класа. Больш усяго мне спадабалася кніга—„Сын большэвіка“. Я люблю чытаць кнігі пра падарожжы, аб Ленскім расстрэле і рэволюцыі 1905 г. Я хачу атрымаць кнігі аб гэтым.

2. *Валодзька Валя* 9 год, вучань 3 класа, піша: „Спадабалася кніга Жыткова—„Святло без агню“. Люблю чытаць аб гэтым і пра жыццё піонераў за мяжой“.

3. Вучань 5 класа, *Сюбараў*, 11 год, піша: „Больш усяго спадабалася кніга—„Мяцеж“. Я люблю чытаць пра фото і радыё. Хачу чытаць пра Леніна і яго жыццё, пра радыё і пра электрыфікацыю.

Другі вучань 5 класа, 12 год, просіць даць яму больш кніг па гісторыі чалавецтва, творы Пушкіна і Александровіча.

Усе вучні, за выключэннем невялікай часткі, бяруць кнігі выключна з школьнай бібліятэкі.

Некаторыя анкеты паказалі, што вучні чытаюць кнігі, узятыя ў таварышоў, з шкодным ідэалагічным зместам. Аб гэтых кнігах прышлося весці спецыяльныя гутаркі, паказаць, чаму не трэба іх чытаць.

З дзецьмі малодшых класаў у пазашкольныя гадзіны праводзіліся спецыяльныя гутаркі па абгаварэнню цікавых кніг. Дзеці па чарзе расказвалі змест найбольш зацікавіўшай іх кнігі, абгаварвалі, спрачаліся, кожны імкнуўся даказаць, што выбраная ім кніга самая цікавая. Гэта вельмі ўдачная і глыбокая форма работы з кнігай дапамагае навучыць дзяцей свядомаму чытанню, разбірацца ў кнізе, развівае мову дзяцей. Таксама вельмі цікавілі дзяцей правадзімыя громкія чыткі асобных дзіцячых твораў. Асабліва вялікае ўражанне было пры чытанні аповесці Саломіна—„В кулацком гнезде“ з жыцця Паўліка Марозава. Цікавяць дзяцей гэтага ўзросту і мастацкія апавяданні, але гэтую форму работы правесці цяжка. З вучнямі старэйшых класаў праводзіліся гутаркі ў час

абмену кніг. Рэбяты ахвотна перадавалі змест прачытанай кнігі, указалі на недахопы і дадатныя бакі яе. Цікава, што вось гэтыя выказванні прыцягвалі ў бібліятэку вучняў, якія самі ў гэты дзень не мянялі кніг, але цікавіліся гэтым абменам думак, раілі самі прачытаць тую ці іншую кнігу. Асабліва ў гэтую справу былі ўцягнуты вучні 5-х класаў. У канцы года дзеці пачалі пісаць невялічкія рэцэнзіі на кнігі, якія і вывешваліся на асобнай дошцы. Вось прыклады іх:

### П. Соломин —„В кулацком гнезде“. ОГИЗ. 1933 г. М.

„Кніга вельмі цікавая. Аўтар дае яркі малюнак як Паўлік Марозаў змагаўся і загінуў у барацьбе з кулакамі. Прачытаўшы гэтую кнігу, рэкамендую прачытаць яе ўсім піянерам і вучням, якія не ведаюць біяграфію Паўліка Марозава.

*Рудзь Б., вуч. 5 кл.*“

### А. Кажэўнікаў—„Ганулька“.

„Усё спадабалася, асабліва тое месца, дзе пішацца, як Ганулька чытала патайна газеты і большэвіцкія брашуры і як яна выратавала свайго гаспадара рабочага ад смерці.

Вельмі цікавая кніга.

*Дзямідаў К., вуч. 4 кл.*“

### Бруно Ясенскі—„Сын рыкшы“.

Пераклад з рускай мовы. ДВБ 1933 г.

„Кніга вельмі цікавая. Пісьменнік яскрава малюе карціну, як кітайскія дзеці змагаюцца і паміраюць у барацьбе з кітайскай буржуазіяй.

Я прапаную ўсім вучням прачытаць гэтую кнігу.

*Рутэнберг, вуч. 5 кл.*“

### Гайдар—„Р.В.С.“ ГИЗ. 1934 г. М.

„Рэбяты, чытайце кніжку „Р.В.С.“ Яна вельмі цікавая і вельмі падабалася. Я чытаў яе з захапленнем. Гэта кніга аб грамадзянскай вайне. Мне падабалася асабліва тое месца, дзе хлопчыкі Дзімка і Жыган дапамагаюць чырвонаму камандзіру і наогул Чырвонай арміі.

*Коханаў Алесь, вуч. 3 кл.*“

На жаль, у гэтую працу была ўцягнута не ўся маса вучняў. Гэтая форма работы, хоць і патрабуе шмат папярэдняй падрыхтоўкі з боку бібліятэкара, але адыгрывае вельмі значную ролю ў прасоўванні кнігі да чытача. Дзеці больш за ўсё любяць рэцэнзіі, якія даюцца кнізе іх-жа таварышом.

Чытачы бібліятэкі прымалі ўдзел у падарожжы ў гісторыю Чырвонай арміі, але тут асаблівага эфекту не было. Я тлумачу гэта недастаткова чоткай арганізацыяй гэтай справы з боку бібліятэкі. Праўда, паказаныя ў рэкамендацыйным спісе кнігі пабывалі ў вялікай колькасці чытачоў. Асабліва Фурманава—„Мяцеж“ і „Чапаеў“.

Вясною, перад канікуламі, каб справа з наладжаным чытаннем не заціхла, з вучнямі былі зроблены экскурсіі ў дзіцячую бібліятэку Дома кнігі і раённую дзіцячую бібліятэку з мэтай даць магчымасць мець і на летні час кнігу для чытання. Дзякуючы добрай сустрэчы з боку працаўнікоў гэтых бібліятэк і асаблівай увагі загадчыцы Дома кнігі т. Баранавай, экскурсіі далі многа цікавага для рэбят. Я думаю і ў гэтым годзе практыкаваць іх. Самае-ж галоўнае тут гэта тое, што дзеці на летні час калектыўна запісваліся ў чытачы бібліятэк. У працэсе работы вакол бібліятэкі арганізаваўся актыў „прыхільнікаў кнігі“, які дапамагаў у рабоце бібліятэкі.

Вельмі перашкаджала ў нашай рабоце адсутнасць належнага памяшкання (бібліятэка знаходзілася ў невялікім пакойчыку) і адсутнасць сродкаў на набыццё новых кніг. На ўвесь год дана па каштарысу 300 руб За летні час школа паклапацілася даць бібліятэцы больш добрае памяшканне (у сталоўцы) і закупіла значную колькасць новых кніг. Гэта дае магчымасць разгарнуць работу значна лепей.

У гэтым годзе наша бібліятэка мяркуе зрабіць, апрача разгортвання работы па прыкладу мінулага года, наступнае:

1. Лепш арганізаваць работу гуртка „прыхільнікаў кнігі“.
2. Правесці анкету па вывучэнню інтарэсаў чытачоў, вучняў 5—9 класаў.
3. Правесці 2 канферэнцыі чытачоў.
4. Наладзіць учот чытаемых кніг для 2, 3, 4 і 5 класаў па наступных схемах:

**Схема ўчоту для 2 класа.**

| № | Калі ўзята кніга | Калі скончыў чытаць | Аўтар кнігі | Назва кнігі |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

**Схема ўчоту для 3 класа.**

| № | Час чытання | Аўтар кнігі | Назва кнігі | Кароткі змест кнігі | Спадабалася ці не спадабалася кніга і чаму? |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | |

**Схема для 4 і 5 класаў.**

| № | Час чытання | Прозвішча аўтара | Назва кнігі | Галоўныя героі і іх характарыстыкі | Галоўная думка кнігі | Спадабалася ці не спадабалася кніга і чаму? |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | |

Увага. Графа 6-я даецца толькі для 5 класа.

5. Правесці конкурс на лепшага чытача па ўсіх класах школы, улічваючы ўзрост і развіццё вучняў.
6. З дапамогай піонерарганізацыі і выкладчыкаў моў арганізаваць адзін вечар кнігі.
7. Наладзіць работу з газетай шляхам складання альбомаў з выразкамі, дошкі навін і інш.

8. Рэгулярна даваць матэрыял у школьную газету, дзе адведзен спецыяльны раздзел б.бліятэкі.
9. Зрабіць куток пісьменнікаў.

Усю гэтую работу бібліятэка зможа правесці толькі тады, калі яна будзе акружана ўвагай і дапамогай усяго школьнага калектыва, калі будзе добра пастаўлена работа гуртка „прыхільнікаў кнігі", калі кожны настаўнік будзе лічыць сваім непасрэдным абавязкам дапамагаць бібліятэцы, бо апошняя праз кнігу з'яўляецца лепшым памочнікам у вучэбнай і пазашкольнай рабоце школы. Больш увагі школьным бібліятэкам!

АД РЭДАКЦЫІ: Артыкул т. Артабалеўскай як вопыт сур'ёзнай работы з кніжкай сярод дзяцей з'яўляецца надзвычайна цікавым. Гэты вопыт неабходна іншым школам пераняць і арганізаваць сістэматычную работу і кіраўніцтва дзіцячым чытаннем. Спрэчным у артыкуле т. Артабалеўскай з'яўляецца пытанне аб класіфікацыі кніжак. Рэдакцыя чакае ад школ матэрыялаў аб рабоце школьных бібліятэк і заўваг на артыкул Артабалеўскай у справе арганізацыі бібліятэк, чытання і тэхнікі ўчоту.

---

*Н. Гай*

# Аб рабоце школы з бацькамі

Савецкая політэхнічная школа, пабудаваная паводле вучэння Маркса—Леніна—Сталіна, з'яўляецца магутным сродкам дыктатуры пролетарыята ў справе выхавання пакалення людзей, „здольных канчаткова пабудаваць комунізм“.

Адным з найбольш важных фактараў у выхаванні падрастаючага пакалення з'яўляецца акружаючае асяроддзе, у якім растуць і развіваюцца дзеці.

Перыяд пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства праходзіць у абставінах абвостранай класавай барацьбы з разбітымі, але яшчэ канчаткова не знішчанымі астаткамі класавага ворага, які на фронце выхавання спрабуе прывіць нашым дзецям элементы антыпролетарскай ідэалогіі.

Школа, ажыццяўляючы комуністычнае выхаванне дзяцей, павінна аказваць свой уплыў на акружаючае асяроддзе, у якім растуць і развіваюцца дзеці, на іх сям'ю, на дарослых і дзяцей, сярод якіх школьнікі знаходзяцца па-за сценамі школы, „у мэтах выхавання пакалення, здольнага канчаткова ўстанавіць комунізм“. Без гэтага школе цяжка будзе справіцца з выкананнем стаячых перад ёю задач.

Чым старэйшае дзіця, тым больш пашыраецца круг яго соцыяльнага асяроддзя. Школьны ўзрост як раз з'яўляецца такім узростам, калі дзіця ўваходзіць у шырокае соцыяльнае асяроддзе і прымае пасільны ўдзел ў грамадскай рабоце ў школе, у піонератрадзе, у комсамольскай арганізацыі, у справе нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Адсюль выцякае вялікая роля школы, піонерарганізацыі і комсамола ў фарміраванні поглядаў і паводзін дзіцяці. Але нельга думаць, што роля сям'і ў гэтым узросце дзяцей, яе выхаваўчае ўздзейнічанне зніжаецца. Каб упэўніцца ў гэтым, дастаткова ўспомніць колькі часу школьнік бывае па-за школай. Роўна трэцюю частку часу школьнік праводзіць ў школе, а астатні час праводзіць сярод блізкіх, таварышоў і дарослых, дома і на вуліцы. І зусім натуральна, гэта абшчэнне не можа не аказваць на дзіця свайго выхаваўчага ўздзеяння. Але на жаль сям'я, маючая велізарнае значэнне ў справе выхавання, не заўсёды яшчэ з'яўляецца актыўным памочнікам у рабоце школы, іншы раз нават тармозіць яе работу, прывіваючы дзецям погляды, супярэчачыя ўстаноўкам школы (прымяненне фізічных пакаранняў, рэлігійнае выхаванне, дробнаўласніцкія адносіны да рэчаў, нацыяналізм розных колераў і інш.).

Такая розніца ў выхаванні сям'і і школы, такі двоісты падыход да дзіцяці дэзарганізуе яго паводзіны і часта з'яўляецца прычынай самых рознастайных ненармальнасцей у яго паводзінах у школе і дома. Гэты разнабой у выхаванні дзяцей з боку школы і сям'і з'яўляецца паказчыкам таго, што сям'я ў пытаннях савецкай педагогікі, часта стаіць

яшчэ на вельмі нізкім узроўні, і ў школе работа з бацькамі па павышэнню іх узроўню педагагічных ведаў з'яўляецца адстаючым участкам.

Заваёвы марксісцка-ленінскай педагогікі яшчэ не дайшлі да кожнай рабочай і калгаснай сям'і, дзе яшчэ нярэдкі выпадкі, калі адным з асноўных метадаў выхавання з'яўляецца рамень, запалохванне і падаўленне сілаю аўтарытэта старшых.

Да таго часу, пакуль школа грунтоўна не возьмецца за разгортванне сістэматычнай педагагічнай прапаганды сярод бацькоў і ўсіх працоўных за работу па прыцягненню сям'і ў дапамогу сваёй паўседзённай рабоце, школа будзе адчуваць вялікія цяжкасці ў выкананні стаячых перад ёю задач.

„Школа павінна быць самым цесным чынам звязана з сям'ёй, яна павінна аказваць на апошнюю ўздзеянне і ўплыў у духу тых вялікіх гістарычных мэт і задач, якія так пераможна вырашаюцца за апошнія гады ў нашай краіне, у краіне будуючагася соцыялізма“ (*А. Бубноў*).

У справе выхавання падрастаючага пакалення ні адзін з бацькоў, ні адзін з працоўных не могуць аставацца пасіўнымі, а павінны прымаць самы актыўны ўдзел. І для таго, каб гэты ўдзел не тармазіў вучэбна-выхаваўчай работы школы, трэба навучыць бацькоў правільна падыходз'ць да дзяцей і правільна іх выхоўваць.

Паставіць сям'ю на ўзровень нашых педагагічных ведаў, прыцягнуць яе да паўседзённай работы школы, мабілізаваць яе на выкананне задач комуністычнага выхавання дзяцей, зрабіць блізкай і зразумелай ёй паўседзённую работу школы, арганізаваць правільнае выхаванне дзіцяці ў сям'і—вось асноўныя задачы, вакол якіх школа разгортвае работу з бацькамі і грамадскасцю ў бягучым навучальным годзе.

Мінулы навучальны год паказвае, што недахопы, меўшыя месца ў рабоце школы, у поўнай меры тлумачацца тым, што школа ў дастатковай ступені не прыцягвала бацькоў і грамадскасць сабе на дапамогу. Там, дзе бацькі былі прыцягнуты і актыўна дапамагалі школе, школа дабілася лепшых вынікаў у сваёй вучэбна-выхаваўчай рабоце.

Так 6-я школа ФАНА (Масква), дзякуючы добра пастаўленай рабоце з бацькамі на працягу ўсяго 1933—34 навучальнага года сіламі свайго педкалектыва дабілася вялікай дапамогі з боку бацькоў. Школа мае 70 чалавек добра падрыхтаванага актыва бацькоў, з якіх штодзённа бывае ў школе 30—40 чалавек і не толькі бываюць, а канкрэтна дапамагаюць школе ў яе паўседзённых патрэбах. Пры садзейнічанні бацькоў школе ўдалося ў 2-х падшэфных жактах разгарнуць добрую работу з бацькамі па пытаннях выхавання дзяцей і арганізаваць работу з дзецьмі, выключанымі са школ. У чырвоных кутках жактаў сістэматычна ўрач і педагог праводзілі работу з бацькамі: ставілі гутаркі, даклады і давалі педагагічную консультацыю. Бацькі дапамагалі адрамантаваць школу к пачатку 1934—35 навучальнага году. Сабралі 8000 руб. грошай, дасталі фарбы, крэйду, вапну, алебастр, дошкі і транспарт. Апрача таго, бацькі далі на піонерскі лагер 13000 руб. і забяспечылі школу вучэбным матэрыялам для школьных майстэрняў. Паўседзённая работа бацькоў у школе выражаецца ў абследванні быта нуждаючыхся школьнікаў па забеспячэнню іх адзеннем, абуткам і г. д. Уся работа бацькоў у школе ў мінулым навучальным годзе колькасна выразілася ў 1500 рабочых днях.

Зараз бацькі прымаюць актыўны ўдзел ва ўсёй вучэбна-выхаваўчай рабоце школы: удзельнічаюць у метадычных нарадах, прысутнічаюць на ўроках, піонерскіх зборах, суправаджаюць дзяцей у кіно, дзяжураць па школе і інш. „Сістэма ў рабоце, планавасць, канкрэтнае кіраўніцтва і праверка выканання, забяспечылі нам добрую якасць работы з бацькамі“,—заяўляе дырэктар 6-ай школы т. А. Пераў.

5-ая школа ЗАНА (Масква) на працягу навучальнага года праводзіла планавую работу з бацькамі: быў арганізован гурток бацькоўскага актыва, на якім сістэматычна прапрацоўваліся пытанні выхавання дзяцей. Усяго ў гуртку прапрацавана 12 тэм, у ліку якіх былі гутаркі аб узросных асаблівасцях дзяцей, аб задачах бацькоў у выхаванні дзяцей, аб тым як арганізаваць жыццё дзіцяці ў сям'і, як дапамагчы дзіцяці добра вучыцца ў школе, чаму цябе не слухаецца тваё дзіця і інш.

У школьнай педкансультацыі быў арганізован прыкладны куток дзіцяці ў сям'і, паказан рэжым школьніка, вывешан спіс літаратуры для бацькоў і дзяцей, паказана папулярная педагагічная літаратура для бацькоў, паказана гігіенічнае адзенне дзяцей і г. д.

Кансультацыяй за год ахоплена 322 бацькі і 320 дзяцей, якіх 90 проц. абследвана на даму і ўсім бацькам дадзены практычныя парады па выхаванню іх дзяцей.

Пры складанні плана работы школы па педпрапагандзе трэба мець на ўвазе тое, што школа павінна з'явіцца апорным пунктам усёй работы па педпрапагандзе на тэрыторыі свайго раёна па ўсенавучу.

Работа школы з бацькамі павінна будавацца па наступных раздзелах:

а) арганізацыйная работа ў школе, у ЖАКТе і на вытворчасці,

б) масавая работа з бацькамі ў школе,

в) індывідуальная работа (куды ўваходзіць работа школьнай педкансультацыі і індывідуальная работа класных кіраўнікоў з бацькамі вучняў свайго класа),

г) педагагічная прапаганда ў ЖАКТе, калгасе, соўгасе,

д) работа на шэфствуючым прадпрыемстве,

е) улік работы.

У якасці прыкладу прыводзім вытрымкі з гадавога плана другой узорнай школы ФАНА (Масква) на 1934—35 навучальны год.

## А. Арганізацыйная работа.

I. Спланіраваць работу класных кіраўнікоў, педолага, урача, піонерважатых, пазашкольнага работніка, паста аховы дзяцінства і совета садзейнічання з бацькамі на бягучы навучальны год тэрмінам да 18/III—34 г.

*Адказны за педпрапаганду і заг. навуч. часткі...*

II. Арганізаваць куток бацькоў у школе тэрмінам да 20/X—34 г.

*Адказны педолаг і заг. навучальнай часткі...*

III. Папоўніць школьную бібліятэку літаратурай для бацькоў па пытаннях выхавання.

Распрацаваць рэкамендацыйны спіс для чытання бацькоў. Вызначыць час выдачы кніг бацькам тэрмінам да 25/X—34 г.

*Адказны за педпрапаганду і бібліятэку...*

IV. Арганізаваць педолага-педагагічную кансультацыю ў школе тэрмінам да 1/X—34 г.

*Адказны педолаг...*

V. Арганізаваць справачную педкансультацыю на заводзе „Каучук“ і ў ЖАКТе.

*Адказны за педпрапаганду на заводзе і ў ЖАКТе...*

VI. Арганізаваць кансультацыю для выкладчыкаў па рабоце з бацькамі (два разы ў месяц) тэрмінам да 15/X—34 г.

*Адказны за прапаганду...*

VII. Забяспечыць сістэматычнае скліканне нарад класных кіраўнікоў па пытаннях методыкі вядзення прапаганды (1—2 разы ў чвэрць).

*Адказны заг. навуч. часткі...*

## Індывідуальная работа

I. Выявіць бацькоў, якія патрабуюць педагагічнай дапамогі і прапусціць іх (магчыма ўсіх і паўторна) праз педкансультацыю.

II. Выклікаць па меры патрэбы і бацькоў на кансультацыю і абслужыць іх на даму.

III. Кансультацыі класных кіраўнікоў, педолагаў, урача як па запросах бацькоў, так і па меры патрэбнасці з боку школы.

Улік работы па педпрапагандзе будзе праводзіцца шляхам:

1) дзённіка (пярвічны),
2) фатаграфіі і альбомаў,
3) дыяграм (дынаміка),
4) зводак справаздач (квартальных, гадавой),
5) выстаўкі,
6) пратаколы бацькоўскіх сходаў.

У плане работы па педпрапагандзе неабходна ўказаць канкрэтную работу класнага кіраўніка, урача, педолага, піонерважатага, пазашкольнага работніка і совета садзейнічання.

У рабоце школы па педагагічнай прапагандзе цэнтральнай фігурай з'яўляецца класны кіраўнік, які адказвае за выхаваўчую работу ў класе.

Перш чым прыступіць да работы з бацькамі, класнаму кіраўніку неабходна, на аснове агульнага плана работы школы з бацькамі, планіраваць работу з бацькамі так, каб яна з'яўлялася арганічнай часткай вытворчага плана работы класа.

Трэба прадумаць змест, формы і методыку работы з бацькамі, а таксама методыку бацькоўскіх сходаў, гутарак, кансультацыі і пасля гэтага трэба прыступіць да сістэматычнай работы з бацькамі.

У якасці прыклада можна параіць наступную тэматыку класных бацькоўскіх сходаў, а таксама і гутарак, меўшых месца ў рабоце рада школ Масквы і Ленінграда: 1) выхаваўчая работа ў школе і сям'і, 2) як працуе наша школа, 3) як працуе наш клас, 4) якім павінен быць рэжым школьніка і як яго арганізаваць, 5) як дапамагчы дзіцяці ў падрыхтоўцы хатніх заданняў, 6) як прывучыць беражліва адносіцца да кніг і дапаможнікаў, 7) якія кнігі карысны школьніку ад 8 да 10 год, ад 10 да 12 год і інш., 8) як правільна арганізаваць вольны час школьніка, 9) якія павінны быць узаемаадносіны паміж дарослымі і дз цьмі, 10) асаблівасці дзяцей данага класа, 11) як выхоўваць не караючы, 12) як уплывае прыклад акружаючых на выхаванне дзяцей і інш., 13) як дапамагчы дзіцяці добра вучыцца, 14) кто такія трудныя дзеці.

Класны кіраўнік павінен пазнаёміць бацькоў свайго класа з праграмамі па кожнаму прадмету, увесці іх у курс выхаваўчай работы і сістэматычна на прыкладах работы педагогаў вучыць бацькоў правільнаму падыходу да дзіцяці.

Даць бацькам патрэбную педагагічную кніжку, адказаць на хвалюючыя іх пытанні па выхаванню дзіцяці, дапамагчы ў арганізацыі неабходных умоў для вучэбнай работы дзіцяці дома: арганізацыя кутка для заняткаў і гульняў, набыццё патрэбных ігр і дапаможнікаў і спартыўных прылад, устанаўлення правільнага рэжыма, правільная арганізацыя вольнага часу, разгрузка ад лішняй хатняй работы, кантроль і дапамога ў выкананні школьных заданняў—вось тыя пытанні, якія стаяць перад кожным педагогам, перад кожным з бацькоў у барацьбе за якасць вучэбна-выхаваўчай работы школы.

Работу па педагагічнай прапагандзе школы трэба планіраваць і праводзіць выходзячы з вытворчага плана работы школы, яе акружаючых умоў і запатрабаванняў бацькоў, прымяняючы найбольш рознастайныя

формы і метады гэтай работы, скарыстоўваючы з гэтай мэтай бацькоўскія сходы, арганізуючы бацькоўскія гутаркі і даклады, семінары, лекцыі, гутаркі і даклады па асобных пытаннях комуністычнага выхавання.

Пераходзячы да аналіза маючыхся форм і метадаў работы школы з бацькамі, трэба сказаць, што адной з характэрнейшых форм работы з бацькамі з'яўляецца педолага-педагагічная кансультацыя. Педолага-педагагічная кансультацыя ЗАНА (Масква), арганізаваная ў сістэме раённага педагагічнага габінета, карысталася вялікім аўтарытэтам і ў педагогаў і ў бацькоў. За ўвесь час работы педкансультацыя была перапоўнена дзецьмі і бацькамі.

Работу ў педкансультацыі праводзілі ўрач-псіханеўролаг, педолаг і педагог. Работа праходзіла па трох раздзелах: індывідуальная кансультацыя для бацькоў, работа з педагогамі і масавая работа з бацькамі ў раёне, як, напрыклад, арганізацыя лекцый, дакладаў, гутарак па школах і ЖАКТах, выязная педкансультацыя ў ЖАКТы, клубы, справаздачная кансультацыя ў калгасах і соўгасах. Правядзенне вечароў для бацькоў і бацькоўскіх канферэнцый па пытаннях выхавання. Індывідуальнай кансультацыяй за 1933—34 навучальны год было ахоплена 415 чалавек дзяцей і бацькоў.

Водзывы бацькоў, якія прайшлі педкансультацыю, кажуць аб тым, што педкансультацыя аказала ім вялікую дапамогу ў наладжванні правільнага выхавання іх дзяцей. У гэтых адносінах характэрна апісана думка маці: „Калі я даведалася, што мая дачка мае чатыры нездавальняючых адзнакі ў школе, я першы час была ў роспачы і не ведала, што мне рабіць. Педагог параіў звярнуцца за дапамогай у педкансультацыю, што я і зрабіла. Цяпер я знаю, што мне рабіць. Я сама павінна дапамагчы маёй дзяўчынцы добра вучыцца. Раней я не дазваляла вадзіць дзяўчынак у дом—з-за цеснаты і прымушала дзяўчынку рабіць урокі адну. Цяпер я сачу за тым, каб яна выконвала рэжым, каб яна ў 10 гадзін увечары клалася спаць, у 7 гадзін раніцы ўставала і своечасова на сваім месцы рыхтавала ўрокі. Калі яна садзіцца за ўрокі, я прыбіраю і выціраю стол, бяру маленькага Віцю і іду з ім гуляць, каб даць ёй магчымасць спакойна рыхтаваць урокі. А з бацькам я таксама гаварыла, каб ён не перашкаджаў дзецям займацца. Цяпер як толькі яна садзіцца за ўрокі і калі сам ён дома, дык ён не стукае і не курыць. І вось цяпер ідзе ўсё добра. Цяпер я ведаю, чаму мая Ніна не магла добра вучыцца. Зразумець гэта дапамагла мне педкансультацыя, за што ёй і дзякую“.

Іншымі найбольш эфектыўнымі формамі педагагічнай прапаганды з'яўляюцца бацькоўскія сходы. Але тут усё залежыць ад правільнай арганізацыі і правядзення гэтых сходаў.

На тэрыторыі Савецкага саюза няма школы, якая не праводзіць бацькоўскіх сходаў, але ўся бяда ў тым, што гэтыя сходы ў большасці выпадкаў праводзяцца толькі па пытаннях гаспадарчых патрэб школы, тады калі школе трэба нешта патрабаваць ад бацькоў (аб мэтавых узносах, аб плаце за падручнікі і г. д.).

Пакуль што бацькоўскія сходы менш за ўсё праводзяцца пад лозунгам: „Даць педагагічныя веды бацькам“. Вось чаму бацькі дрэнна наведваюць гэтыя сходы. Бацькоўскія сходы павінны быць сродкам зближэння школы і бацькоў, пры дапамозе якіх класны кіраўнік знаходзіць патрэбны кантакт з бацькамі вучняў, пры іх дапамозе павышае педагагічную граматнасць.

Сходы бацькоў у школе бываюць па вучэбных чвэрцях і ў канцы навучальнага года. Але як арганізуюцца гэтыя сходы? На жаль, у большасці выпадкаў яшчэ дрэнна. Бацькоў дрэнна паведамляюць аб

дні, часе і месцы сходаў. Бывае так, што бацькі, прышоўшы на сход, трацяць шмат часу на пошукі месца схода і на чаканне пачатку самога схода. Сходы, як правіла, у большасці выпадкаў пачынаюцца з вялікім спазненнем, у пустым, непрыветным, дрэнна асветленым пакоі.

Бацькі сядзяць з дзецьмі, кураць і інш.

Парадак дня настолькі перагружаюць пытаннямі, што сходы, распачатыя са спазненнем, зацягваюцца да 11—12 гадзін ночы. Даклады робяцца суха, у агульных словах. Калі гаворыцца аб паспяваемасці дзяцей дык асоба кожнага дзіцяці, перш за ўсё цікавячая бацькоў, топіцца ў багацці лічбовых даных ці скаргаў на дэзертыраў. Амаль не сустракаецца такіх бацькоўскіх сходаў, калі класны кіраўнік паставіў пытанне аб задавальненні ў сем'ях запатрабаванняў дзяцей, паказу дзіцячых работ і характарыстык вучняў, падымаючых дзіця ў вачах бацькоў. Хто як не педагог павінен ведаць інтарэсы дзіцяці і яго імкненні?

Педагог павінен знаць кожнага вучня і ўсямерна дапамагаць яму ў дасягненні намечанай мэты, спрыяючай выхаванню барацьбіта і будаўніка соцыялістычнага грамадства. Усё гэта будзе стымуляваць вучэбную работу дзяцей. Як дзіця не будзе любіць вучобу, калі школа дае яму красачныя і цікавыя перажыванні?! Бацькоўскі сход, безумоўна, будзе цікавым, калі ён не будзе доўга цягнуцца, будзе добра арганізаваным, пачатым без спазнення і ў парадку дня, замест сухога даклада з скаргамі на вучняў, з грашовымі патрабаваннямі да бацькоў і г. д., будзе стаяць даклад, у якім педагог малюе яркія дзіцячыя асобы, кожнага са сваімі асаблівасцямі і запатрабаваннямі. Вось гэтая арганізаванасць, уменне берагчы свой і чужы час, паказ кожнага вучня і з добрага і з дрэннага боку неабходны для забеспячэння поспеху работы з бацькамі.

Пасля схода не дрэнна паказаць мастацкую кінокарціну, дзіцячую пастаноўку і справаздачы дзяцей аб сваёй вучэбнай рабоце. У гэтых адносінах трэба ўзяць прыклад школы хутара „Прывольнага" (Паўночны Каўказ), якая праводзіла спецыяльна бацькоўскія сходы з улікам паспяховасці дзяцей па вучэбных прадметах ілюстраванымі прыкладамі (біялогія, матэматыка, расійская мова і інш.), пасля якіх бацькам стаў ясны ход вучобы іх дзяцей, і яны сталі больш актыўнымі ў рабоце школы.

У якасці другога прыкладу можна спаслацца на работу бацькоўскіх сходаў 24-й школы БАНА (Масква) у 1933—34 навучальным годзе, якая здолела правільна накіраваць работу класных бацькоўскіх сходаў. У пачатку навучальнага года педолагам школы сумесна з класнымі кіраўнікамі была прапрацавана тэматыка бацькоўскіх сходаў на ўвесь навучальны год.

Адзін раз у месяц бацькі прыходзілі на сход, дзе слухалі гутарку па раней аб'яўленаму пытанню выхавання, у якой дакладчык коратка і ясна асвятляў пытанне, выслухоўваў думкі бацькоў, адказваў на іх пытанні і даваў практычныя парады на аснове вывучэння дзіцяці і яго хатніх умоў. Пасля схода бацькі тут-жа атрымоўвалі кансультацыю ў педолага на ўсе цікавячыя іх пытанні. Сход і яго ход пратакаліраваліся. Педагогі ў рабоце з бацькамі свайго класа, апрача бацькоўскіх сходаў, праводзяць работу ў форме гутарак па таму ці іншаму пытанню. Мэта гэтых гутарак заключаецца ў тым, каб у выніку іх правядзення бацькам стала ясна тое ці іншае пытанне. Напрыклад: класны кіраўнік праводзіць гутарку на тэму: „Школа і сям'я". У выніку правядзення кожнай гутаркі бацькам павінны быць зразумелы іх абавязкі па выхаванню дзяцей і іх адносіны да школы. Гутарка не павінна быць доўгай, максімум 20—30 хвілін. Усе асноўныя моманты гутаркі трэба ілюстраваць фактамі з жыцця дзяцей данага класа. Для гэтага неабходна загадзя падрыхтавацца, абследваць дзяцей на даму, атрымаць звесткі

ў урача аб здароўі і ў педолага аб разумовым развіцці. Не называючы асобныя прозвішчы бацькоў, трэба затрымаць увагу апошніх і на адмоўных і на дадатных момантах быту дзяцей і стымуляваць да выказванняў па закранутаму пытанню.

Гутарку трэба закончыць прыняццем цвёрдага рашэння па закранутаму пытанню і вызначыць дзень кансультацыі для бацькоў па гэтаму-ж пытанню.

Для лепшага ўспрыняцця паднасімага бацькам матэрыялу гутаркі, аднаго паведамлення дакладчыка і выказванняў бацькоў незаўсёды бывае дастаткова,—трэба прыцягнуць да гутаркі адпаведныя лозунгі, плакаты, памяткі і інш. Вельмі пажадана да кожнай тэмы гутаркі загадзя прапрацаваць спіс рэкамендацыйнай літаратуры для бацькоў, ці лепш арганізаваць паказ гэтай літаратуры ў выглядзе вітрыны.

Важнейшым момантам у рабоце школы па педпрапагандзе з'яўляецца планаванне і ўлік.

Асноўнай формай уліку работы з бацькамі ў класе па многіх школах з'яўляецца дзеннік класнага кіраўніка, у якім дакладна і падробна запісваецца работа з бацькамі за кожны дзень.

У канцы кожнай вучэбнай чвэрці і ў канцы навучальнага года загадчык навучальнай часткі складае гадавую справаздачу аб рабоце па педагагічнай прапагандзе, збірае матэрыял, які характарызуе праведзеную работу, і разам з усім школьным матэрыялам адбівае яго на падагульняючай выстаўцы работы школы.

Чоткі план павінен забяспечыць і паспяховае правядзенне работы і лепшы ўлік яе.

Разгорнем-жа сістэматычную педагагічную прапаганду, прыцягнем бацькоў да паўсядзённага ўдзелу ў рабоце політэхнічнай школы, створым адзіны фронт комуністычнага выхавання дзяцей у школе і ў сям'і.

## Літаратура па пытаннях педагагічнай прапаганды

*Для педагогаў*

1. Н. Гай и Т. Веселитская—„В помощь школьному работнику по педпропаганде". Издан. Учпедгиза. 1934 г. Ц. 40 к.

2. А. Гелина и др.—Педолого-педагогическая пропаганда в политехнической школе". Изд. ЛППИ. 1933 г.

3. З. Богуславская и Е. Горфман—„В помощь школьному работнику по педконсультации". Изд. Учпедгиза. 1933 г. Ц. 50 к.

4. „Программы и конспекты по вопросам воспитания детей". Выпуск 2-й „Раб. просвещения". 1930 г. МОНО.

*Для бацькоў*

1. Сомохин. — „Коммунистическое воспитание школьников в семье". Издание 1934 г. Учгиз. Москва. Ц. 45 к.

2. М. П. Малышев—„Родителям о школьной дисциплине". Учгиз. Москва. 1934 г. Ц. 25 к.

3. С. Н. Малов—„Горячие завтраки в школе" Учгиз. Москва. 1934 г. Ц. 5 к.

4. Б Н. Грамолина—„Как воспитать ребенка здоровым". Учпедгиз. Москва. 1934 г. Ц. 10 к.

5. Л. И. Красногорская—„Значение для ребенка примера окружающих". Учпедгиз. 1934 г. Москва Ц. 10 к.

6. И. Б. Израйлит—„Игра дошкольников в семье". Учпедгиз. Москва. 1934 г. Ц. 15 к.

7. И. Флеров—„Религия, семья и дети". Изд. „Безбожник". 1930 г. Ц. 8 к.

8. Его-же—„Антирелигиозная работа с родителями". Госиздат. 1930 г. Ц. 20 к.

9. „Интернациональное воспитание ребенка в семье". Гиз. 1930 г. Ц. 10 к.

10. Проф. Аркин—„О некоторых вопросах воспитания". Учпедгиз. Москва. 1934 г.
11. Буцельман—„Почему нельзя наказывать детей". Гиз.
12. С. Спасская—„Почему тебя не слушается твой ребенок". Изд. Москва Гороно. 1932 г.
13. Выготский—„Трудные дети в школе". Изд. Учпедгиз. 1934 г. Ц. 40 к.

АД РЭДАКЦЫІ:

**Бываюць такія выпадкі, калі бацькі, не гледзячы на ўсе намаганні школы, рашуча адмаўляюцца ад якой-бы та ні было сувязі з школай, зусім не займаюцца выхаваннем сваіх дзяцей і, наадварот, падштурхоўваюць сваіх дзяцей да рознага роду антыкомуністычных праяў. У адносінах такіх бацькоў школы павінны скарыстаць самыя рознастайныя меры грамадскага ўздзеяння—аж да перадачы справы ў суд. Бацькі павінны адказваць за правільнае выхаванне сваіх дзяцей, разам з гэтым рэдакцыя звяртаецца да дырэктароў і загадчыкаў школ і класных кіраўнікоў прысылаць матэрыялы, якія асвятляюць добры вопыт работы школы з бацькамі.**

*А. Посах*

# Тэорыя прэдзелаў у курсе матэматыкі сярэдняй школы

## Роля і значэнне метада прэдзелаў у сярэдняй школе

Асноўнай ідэяй праграмы па матэматыцы ў сучаснай школе з'яўляецца ідэя функцыянальнай залежнасці. Вялікае значэнне гэтай ідэі ў выкладанні элементарнай матэматыкі прызнаюць усе вядомыя матэматыкі-педагогі. Гэтай ідэі нельга абыйсці, калі мы хочам увязаць курс матэматыкі сярэдняй школы з тым курсам, які чакае вучня ў вышэйшай школе.

Але сутнасць функцыянальнай залежнасці не можа быць добра высветлена, пакуль у вучняў не выпрацуецца правільнае і яснае разуменне пастаяннай і пераменнай велічыні, функцыі, не засвоіцца паняцце прэдзела пераменнай велічыні і спосабу прэдзелаў. Будзе зусім няправільна з метадычнага боку ўхіляцца ад спосабу прэдзелаў, з прычыны вялікай адукацыйнай вартасці як самой ідэі, так і паняццяў, з ёю звязаных. Але памылкова думаць, што тэорыя прэдзелаў у сярэдняй школе пав'нна выкладацца поўнасцю. Гэта не будзе адпавядаць ні запатрабаванням школы, ні развіццю вучняў.

Асноўнай мэтай з'яўляецца даць вучням уяўленне ідэі метада прэдзелаў. Не будзе нічога няправільнага ў тым, калі яны не будуць ведаць доказаў усіх тэарэм аб бесканечна малых і аб прэдзелах. Нават такія асцярожныя і строгія аўтары як Папружэнка і Фіхтэнгольц не даказваюць гэтых тэарэм, а высвятляюць толькі іх сэнс і змест і паказваюць прымяненне метада прэдзелаў. Праграма Наркомасветы БССР (выданне 1934 г.) наконт гэтага дае простае ўказанне: „доказ аб прэдзеле сумы канечнага ліку бесканечна малых абмежаваць“...

## Месца тэорыі прэдзелаў у курсе сярэдняй школы.

З паняццем „прэдзел“ у элементарнай матэматыцы прыходзіцца мець справу галоўным чынам у геаметрыі. У апошні год навучання з павелічэннем матэматычнага разв'ця вучняў паўстае пытанне аб лагічным вывадзе формул даўжыні акружнасці, плошчы круга і паверхняў і аб'ёмаў круглых цел. Але каб правільна і поўнасцю скарыстаць метад прэдзелаў пры вывадзе гэтых формул, вучні павінны атрымаць папярэднюю падрыхтоўку, г. зн., як гаварылася вышэй, мець яснае прадстаўленне аб пастаяннай і пераменнай велічынях, аб прэдзеле пераменнай велічыні і аб бесканечна малой велічыні. З гэтай мэтай у праграме 10 класа выдзелены асобы аддзел пад назвай „Тэорыя прэдзелаў“, і толькі

пасля гэтага даецца аддзел „Прымяненне тэорыі прэдзелаў у геаметрыі“. На распрацоўку абодвух гэтых аддзелаў праграмай адводзіцца 22 гадзіны.

Апрача геаметрыі, да способу прэдзелаў прыходзіцца зварочвацца і ў пытанні аб ірацыянальным ліку і пры вылічэнні сумы членаў бесканечна ўбываючай геаметрычнай прагрэсіі, прыватным выпадкам якой з'яўляецца перыядычны дроб у арыфметыцы.

З метадычнага боку неабходна ўсе пытанні элементарнай матэматыкі, якія патрабуюць прымянення способу прэдзелаў, аб'яднаць у адным месцы, як гэта і зроблена ў праграме.

## Заўвагі да пытання аб азнаямленні з паняццем бесканечна малой велічыні.

З паняццем пастаяннай і переменнай велічынь, незалежнай переменнай і функцыі, а таксама з паняццем бесканечна малой велічыні трэба знаёміць на геаметрычным матэрыяле. У якасці прыкладаў можна ўзяць дыяметр і хорду акружнасці; змяненне плошчы трохвугольніка ў залежнасці ад яго асновы або вышыні; змяненне велічыні апафемы многавугольніка ў залежнасці ад павелічэння ліку старон гэтага многавугольніка.

Прыкладамі переменных канечных, на якія ўказвае праграма, могуць з'яўляцца такія переменныя лікі:

$$y = 4;\ 4{,}9;\ 4{,}99;\ 4{,}999...$$

$$z = \left(3 + \frac{1}{x}\right)$$

Ясна, што значэнні ліку $y$ больш (або роўны) 4, але менш 5; значэнні $z$ пры ўмове калі $x$ прымае неабмяжаваны рад значэнняў паслядоўных цэлых дадатных лікаў, пачынаючы з адзінкі, не могуць быць менш 3 і больш 4.

Пры тлумачэнні бесканечна-малой велічыні трэба дабіцца, каб вучні цвёрда засвоілі, што бесканечна малая—гэта: 1) *велічыня переменная*, 2) велічыня безгранічна памяншаючаяся і 3) прытым такая переменная, якая не толькі можа зрабіцца менш за любы пастаянны лік, але і астаецца менш за гэты лік пры далейшых змяненнях. Трэба знішчыць у вучняў няправільнае прадстаўленне аб бесканечнай малой, як аб велічыні зусім маленькай, якую цяжка вымераць. Трэба дабіцца ад вучня, каб ён ясна адрозніваў велічыню надта маленькую ад бесканечна малой. Тут можна прывесці такі прыклад: аб'ём нязменнага атама нельга назваць велічынёй бесканечна малой, а аб'ём цвёрдага растапліваючага цела, згодна нашаму азначэнню, мы можам назваць велічынёй бесканечна малой. $10^{-10}$ лік хоць і вельмі малы, але пастаянны і таму не можа быць назван лікам бесканечна малым, у той час, як лік $\frac{1}{n}$, у якім $n$ можа прымаць значэнні 1, 2, 3, 4... ёсць бесканечна малы. Так, калі мы пажадаем, каб $\frac{1}{n}$ была $< 10^{-10}$, то для гэтага трэба толькі ўзяць $n > 10^{10}$; тады, пры далейшым павелічэнні $n$, $\frac{1}{n}$ будзе заставацца менш $10^{-10}$.

Бесканечна вялікую велічыню можна паказаць як велічыню адваротную бесканечна малой. Сапраўды, калі $\frac{1}{n}$ пры $n = 1, 2, 3...$ велічыня

бесканечна малая, то пры гэтай самай умове назоўнік $n$ ёсць таксама зменны лік, які па сваёй абсалютнай велічыні можа стаць і пры далейшым змяненні аставацца больш за любы пастаянны дадатны лік. Тут трэба звярнуць увагу на тое, што бесканечна вялікая велічыня—велічыня зменная.

Высветліўшы паняцці бесканечна малой і бесканечна вялікай велічынь, неабходна разглядзець прыклады, на якія ўказвае праграма.

1) Велічыня $n$-ага члена бесканечна ўбываючай геаметрычнай прагрэсіі.

Прыклад гэты разглядаецца ў стабільным падручніку па алгебры (ч. II, стар. 82, выд. 1933 г.) у курсе 9 класа і таму ў фармулёўцы яго адсутнічае тэрмін „бесканечна малы“. Цяпер яго можна сфармуляваць так:

Ва ўбываючай геаметрычнай прагрэсіі пры бесканечным павелічэнні ліку яе членаў $n$-ы член яе ёсць лік бесканечна малы.

Калі ў бесканечна ўбываючай геаметрычнай прагрэсіі абазначым першы член праз $a$, назоўнік праз $q$ і $n$-ы член праз $u$, то ў прыватным выпадку пры $q=a$, $u=a^n$ і толькі што зроблены вывад зварочваецца ў такі:

$a^n$ пры $a$ пастаянным і меншым за адзінку і пры бесканечна ўзрастаючым паказчыку будзе лік бесканечна малы, інакш кажучы, $n$-ая ступень правільнага пастаяннага дробу пры бесканечна ўзрастаючым паказчыку ёсць лік бесканечна малы.

2) Прыклад адносна даўжыні стараны правільнага ўпісанага ў круг многавугольніка пры бесканечным узрастанні ліку яго старон у стабільным падручніку зусім не разглядаецца. Яго можна паказаць такім чынам.

Абазначым лік старон правільнага ўпісанага многавугольніка праз $n$, а даўжыню праз $a_n$; тады перыметр выразіцца колькасцю $n \cdot a_n$; пры безгранічным павелічэнні ліку $n$ перыметр будзе змяняцца, але заўсёды астанецца менш перыметра любога апісанага многавугольніка, напрыклад, апісанага квадрата. Паколькі старана апісанага квадрата роўна дыяметру круга, а перыметр апісанага квадрата ровен $8R$ ($R$—даўжыня радыуса), маем

$$n \cdot a_n < 8R$$

або

$$a_n < \frac{8R}{n}.$$

Каб даўжыня $a_n$ была менш любога пастаяннага дадатнага ліку $h$, неабходна ўмова:

$$\frac{8R}{n} \geqslant h,$$

адкуль

$$n \geqslant \frac{8R}{h},$$

а гэту ўмову заўсёды можна выканаць, бо $n$ бесканечна ўзрастае; пры гэтай умове будзем мець $a_n < h$.

Такім чынам, даўжыня стараны $a_n$ менш любога пастаяннага дадатнага ліку $h$; пры далейшым павелічэнні ліку старон многавугольніка яна астаецца менш $h$; а значыць $a_n$ ёсць велічыня бесканечная малая.

Пасля гэтага праходзяцца неабходныя тэарэмы аб дзеяннях над бесканечна малымі колькасцямі. Лепш за ўсё спачатку разгледзець гэтыя тэарэмы на прыватных прыкладах і толькі пасля гэтага агульныя іх доказы.

Па сутнасці для вываду ўсіх формул адносна круга і круглых цел неабходна толькі тры тэарэмы аб бесканечна малых:

1. Сума двух бесканечна малых велічынь роўна або бесканечна малой велічыні, або нулю.

2. Здабытак бесканечна малой велічыні на пастаянную, няроўную нулю, а таксама дзель ад дзялення бесканечна малой велічыні на пастаянную, няроўную нулю, будуць велічыні бесканечна малыя.

3. Здабытак бесканечна малой велічыні на пераменную канечную, а таксама дзель ад дзялення бесканечна малой велічыні на пераменную канечную ёсць велічыні бесканечна малыя.

Доказ першай тэарэмы можна правесці, прыкладна, такім чынам.

Возьмем два пераменныя бесканечна малыя лікі:

$$x = 3;\ 0{,}3;\ 0{,}03;\ 0{,}003;\ldots$$
$$y = 1;\ 0{,}1;\ 0{,}01;\ 0{,}001;\ldots$$

і будзем пад сумай іх разумець лік, значэнні якога атрымаюцца ад складання адпаведных значэнняў складаемых. Мы атрымаем такую суму:

$$x + y = 4;\ 0{,}4;\ 0{,}04;\ 0{,}004;\ldots$$

Адсюль відаць, што гэта сума таксама бесканечна малы лік.

Возьмем цяпер такія бесканечна малыя лікі:

$$x = \ 1;\ -\frac{1}{2};\ \frac{1}{3};\ -\frac{1}{4};\ldots$$

$$y = -1;\ \frac{1}{2};\ -\frac{1}{3};\ \frac{1}{4};\ldots$$

Склаўшы іх, мы атрымаем: $x + y = 0$.

## Заўвагі да азнаямлення з паняццем прэдзела.

Паняцце прэдзела трэба высвятляць таксама на прыватных прыкладах, узятых з галіны пераменных лікаў або з геаметрыі. Тут можна скарыстаць такі прыклад:

$$x = 9;\ 9{,}9;\ 9{,}99;\ 9{,}999;\ldots$$

Члены гэтага раду, а значыць, і велічыня пераменнага ліку $x$ увесь час узрастаюць. Далей вучні шляхам вылічэння рознасці паміж 10 і лікам данага раду пераконваюцца, што пераменны лік $x$ пры сваіх змяненнях набліжаецца да пастаяннага ліку так, што абсалютная велічыня рознасці паміж імі можа зрабіцца менш наперад заданага малога дадатнага ліку і пры далейшым працэсе змянення астаецца менш гэтага ліку.

Азначэнне прэдзела даецца поўнае. Асаблівая ўвага павінна быць звернута на тое, што пастаянная велічыня толькі тады можа быць прэдзелам пераменнай, калі рознасць паміж імі будзе задавальняць выведзеным умовам, г. зн. што яна па абсалютнаму значэнню можа зрабіцца менш усякага наперад заданага малога дадатнага ліку і пры далейшых змяненнях астаецца менш гэтага ліку. Паказаць гэта можна так: бярэм пераменны лік:

$$x = 0{,}9;\ 0{,}99;\ 0{,}999;\ldots$$

знаходзім рознасць паміж 2 і даным пераменным лікам:

$$2 - 0{,}9 = 1{,}1 > 1$$
$$2 - 0{,}99 = 1{,}01 > 1$$
$$2 - 0{,}999 = 1{,}001 > 1$$
$$\cdot\ \cdot\ \cdot\ \cdot\ \cdot\ \cdot\ \cdot\ \cdot$$

Вылічаем таксама рознасць паміж 1 і даным пераменным лікам:

$$1 - 0{,}9 = 0{,}1$$
$$1 - 0{,}99 = 0{,}01$$
$$1 - 0{,}999 = 0{,}001$$
$$\cdot\ \cdot\ \cdot\ \cdot\ \cdot\ \cdot\ \cdot$$

Ці набліжаецца наш зменны лік да 2? Першы член раду адрозніваецца ад 2 на 1,1; другі на 1,01; трэці на велічыню яшчэ меншую і т. д. Але да 2 лік раду набліжаецца не так як да 1. Хоць розпасць паміж 2 і лікамі раду і памяншаецца, але яна ўвесь час астаецца больш 1. Значыць, 2, згодна азначэнню, нельга лічыць прэдзелам нашага пераменнага ліку, а 1 можна.

Разгледзім яшчэ прыклад:

$$x = 0{,}5;\ 0{,}55;\ 0{,}555 \text{ і т. д.}$$

Паглядзім як гэты пераменны лік будзе набліжацца да пастаяннага ліку 0,5555.

$$\begin{aligned} 0{,}5555 - 0{,}5 &= |0{,}0555| \\ 0{,}5555 - 0{,}55 &= |0{,}0055| \\ 0{,}5555 - 0{,}555 &= |0{,}0005| \\ 0{,}5555 - 0{,}5555 &= |0| \\ 0{,}5555 - 0{,}55555 &= |0{,}00005| \\ 0{,}5555 - 0{,}555555 &= |0{,}000055| \end{aligned}$$

Назіраючы ў гэтым прыкладзе працэс змянення велічыні, мы бачым, што розпасць паміж пастаяннай велічынёй 0,5555 і пераменнай $x = 0{,}5$; 0,55; 0,555... памяншаючыся робіцца роўна нулю, г. зн. менш усякага наперад заданага ліку. Аднак, 0,5555 не можа быць прынята за прэдзел данага ліку, бо пры далейшых змяненнях абсалютнае значэнне розпасці не можа зрабіцца менш нават 0,00001. Прэдзелам нашага пераменнага ліку будзе $\frac{5}{9}$. Пераканацца ў гэтым павінны самі вучні.

На знаходжанне прэдзела трэба звярнуць асаблівую ўвагу, бо інакш вучні любое прыватнае значэнне пераменнай могуць прыняць за яе прэдзел.

У якасці прыкладаў пераменных велічынь, маючых прэдзел, неабходна разабраць наступныя, на якія ўказвае праграма:

1. Прэдзел велічыні вугла правільнага многавугольніка, лік старон якога бесканечна ўзрастае.

2. Апафема правільнага ўпісанага многавугольніка пры бесканечным павелічэнні ліку старон мае сваім прэдзелам радыус круга.

3. Прэдзел сумы членаў бесканечна ўбываючай геаметрычнай прагрэсіі і ў звязку з гэтым ператварэнне перыядычных дробаў у простыя.

Апошні прыклад разглядаецца ў стабільным падручніку па алгебры ў курсе 9 класа. Цяпер астаецца яго паўтарыць, прымяніўшы тэарэмы аб бесканечна малых і аб прэдзелах.

Другі прыклад разглядаецца ў стабільным падручніку па геаметрыі (ч. I, стар. 172). Але там у рэзультаце разважанняў вучань прыходзіць толькі да вываду, што апафема пры вядомых умовах набліжаецца да радыуса ўсё больш і больш, а ці з'яўляецца пры тых самых умовах радыус прэдзелам апафемы з разважанняў не відаць. Гэты прабел неабходна запоўніць.

Першы прыклад у стабільных падручніках (алгебры і геаметрыі) зусім не разглядаецца. Яго можна паказаць так: сума вуглоў усякага многавугольніка, маючага $n$ старон, роўна $2d\ (n-2)$. Абазначым велічыню вугла правільнага многавугольніка з $n$ старонамі праз $x$, тады атрымаем:

$$x = \frac{2d(n-2)}{n} = 2d - \frac{360^\circ}{n} = 180^\circ - \frac{360^\circ}{n}.$$

Даючы $n$ рад бесканечна ўзрастаючых значэнняў $n = 3, 4, 5, 6...$ паглядзім як змяняецца пераменная велічыня $x$.

Калі $n = 3$, то $x = 60^\circ$
„ $n = 4$, „ $x = 90^\circ$
„ $n = 5$, „ $x = 108^\circ$
„ $n = 6$, „ $x = 120^\circ$
„ $n = 7$, „ $x = 128\frac{4}{7}^\circ$
„ $n = 8$, „ $x = 135^\circ$
„ $n = 9$, „ $x = 140^\circ$
„ $n = 10$, „ $x = 144^\circ$
. . . . . . . . . . .
„ $n = 36$, „ $x = 170^\circ$

Пакольki $x$ прадстаўляе сабой рознасць двух дадатных лікаў $180^\circ$ і $\frac{360^\circ}{n}$, то значэнні $x$ пры бесканечным узрастанні $n$ увесь час астаюцца менш $180^\circ$. Каб паказаць, што $x$ можа адвольна мала адрознівацца ад $180^\circ$, возьмем рознасць $180^\circ - x = \frac{360^\circ}{n}$.

Для таго, каб $x$ адрозніваўся ад $180^\circ$ не больш чым на $h$ градусаў ($h$ лік пастаянны і дадатны), трэба каб задавальнялася ўмова:

$$\frac{360^\circ}{n} \leqslant h,$$

адкуль

$$n \geqslant \frac{360^\circ}{h},$$

а гэтая ўмова заўсёды выконваецца, бо $n$ бесканечна ўзрастае. Калі мы захочам, каб $x$ адрозніваўся ад $180^\circ$ не больш чым на адну мінуту $\left(\frac{1}{60}\text{ градуса}\right)$, то павінны ўзяць

$$n \geqslant 360 : \frac{1}{60}, \text{ г. зн. } n \geqslant 21600.$$

Сапраўды, пры гэтых умовах будзем мець:

$$x = 180^\circ - \frac{360^\circ}{21\,600} = 180^\circ - 1' = 179^\circ\ 59'.$$

Такім чынам мы пераконваемся, што рознасць паміж пастаяннай велічынёй $180^\circ$ і пераменным $x$ бесканечна малая, а гэта і значыць, што пастаянная велічыня $180^\circ$ ёсць прэдзел пераменнага $x$.

*Для патрэб элементарнай матэматыкі па сутнасці неабходны наступныя тэарэмы аб прэдзелах:*

1) аб адзінасці прэдзела,

2) аб пастаяннай велічыні, якая знаходзіцца паміж двума бесканечна блізкімі пераменнымі і

3) аб прэдзелах здабытку двух пераменных і пераменнага на пастаянны лік.

Для ілюстрацыі другой тэарэмы карысна разгледзець такія лікавыя прыклады. Бярэм два рады лікаў:

$$b = 2\frac{1}{2};\ 2\frac{1}{3};\ 2\frac{1}{4};\ 2\frac{1}{5}...\ 2+\frac{1}{n} \searrow 2$$
$$a = 1\frac{1}{2};\ 1\frac{2}{3};\ 1\frac{3}{4};\ 1\frac{4}{5}...\ 2-\frac{1}{n} \nearrow 2$$

Лікі першага раду ўбываюць, другога раду ўзрастаюць, але члены апошняга менш членаў першага раду; прычым рознасць

$$2+\frac{1}{n}-2+\frac{1}{n}=\frac{2}{n}$$

можа быць зроблена менш усякага наперад заданага адвольнага малога дадатнага ліку. На аснове тэарэмы 2) пераменныя лікі *a* і *в* імкнуцца да супольнага прэдзела 2.

Гэту тэарэму і толькі што разгледжаны прыклад трэба скарыстаць для таго, каб паказаць, што кожны ірацыянальны лік ёсць прэдзел пэўнага раду рацыянальных лікаў. Напрыклад, $\sqrt{2}$ ёсць прэдзел паслядоўнасцей:

1; 1,4; 1,41; 1,4142...
2; 1,5; 1,42; 1,415; 1,4143...

Гэта надзвычайна важна, бо толькі таму мы і можам дзеянні над ірацыянальнымі лікамі замяняць дзеяннямі над лікамі рацыянальнымі.

Пытанне аб прымяненні тэорыі прэдзелаў у геаметрыі састаўляе асобы аддзел праграмы і патрабуе спецыяльнай метадычнай распрацоўкі.

---

*В. Зайцаў, Л. Шашкоў*

# Узорны ўрок па фізіцы

Выкладчык фізікі менскай базавай сярэдняй школы імені Чарвякова пры Наркомасветы т. Міхлін, уключаючыся ў свой час разам са школьным калектывам у вытворчы паход імені VII з'езда советаў, узяў на сябе рад канкрэтных абавязкаў. Асноўным у абавязках т. Міхліна было: добра рыхтавацца да кожнага ўрока, падняць якасць арганізацыі педагагічнага працэса і тым самым дабіцца лепшага засваення вучнямі выкладаемай ім дысцыпліны.

Зараз ужо можна сказаць, што т. Міхлін, як і належыць ударніку, сапраўды змагаецца за ажыццяўленне сваіх абавязкаў. А каб не быць галаслоўнымі, падмацуем наша сцвярджэнне фактамі.

На ўрок т. Міхлін з'яўляецца з добра прадуманым рабочым планам, а сам урок заўсёды абстаўляе дастатковай колькасцю дыдактычнага матэрыялу. Нам нярэдка прыходзілася назіраць, калі ў таго ці іншага настаўніка маецца і не дрэнна распрацаваны рабочы план, але як толькі пачынаецца ўрок, то план астаецца толькі планам, а ўрок ідзе сам па сабе, часта прама ў разрэз з планам. У т. Міхліна рабочы план не разыходзіцца з практычным яго ажыццяўленнем.

Урокі т. Міхліна глыбокі па зместу, выклікаюць у вучняў зацікаўленасць, а разам з тым зусім даступны іх разуменню. І што асабліва важна падкрэсліць—тэорыя заўсёды падмацоўваецца практыкай. У рэзультаце кожнага ўрока дзеці атрымліваюць пэўную і, можна смела сказаць, цвёрдую суму ведаў па фізіцы.

Возьмем адзін з урокаў фізікі ў VII класе, на якім разам з намі прысутнічала некалькі выкладчыкаў фізікі менскіх школ.

Тэма ўрока—супраціўленне праваднікоў. У рабочым плане маецца пэўная мэтавая ўстаноўка, дакладна гаворыцца аб тым, які аб'ём ведаў павінны атрымаць дзеці за 45 мінут урока, прыводзіцца ход апошняга, указваюцца дыдактычныя матэрыялы, якія мае на ўвазе выкарыстаць педагог, каб вучні лепш маглі засвоіць даны праграмны матэрыял. У плане мы знаходзім вузлавыя пытанні ўрока з указаннем колькасці часу на іх прапрацоўку. Карацей кажучы, усё прадумана да дробязей.

Даволі нават глянуць на абстаноўку ў класе, каб сказаць, што рабочы план настаўніка Міхліна не разыходзіцца з рэчаіснасцю. На настаўніцкім стале, а таксама на кожным століку вучняў, сядзячых групамі па 4—5 чалавек, стаяць элементы Лекланшэ, амперметры, дошкі з нацягнутым дротам рознай даўжыні і сячэння і з розных матэрыялаў. На класнай дошцы—партрэт нямецкага вучонага Ома, не дрэнна нарысаваны адным з вучняў VII класа; вісіць таксама на дошцы і табліца ўдзельнага супраціўлення розных матэрыялаў.

Настаўнік пачынае ўрок з паўтарэння папярэдняга матэрыялу. Адказы выклікаемых вучняў сведчаць аб тым, што яны зусім здавальняюча ведаюць, што называецца сілай току, што прымаецца за адзінку вымярэння сілы апошняга, які ток называецца токам у адзін ампер, ад чаго залежыць сіла току ў ланцугу. Адказы дзяцей кажуць аб поўным усваенні імі матэрыялу папярэдняга ўрока.

Тав. Міхлін падагульняе адказы вучняў і робіць вывад, што сіла току ў ланцугу залежыць ад крыніцы электрычнасці—у даным выпадку ад ліку ўзятых элементаў.

— А цяпер, дзеці, пагляд зім, як будзе змяняцца сіла току ад адной і той-жа крыніцы ў залежнасці ад уласцівасці праваднікоў,—звярочваецца настаўнік да вучняў, пачынаючы тлумачэнне новага матэрыялу праграмы.

У жывой, цікавай гутарцы, падмацоўваемай доследамі на прыборах, настаўнік тлумачыць дзецям, што сіла току ў ланцугу змяняецца ў залежнасці ад даўжыні аднаго і таго-ж правадніка. Вучні не толькі слухаюць тлумачэнні настаўніка і назіраюць за правадзімымі ім доследамі, але і самі па прапанове настаўніка прарабляюць гэтыя доследы на прыборах, якія стаяць у іх на століках.

Вучні разам з настаўнікам робяць вывад, што сіла току ў ланцугу тым больш, чым карацей праваднік, і наадварот. Такім-жа чынам яны пераконваюцца і робяць вывад, што сіла току ў ланцугу залежыць ад таўшчыні аднаго і таго-ж правадніка.

— Глядзіце, дзеці, зараз уключаю ў ланцуг нікелінавы дрот і, як вы бачыце, амперметр паказвае сілу току ў 0,1 ампера.

— Уключаю медны дрот такой-жа даўжыні і таўшчыні. Колькі цяпер паказвае амперметр?

— Амперметр паказвае 2,5 ампера,—адказвае адзін з выклікаемых вучняў.

Гэты дослед таксама прарабляецца вучнямі на знаходзячыхся перад імі прыборах.

З тлумачэнняў настаўніка і доследаў вучні знайшлі, што пры карыстанні адным і тым-жа генератарам, у залежнасці ад даўжыні, таўшчыні і матэрыялу праваднікоў, у ланцугу ўзнікае ток рознай сілы. Вымярэнні сілы току паказалі вучням, што сіла апошняга будзе тым большая, чым карацей і таўсцей праваднік. І ўрэшце дзеці даведаліся ад настаўніка і праверылі на доследах, што найбольшую правадзімасць мае медзь і найменшую—нікелін. Не толькі з тлумачэнняў настаўніка, але і на практыцы вучні пераканаліся ў тым, што розны дрот мае рознае супраціўленне.

На ўдачных прыкладах, узятых з акружаючай абстаноўкі, а таксама з пройдзеных раздзелаў праграмы т. Міхлін падводзіць дзяцей да неабходнасці знаць адзінку вымярэння супраціўлення праваднікоў.

Далей настаўнік расказвае вучням, што прынята за адзінку супраціўлення і што гэтая адзінка называецца Омам у чэсць нямецкага вучонага Ома. Дзеці паміма волі пераводзяць позірк на вісячы на класнай дошцы партрэт вучонага. Настаўнік умела скарыстоўвае зацікаўленасць вучняў і коратка расказвае ім аб работах Ома. Дзеці даведваюцца, што ў сувязі з неабходнасцю перадаваць ток (тэлеграф) на вялікія адлегласці Ом праводзіў даследванні над праваднікамі і прышоў да такога-ж вываду, да якога прыйшлі і яны на сёнешнім уроку.

У заключэнне ўрока настаўнік дае вучням паняцце аб удзельным супраціўленні і знаёміць іх з табліцай удзельнага супраціўлення некаторых матэрыялаў. Для замацавання прапрацаванага ў класе матэрыялу

настаўнік дае на дом заданне—прачытаць адпаведны артыкул з падручніка фізікі. Раздаецца званок. Урок скончан.

Як бачым, настаўнік на гэтым уроку карыстаўся рознастайнымі метадамі, добра абставіў яго наглядными дапаможнікамі і добра іх скарыстаў. Усё гэта прывяло да таго, што зацікаўленасць і ўвага вучняў ні на мінуту не паслабляліся. Вучні атрымалі новыя веды і грунтоўна іх замацавалі. У часе тлумачэння і дэманстрацыі доследаў т. Міхлін сістэматычна правяраў як і наколькі добра вучні засвайваюць яго тлумачэнні.

Зразумела, што і на гэтым добрым уроку былі асобныя недахопы. Напрыклад, пры апросе пасля тлумачэння настаўнік выклікаў толькі па аднаму вучню. Будзе лепш выклікаць двух-трох. Пры тлумачэнні настаўнік карыстаўся двума тэрмінамі,—у адным выпадку „таўшчыня“, у другім—„плошча папярочнага сячэння“. Лепш было-б прытрымлівацца аднаго з іх. Не заўсёды дастаткова ўважліва сачыў настаўнік за граматнасцю пабудовы сказаў у адказах вучняў. Але наогул трэба сказаць, што т. Міхлін сапраўды ўсебакова рыхтуецца да лекцый, увесь час паляпшаючы якасць арганізацыі педагагічнага працэса.

Калі прагледзім план-канспект аналізуемага ўрока, то ўбачым, што там не толькі паказана тэма ўрока, але вызначана зусім чоткая і вычарпальная мэтавая ўстаноўка яго, у якой прадугледжана сума ведаў і навыкаў, якія і даны настаўнікам на працягу 45 мінут; вызначаны не толькі асноўныя вузлавыя моманты, але паказана патрэбная для іх прапрацоўкі колькасць мінут, што не заўсёды знаходзім у планах урокаў і што разам з тым з'яўляецца зусім неабходнай справай. Такая дазіроўка матэрыялу ўрока ў часе дае магчымасць настаўніку роўнамерна прапрацаваць кожны этап паасобку, выходзячы з яго ўдзельнай вагі і пазбаўляе ад становішча, якое часта можна назіраць на ўроках, калі настаўнік разменьваецца на дробязі, а на прапрацоўку больш важных момантаў не астаецца часу.

У плане-канспекце не толькі прадугледжваецца паўтарэнне мінулага ўрока, што звычайна робіцца амаль усімі настаўнікамі, але паказваецца рад асноўных момантаў, на якіх неабходна застанавіцца ў парадку паўтарэння, прычым т. Міхліным гэтыя асноўныя моманты ўзяты вельмі ўдала. Ён пры вызначэнні вузлавых пытанняў паўтарэння мінулага ўрока ўлічыў не толькі момант паўтарэння мінулага, але і момант падвядзення вучняў да лепшага разумення новага матэрыялу.

У раздзеле „ход урока“ неадрыўна ад зместу праграмнага матэрыялу паказан дыдактычны матэрыял і рознастайныя метады работы.

Урок, згодна плана-канспекта, т. Міхлін пачаў з патаўрэння матэрыялу мінулага ўрока, якое прадаўжалася роўна 10 мінут. Гэтая колькасць мінут была прадугледжана планам. Паўтарэнне паказала, што матэрыял мінулага ўрока вучнямі засвоен надзвычай добра. Адказы даваліся чоткія і асазнаныя.

Ізлажэнне новага матэрыялу настаўнік суправаджаў дэманстрацыяй пэўных доследаў паасобна па кожнаму моманту, вызначанаму ў рабочым плане-канспекце, чым звычайна і заканчваецца тлумачэнне. Тав. Міхлін, аппрача агульных дэманстрацый, даваў прарабіць тыя-ж самыя доследы яшчэ раз самім вучням. Прапрацоўка кожнага паасобку этапа ўрока канчалася апросам вучняў. Рабілася гэта з мэтай праверкі, як апошнія зразумелі і засвоілі праграмны матэрыял. Толькі пераканаўшыся ў гэтым, настаўнік прадаўжаў далейшае ізлажэнне. На працягу апошніх 5 мінут т. Міхлін, трымаючыся парадку, паказанага ў плане-канспекце, яшчэ раз паўтарае і падагульняе ўсё растлумачанае на працягу ўрока, надаючы апошняму метадычную цэльнасць і закончанасць.

Не гледзячы на свой параўнаўча невялікі стаж (7 год), т. Міхлін можа быць назван майстрам сваёй справы, і настаўнікам Менска варта часцей заглядаць да яго на ўрокі, павучыцца ёсць чаму.

Мы ўпэўнены, што пры такіх адносінах да справы т. Міхлін поўнасцю выканае свае абавязкі, узятыя пры ўключэнні ў вытворчы паход мільёнаў.

*Базавая школа пры НКА імені Чарвякова*

## Узорны ўрок па фізіцы ў 7 класе

ТЭМА—Супраціўленне праваднікоў.

МЭТА—Растлумачыць вучням залежнасць сілы току ў ланцугу, пры адной і той-жа крыніцы току, ад уласцівасцей праваднікоў, уключаных у ланцуг. Даць паняцце аб супраціўленні і ўдзельным супраціўленні праваднікоў. На гэтай аснове даць паняцце аб актуальнасці пытання якасці праваднікa пры перадачы электрычнасці на вялікую адлегласць.

### План урока

| | | |
|---|---|---|
| 1. Паўтарэнне матэрыялу мінулага ўрока.. | 10 | мінут |
| 2. Устанаўленне залежнасці сілы току ад уласцівасцей праваднікоў. | 12 | " |
| 3. Устанаўленне залежнасці супраціўлення ад уласцівасці праваднікоў. | 8 | " |
| 4. Адзінка супраціўлення і ўдзельнае супраціўленне. | 10 | " |
| 5. Замацаванне матэрыялу. | 5 | " |

### Ход урока

З мэтай паўтарэння мінулага і ўвязкі яго з новым, выклікаю вучняў і задаю ім наступныя пытанні:

Пытанне. Што называецца сілай току?

Адказ. Сіла току ёсць колькасць электрычнасці, праходзячая праз папярочнае сячэнне праваднікa ў адну секунду.

Пытанне. Што прымаецца за адзінку вымярэння сілы току?

Адказ. За адзінку сілы току прымаецца адзін ампер.

Пытанне. Які ток называецца токам у адзін ампер?

Адказ. За адзін ампер прымаецца такі ток, які атрымліваецца ў ланцугу пры праходжанні колькасці электрычнасці ў адзін кулон у адну секунду.

Пытанне. Ад чаго залежыць сіла току ў ланцугу?

Адказ. Сіла току ў ланцугу залежыць ад колькасці ўзятых разам элементаў.

Настаўнік. Такім чынам мы ўстанавілі, што сіла току ў ланцугу залежыць ад колькасці ўзятых элементаў. Інакш кажучы—ад крыніцы электрычнасці. Зараз паглядзім як будзе мяняцца сіла току ў ланцугу, які жывіцца адной крыніцай электрычнасці, у залежнасці ад уласцівасцей праваднікоў.

Перад вамі на кожным стале (таксама ў мяне на дэманстрацыйным) знаходзіцца крыніца электрычнасці (элемент Лекланшэ), амперметр і дошка з нацягнутымі дротамі рознай таўшчыні і з рознага матэрыялу.

Заўважым як будзе змяняцца сіла току ў ланцугу ў залежнасці ад даўжыні дрота. Уключаю ў ланцуг дрот і, як вы бачыце, амперметр

паказвае 1,5 А. Уключаю больш кароткі дрот і амперметр ужо паказвае сілу току 2 А.

Адсюль мы можам зрабіць вывад, што сіла току ў ланцугу тым большая, чым карацей праваднік, і наадварот. Праверце таксама ў сябе, як будзе змяняцца сіла току ў залежнасці ад даўжыні праваднікa.

Вучні ўключаюць у ланцуг дроты рознай даўжыні і па паказаннях амперметраў назіраюць сілу току.

Настаўнік. Скажы N, як змяняецца сіла току ў ланцугу пры змяненні даўжыні праваднікa?

Вучань. З павелічэннем даўжыні дрота сіла току ў ланцугу паменшаецца, і наадварот—з памяншэннем даўжыні дрота сіла току павялічваецца.

Настаўнік. Правільна. Паглядзім зараз як будзе змяняцца сіла току ў залежнасці ад таўшчыні праваднікa. Уключаю ў ланцуг нікелінавы дрот і, як вы бачыце, амперметр паказвае сілу току 0,5 А. Зараз уключаю нікелінавы дрот такой самай даўжыні, але больш тоўсты. Амперметр ужо паказвае 1 А. Адсюль мы можам зрабіць вывад, што сіла току ў ланцугу тым большая, чым таўсцей праваднік, і наадварот. Праверце, як будзе змяняцца сіла току ў залежнасці ад таўшчыні праваднікa.

Вучні ўключаюць у ланцуг дроты з аднаго і таго-ж матэрыялу аднолькавай даўжыні, але рознай таўшчыні і назіраюць сілу току.

Настаўнік. Скажы N, як будзе змяняцца сіла току пры ўключэнні ў ланцуг праваднікоў рознай таўшчыні?

Вучань дае адпаведны адказ.

Настаўнік. Зараз уключаю ў ланцуг нікелінавы дрот і, як вы бачыце, амперметр паказвае сілу току 0,1 А. Уключаю медны дрот такой самай даўжыні і таўшчыні. Амперметр паказвае 2,5 А. Такім чынам пры ўключэнні меднага дрота сіла току ў ланцугу больш, чым пры ўключэнні нікелінавага дрота такой самай даўжыні і таўшчыні. Зараз паглядзіце ў сябе, як будзе змяняцца сіла току ў залежнасці ад матэрыялу праваднікa.

Вучні ўключаюць у ланцуг нікелінавы і медны дроты і назіраюць сілу току.

Настаўнік. На доследах перш за ўсё выявілася, што пры карыстанні адным і тым-жа генератарам у ланцугу ўзнікае ток рознай сілы ў залежнасці ад даўжыні, таўшчыні і матэрыялу праваднікоў, якія ўтвараюць ланцуг; па-другое—вымярэнні сілы току паказалі, што сіла току будзе тым больш, чым карацей праваднік і чым больш яго таўшчыня; па-трэцяе, што найбольшую правадзімасць мае медзь і найменшую нікелін.

*N*, паўтары, які можна зрабіць вывад з нашых назіранняў?

Вучань дае адпаведны адказ.

Настаўнік. Такім чынам усякі дрот па-рознаму праводзіць электрычнасць. *N*, скажы нам, што прадстаўляе сабой электрычны ток?

Вучань. Электрычны ток ёсць рух электронаў.

Настаўнік. Адсюль мы можам зрабіць вывад, што кожны дрот па-рознаму аказвае супраціўленне руху электронаў, або, інакш кажучы, мае рознае супраціўленне. Скажы *N*, які дрот мае большае супраціўленне доўгі ці кароткі?

Вучань. Доўгі дрот мае большае супраўціўленне, чым кароткі.

Настаўнік. Скажы *N*, які дрот мае большае супраціўленне тоўсты ці тонкі?

Вучань. Тоўсты дрот мае меншае супраціўленне, чым тонкі.

Настаўнік. Які дрот мае большае супраціўленне—нікелінавы ці медны?

Вучань. Нікелінавы дрот мае большае супраціўленне, чым медны.

Настаўнік. Мы ўпэўніліся, што калі праваднік даўжэй, то яго супраціўленне больш, і, наадварот, калі ён карацей, то яго супраціўленне менш, г. зн.— больш—больш, менш—менш.

Скажы *N*, якая, такім чынам, існуе прапарцыянальнасць паміж супраціўленнем праваднікa і яго даўжынёй?

Вучань. Супраціўленне праваднікa прама прапарцыянальна яго даўжыні.

Настаўнік. Мы таксама ўпэўніліся, што калі праваднік таўсцей, то яго супраціўленне менш і наадварот, г. зн.—больш—менш, менш—больш.

Скажы *N*, якая, такім чынам, існуе прапарцыянальнасць між супраціўленнем праваднікa і яго таўшчынёй?

Вучань. Супраціўленне праваднікa адваротна прапарцыянальна яго таўшчыні.

Настаўнік. Адсюль запомнім—супраціўленне праваднікa прама прапарцыянальна яго даўжыні і адваротна прапарцыянальна яго таўшчыні.

*N*, паўтары знойдзеную намі залежнасць.

Вучань дае адпаведны адказ.

Настаўнік. Для таго, каб даведацца, што фізічны габінет даўжэй хімічнай лабараторыі, што для гэтага трэба зрабіць?

Вучань. Для гэтага трэба вымераць адну і другую лабараторыю.

Настаўнік. Правільна. А для таго каб вымераць, якую даўжыню трэба прыняць за адзінку вымярэння?

Скажы N, што прынята за адзінку вымярэння даўжыні?

Вучань. За адзінку вымярэння даўжыні прынят метр.

Настаўнік. У свой час, калі мы хацелі вымераць колькасць цеплыні таго ці іншага цела, мы таксама ўвялі адзінку вымярэння цеплыні—малыя і вялікія калорыі.

Што такое малая калорыя?

Вучань. Малая калорыя гэта такая колькасць цеплыні, якая неабходна для таго, каб нагрэць адзін грам вады на 1°.

Настаўнік. Заўсёды, гаворачы „больш“ ці „менш“, мы павінны ўвесці адзінку вымярэння і, выходзячы з гэтай адзінкі, сказаць дзе больш і дзе менш.

У даным выпадку, каб даведацца, які дрот мае большае або меншае супраціўленне, што мы павінны ўвесці?

Вучань. Мы павінны ўвесці адзінку вымярэння супраціўлення.

Настаўнік. Як за адзінку вымярэння даўжыні прынята нейкая даўжыня, за адзінку вымярэння колькасці цеплыні прынята нейкая колькасць цеплыні, так і за адзінку вымярэнння супраціўлення ўмовіліся прыняць нейкае супраціўленне, а іменна: супраціўленне, якім уладае слуп ртуці ў 106,3 *см* даўжыні і плошчаю папярочнага сячэння ў 1 *кв. мм* пры 0°. Гэтую адзінку назвалі ў чэсць нямецкага вучонага ОМА і абазначылі знакам Ω.

Некалькі слоў адносна Ома. Вось перад вамі партрэт вучонага Ома. Ён жыў у XIX ст., многа працаваў у галіне фізікі і асабліва ў галіне электрычнага току.

Далей мы пазнаёмімся з законам, названым у яго чэсць—законам Ома. У сувязі з патрэбамі тэлеграфа перадаваць ток на вялікія адлег-

ласці, Ом даследваў, якія дроты аказваюць большае супраціўленне і якія меншае і прышоў да такога вываду, да якога сёння прышлі мы з вамі.

Настаўнік. У свой час, перш чым прыступіць да вылічэння колькасці цеплыні, патрэбнай для награвання якога-небудзь цела, мы з вамі ўвялі паняцце ўдзельнай цеплаёмкасці. Што мы разумеем пад удзельнай цеплаёмкасцю?

Вучань. Пад удзельнай цеплаёмкасцю мы разумеем колькасць цеплыні, якая патрэбна для награвання 1 *г* данага вешчаства на 1°.

Настаўнік. Ведаючы ўдзельныя цеплаёмкасці вяшчэстваў, мы можам падлічыць колькасць цеплыні, патрэбную для награвання любога цела на любую колькасць градусаў. Таксама і тут. Для таго каб падлічыць супраціўленне якога-небудзь праваднікa, трэба ведаць тое супраціўленне, якім уладае праваднік азначанай даўжыні і таўшчыні з данага матэрыялу, інакш кажучы—яго ўдзельнае супраціўленне. Выходзячы з удзельнага супраціўлення, вылічыць супраціўленне праваднікa любой даўжыні і таўшчыні. (Даю паняцце ўдзельнага супраціўлення і знаёмлю з таблiцай удзельных супраціўленняў некаторых матэрыялаў.)

Настаўнік. Такім чынам мы з вамі ўстанавілі адзінку вымярэння супраціўлення, даведаліся, што такое ўдзельнае супраціўленне. На наступным уроку пяройдзем да вылічэння супраціўлення праваднікоў.

(Робім замацаванне пройдзенага, задаю на дом пп. 44, 45 па падручніку Фалеeў і Перышкін).

Выкладчык *Міхлін.*

*С. Сянкевіч*

# Да пытання пастаноўкі каліграфіі ў пачатковай школе

На працягу больш дзесяці год каліграфія, як сродак, які з'яўляецца звяном у ланцугу метадаў, вядучых да развіцця высокаякаснай пісьмовай мовы ў вучняў, не існавала ў нашых школах. Комплексная сістэма выкладання, розныя „левыя“ педагагічныя тэорыі выкінулі яе з праграм.

Вынікі гэтага мы выразна бачым цяпер. Нават вучні старшых класаў не ўмеюць добра пісаць літары, злучаць іх як належыць у словы, у іх не выпрацаваліся навыкі чоткай скорапісі.

Пастановы партыі і ўрада наконт барацьбы з карэнным недахопам школы даюць канкрэтныя ўказанні і ў галіне пісьма. У гэтых пастановах пытанням выпрацоўкі почарка, культурнага вучнёўскага сшытка адведзена значнае месца.

Урэшце ў гэтым годзе змяненні ў праграмах малодшых класаў выразна гавораць аб увядзенні каліграфіі, як самастойнага віду работы, у сістэму развіцця пісьмовай мовы.

Як-жа рэалізуюцца гэтыя патрабаванні партыі і ўрада?

Да гэтага часу пытанню каліграфіі ў школах не адведзена належнае месца. Мы бачым брудныя сшыткі з вырванымі старонкамі, з напісанымі абыяк літарамі: нельга адрозніць *а* ад *о*, *л* ад *г* і т. *д.*; няма злучэння літар у словы; у аднаго і того-ж вучня адна работа напісана рознымі почаркамі.

Дзе-ж прычыны гэтых недахопаў?

1. Наркомасветы і яго мясцовыя органы не даюць належнага кіраўніцтва ў галіне пастаноўкі каліграфіі ў школах.
2. Адсутнічаюць метадычныя дапаможнікі па каліграфіі для настаўнікаў.
3. Школы дрэнна забяспечаны дастатковым асартыментам сшыткаў.
4. Адсутнічаюць у падручніках па мове пісьмовыя практыкаванні ў выглядзе каліграфічных тэкстаў.
5. Настаўнікамі недаацэньваецца роля каліграфіі. Многія настаўнікі не ведаюць, што нядбайныя адносіны да каліграфіі ідуць побач з арфаграфічнай непісьменнасцю.
6. Адсутнічае сістэма ў навучанні пісьму.
7. І ўрэшце—бездапаможнасць настаўніка, асабліва маладога, у наладжванні гэтай справы, які часта не ведае як трэба сядзець пры пісьме, як карыстацца прыладамі пісьма, а многія настаўнікі не ведаюць, як правільна пісаць літары.

Усё вышэйпералічанае ставіць як перад Наркомасветы, так і перад школай неадкладную задачу: ужыць усе захады да пастаноўкі справы пісьма ў школах, у прыватнасці каліграфіі, на належную вышыню.

5-я Бабруйская ўзорная школа пытаннем каліграфіі занялася з пачатку навучальнага года. Вялося вывучэнне пастаноўкі гэтай справы па

класах, у той-жа час калектыў школы распрацоўваў методыку выкладання каліграфіі. У выніку гэтага на метадычнай нарадзе былі зацверджаны пэўныя метады і віды работ па каліграфіі. Урэшце, для практычнага вывучэння методыкі каліграфіі быў арганізован узорны ўрок і вызначаны такія-ж урокі ў далейшым.

Гэтыя мерапрыемствы школы па пытанню каліграфіі ўжо зараз далі значныя вынікі.

1. Змяняецца выгляд вучнёўскага сшытка: ён сапраўды робіцца культурным, афармляецца па пэўнай сістэме.

2. Почарк у вучняў выпраўляецца. Мы маем выпадкі, калі зусім карыкатурны почарк асобных вучняў зрабіўся добрым.

3. У вучняў пачалося спаборніцтва за лепшы сшытак, за якасць пісьма.

4. Урэшце, чаго і трэба было чакаць, значна паменшыўся лік арфаграфічных памылак у вучнёўскіх сшытках, асабліва ў тых класах, у якіх каліграфія заняла належнае месца.

Школа пойдзе далей па шляху ўдасканалення гэтай справы і перанясення свайго вопыту ў школы города і раёна.

Пара знішчыць думку, што на ўрок каліграфіі не трэба адводзіць поўную акадэмічную гадзіну. Некаторыя настаўнікі баяцца, што ўрок каліграфіі будзе нудны, нецікавы для вучняў. Гэты страх можа тлумачыцца толькі няўменнем добра наладзіць урок.

Практыка паказала, што добра арганізаваны ўрок каліграфіі для вучняў бывае цікавым, выклікае актыўнасць дзяцей і праходзіць пры высокай і свядомай дысцыпліне.

Ні ў якім разе не трэба праводзіць урокі каліграфіі як самастойную работу. Такая небяспека можа быць у школе, у якой настаўнік вядзе адзін некалькі класаў.

Не трэба даваць таксама заданняў па каліграфіі на дом, бо вучань без кантроля настаўніка можа набыць нежаданыя навыкі, якія потым будзе цяжка выправіць.

Як і кожны ўрок, урок каліграфіі падпарадкуецца агульным запатрабаванням педагогікі:

а) ён павінен быць цікавым,

б) пасільным для данага ўзросту,

в) будавацца на прынцыпе паступовасці—ад знаёмага да незнаёмага, ад простага да больш складанага і інш.

Пастаўленая мэта дасягаецца развіццём зрокавай памяці вучняў, развіццём маторнай памяці, у выніку чаго выпрацоўваецца здольнасць ператварэння зрокавых, а далей і гукавых вобразаў у графічныя.

Канчатковай мэтай каліграфіі з'яўляецца механічнае пісьмо—скорапісь.

Метады і формы правядзення ўрокаў каліграфіі ў розных класах, безумоўна, будуць розныя. Будуць змяняцца, ускладняцца аб'екты вывучэння, будуць ставіцца больш складаныя мэты, павялічвацца дазіроўка, змяняцца план урока ў сэнсе адвядзення большага адрэзку часу на той ці іншы від работы.

## 1. Схема ўрока каліграфіі

1. Арганізацыя ўрока.

Сшыткі па каліграфіі захоўваюцца ў школе і раздаюцца вучням у пачатку ўрока. Настаўнік правярае чыстату рук вучняў, парт, правярае прылады пісьма, не дазваляе ўжываць дрэнныя (тоўстую ручку, пяро „рандо“ і інш.). У класе трэба мець на гэты выпадак запасныя ручкі

і пёры. Чарніьніцы павінны быць на кожнай парце і наліты так, каб пазбегнуць утварэння „кляксаў“. Вучняў трэба рассадзіць свабодна, каб не было штурханіны.

Усё гэта павінна праводзіцца з першых дзён навучальнага года. Тады, увайшоўшы ў сістэму, яно не будзе адцягваць увагу вучняў ад непасрэднай работы і адымаць час.

Аб‘ект вывучэння (літара, слова) павінен быць напісан на класнай дошцы да пачатку ўрока. Прапісі, калі гэта патрэбна і калі яны маюцца, раздаюцца ў пачатку ўрока.

## 2. Пастаноўка перад вучнямі мэты ўрока

Настаўнік растлумачвае вучням мэту ўрока (навучыцца пісаць літару, злучаць літары ў словы, выпрацаваць аднолькавы нахіл літар і т. п.). Выклікаецца вучань для паўтарэння мэты ўрока.

## 3. Вывучэнне аб‘екта пісьма

Настаўнік на ўзоры, які дан на класнай дошцы (дошку трэба разграфіць па ўзорку вучнёўскіх сшыткаў), робіць аналіз аб‘екта пісьма шляхам пытанняў і адказаў, вызавам вучняў да дошкі і паказам на напісаным узоры паасобных элементаў аб‘екта вывучэння.

Гэты від работы выклікаецца той акалічнасцю, што вучань хоць і бачыць агульны выгляд гэтага аб‘екта, але ён з‘яўляецца для яго складаным: вучань не бачыць паасобных яго элементаў і іх узаемаадносін.

Задача настаўніка зрабіць аб‘ект пісьма зразумелым для вучняў ва ўсіх яго дэталях і ва ўзаемнай сувязі паасобных яго элементаў.

Ужо на першых уроках трэба карыстацца пэўнай тэрміналогіяй для назваў элементаў літар, якая спачатку будзе зусім нескладанай і прымітыўнай.

Пасля гэтага вывучаецца парадак, паступовасць у напісанні паасобных элементаў аб‘екта вывучэння.

Сваім паказам, а потым паказам вучнямі напісанага на дошцы (указкай па напісанай на дошцы літары, злучэнню літар) настаўнік устанаўлівае спосаб, паступовасць напісання данага ўзору: адкуль пачынаць кожны элемент, дзе і як злучаць паміж сабой элементы; устанаўліваюцца неабходныя рухі пальцаў для напісання кожнага элемента.

## 4. Падрыхтоўка да пісьма

Гэтая частка ўрока пачынаецца загадам настаўніка: „Сядзець правільна! Узяць ручкі!“

Дзіцячы арганізм яшчэ не прызвычаіўся да лёгкага выканання гэтай работы. У дзяцей пакуль што няма выпрацаванага кантакта паміж воляй і маторнымі рухамі. Ручка для вучня не з‘яўляецца яшчэ як-бы арганічным працягам яго рукі, пальцы не набылі належнага развіцця для выканання гэтага складанага працэса і аддаюць вялікую частку энергіі на трыманне ручкі; многа ўвагі і энергіі аддаецца на трыманне корпуса цела. Воля вучня, накіраваная на дасягненне мэты, сустракае перашкоды.

Настаўнік павінен ведаць гэтыя псіха-фізічныя асаблівасці дзяцей. Ён правярае пасадку вучняў, правільнасць трымання прылад пісьма, выпраўляе ўсе недахопы, сочыць за тым, каб тулава вучня знаходзілася ў нармальным палажэнні і заданне выконвалася пры найменшай затраце энергіі.

## 5. Пісьмо

Афармленне сшытка, кожнай яго старонкі, кожнай паасобнай работы мае вялікае значэнне. Таму настаўнік устанаўлівае нормы пісьма: колькі разоў напісаць літару, слова, сказ; устанаўліваюцца інтэрвалы паміж літарамі, словам, сказамі, паміж паасобнымі работамі. Пасля гэтага даецца загад пісаць.

У час пісьма настаўнік абходам па радах выпраўляе памылкі, няправільнасць пасадкі вучняў, трымання прылад пісьма.

Калі даная норма напісана вучнямі, настаўнік загадвае пакласці ручкі і выпраўляе агульныя тыповыя недахопы. Робіцца гэта паказам на дошцы, параўнаннем з прописямі, паказам лепшых работ.

Пасля гэтага пісьмо прадаўжаецца з захаваннем пэўнай дазіроўкі. Настаўнік прадаўжае абходам па радах выпраўленне недахопаў, дапамагае адстаючым.

Само пісьмо мае некалькі этапаў. Кожны наступны этап павінен мець нешта новае, але звязанае з папярэднім. Напрыклад, спачатку пішуцца элементы літары, потым літары, потым словы.

Калі вучні набылі цвёрдыя навыкі пісьма, можна ўжываць метад пісьма пад такт (5—10 мін.). Гэта вышэйшая форма дысцыпліны пісьма. Яна выхоўвае ў дзяцей пачуццё рытма, маторных працэсаў пры пісьме, прымушае захоўваць належную паслядоўнасць у напісанні паасобных элементаў, дае магчымасць настаўніку зрабіць масавую праверку і выявіць парушэнні ўстаноўленых правіл пісьма, асабліва паслядоўнасці.

Аднак карыстацца гэтым метадам трэба асцярожна і ўмела, бо ён мае і адмоўныя бакі: выклікае асаблівую напружанасць вучняў, што можа дрэнна адбіцца на якасці пісьма, уносіць разлад паміж індывідуальнымі асаблівасцямі вучняў, прымушае іх змяніць прывычныя тэмпы маторных працэсаў.

Іншы раз, і асабліва пры аднастайнасці аб'ектаў пісьма, добра зрабіць перапынак мінут на 3, выкарыстаўшы яго для спеваў, фізкультуры.

## 6. Падагульненне ўрока

У канцы ўрока настаўнік коратка пералічвае дасягненні і недахопы ўрока. Напамінае, што набытыя веды і навыкі вучні павінны ўжываць ва ўсіх відах сваіх пісьмовых работ.

Настаўніку трэба мець педагагічны такт пры падыходзе да дзяцей з дрэнным почаркам, каб не выклікаць у іх пачуцця безнадзейнасці. Ён павінен упэўніць вучняў у тым, што ўсе навучацца пісаць добра, выхаваць у іх волю для дасягнення гэтай мэты.

Сшыткі па каліграфіі настаўнік вывучае з мэтай выяўлення памылак, недахопаў і прычын і спосабаў іх знішчэння.

## Замацаванне навыкаў, набытых на ўроках каліграфіі

Настаўніку трэба памятаць, што каліграфія не ёсць самамэта. Каліграфія ёсць сродак, метад у раду розных відаў работ па развіццю пісьмовай мовы. А таму навыкі, набытыя на ўроках каліграфіі, павінны рэалізавацца ва ўсіх вучнёўскіх пісьмовых работах. Настаўніку трэба сачыць за гэтым у штодзённай рабоце. Толькі пры такіх умовах урокі каліграфіі дадуць добрыя вынікі.

У справе навучання пісьму настаўнік павінен шырока разгарнуць метад соцыялістычнага спаборніцтва. Неабходна арганізаваць конкурс

на лепшы сшытак. Конкурс закончыць выстаўкай сшыткаў, падагульненнем поспехаў, выдачай прэмій.

Застанаўлюся коратка на ўроку каліграфіі, які быў дан 25/XI 1934 г. у I класе 5-й Бабруйскай узорнай школы.

Пасля званка вучні сядзелі на сваіх месцах. На партах былі ўжо расстаўлены чарнільніцы, перад вучнямі ляжалі сшыткі, ручкі.

На класнай дошцы напісана:

*р р пар*

Настаўніца. Якая літара напісана на класнай дошцы?

Вучань. На дошцы напісана літара *р*.

Настаўніца. З якіх частак састаіць літара *р*? *N*, ідзі да дошкі, пакажы.

Вучань *(паказвае ўказкай)*. Літара *р* састаіць з даўгой, тоўстай рыскі і кароткай рыскі з закругленнямі ўверсе і ўнізе.

Гэты адказ састаўлен вучнем пры дапамозе настаўніцы.

Настаўніца выклікае другога вучня для паўтарэння і паказу элементаў літары *р*.

Настаўніца. Дзе пачынаецца і дзе канчаецца доўгая, тоўстая рыска. *N*, ідзі пакажы.

Вучань *(паказвае ўказкай на літары на класнай дошцы)*. Даўгая рыска пачынаецца ад першай лінейкі, перасякае другую лінейку і даходзіць да трэцяй лінейкі.

Настаўніца. Чым пачынаецца і чым канчаецца кароткая рыска?

Вучань *(паказвае ўказкай)*. Кароткая рыска пачынаецца *тоненькім* закругленнем уверсе і канчаецца *тоненькім* закругленнем унізе з правага боку.

Настаўніца. Пад якой лінейкай злучаецца кароткая рыска з даўгой?

Вучань *(паказвае ўказкай)*. Кароткая рыска злучаецца з даўгой пад першай лінейкай.

Настаўніца. Дзеці, назірайце, як я буду пісаць літару *р*. *(Піша на класнай дошцы літару р і тлумачыць парадак, паступовасць яе напісання.)*

Настаўніца. *N*, ідзі пакажы, як пішацца літара *р*.

Вучань. *(Абводзіць літару, напісаную на класнай дошцы ўказкай і тлумачыць)*. Ад першай лінейкі праз другую аж да трэцяй вядзецца даўгая, тоўстая рыска. Пад першай лінейкай ад тоўстай рыскі пачынаецца тоненькая рыска, якая вядзецца ўверх да першай лінейкі; адсюль пачынаецца прамая тоўстая рыска, якая ідзе ўніз і даходзіць да другой лінейкі, а далей управа і ўверх ідзе тоненькае закругленне.

У гэтым тлумачэнні вучню дапамагае настаўніца.

Настаўніца. Сядзець правільна, узяць ручкі!

Вучні ставяць на парты рукі на локці, трымаючы ручкі.

Настаўніца абходзіць па радах, выпраўляе пасадку вучняў, трыманне ручак, палажэнне сшыткаў.

Настаўніца напамінае вучням аб інтэрвалах паміж літарамі і загадвае напісаць у сшытках адзін радок літару *р*.

У час пісьма настаўніца абходзіць па радах, выпраўляе памылкі, папраўляе трыманне ручак.

Настаўніца. Палажыць ручкі!

Тлумачыць дзецям аб недахопах іх работы, як іх выправіць. Робіць гэта паказам на класнай дошцы.

Настаўніца. Узяць ручкі! Напішыце яшчэ адзін радок літару *р*. Прапусціце ў сшытках адну лінейку.

Бярэ вучнёўскі сшытак і паказвае вучням, дзе пачынаць пісаць другі радок. У час пісьма настаўніца правярае работы вучняў, дапамагае, выпраўляе; некаторым вучням піша ў сшытках, паказвае напісанае ўзорна іншым вучням.

Настаўніца. Зараз, дзеці, зробім маленькі адпачынак: праспяваем песню „Шагайце, дзеці, смела“. Устаць!

Дае тон. Вучні разам з настаўніцай спяваюць і робяць фізкультурныя рухі па сэнсу песні.

Настаўніца. Садзіцеся. Зараз будзем пісаць слова, у якім ёсць літара *р*. Звярніце ўвагу, як яна злучаецца з іншымі літарамі. *N*, прачытай слова, якое напісана на класнай дошцы.

Вучань. На дошцы напісана *пар*.

Настаўніца. З чаго ідзе пар?

Вучань. Пар ідзе з самавара, з вады, у лазні ідзе пар.

Настаўніца задае яшчэ некалькі пытанняў для высвятлення сэнсу слова *пар*.

Настаўніца. Сядзець правільна. Вазьміце ручкі, напішыце адзін радок слова *пар*.

Як і раней абходзіць па радах, выпраўляе недахопы, піша вучням у сшыткі. Загадвае сабраць сшыткі. Званок.

Якія вынікі даў гэты ўрок?

Літару *р* дзеці за невялікім выключэннем навучыліся пісаць правільна. Слова *пар* асталося недапрацована—вучні напісалі па тры словы і ўрок скончыўся. Не асталося часу на завяршэнне работы.

З канспекта настаўніцы відаць, што ўрок быў спланаван правільна. Але на аналіз літары *р* і на тлумачэнне спосабу яе напісання было затрачана часу больш, чым прадугледжана канспектам. Тлумачыцца гэта тым, што настаўніца выклікала слабых вучняў і яны затрымлівалі тэмпы ўрока. Быў дарэмна патрачан лішні час на раскрыццё сэнсу слова *пар*. Першыя адказы вучняў паказалі, што яны добра зразумелі сэнс гэтага слова, але настаўніца прадаўжала задаваць пытанні для растлумачэння яго.

У пачатку ўрока настаўніца не паставіла перад дзецьмі мэты ўрока. Не было зроблена і падагульненне яго.

Выпраўляючы недахопы пісьма, настаўніца зварочвала мала ўвагі на недахопы ў пасадцы вучняў, трыманні ручак, палажэнні сшыткаў.

Пры выпраўленні недахопаў у напісанні літары *р* не быў скарыстан метад пісьма „ў паветры“, каб вучні рухамі рукі ў паветры адчулі, што закругленні кароткай рыскі нявострыя.

Левая частка класа была выпушчана з-пад увагі настаўніцы.

Дысцыпліна была добрая. Дзеці працавалі ахвотна і старанна.

Надзвычай ажывіла дзяцей песня і фізкультура.

---

*В. Зайцаў, В. Гуліс*

# Аб творчай рабоце вучняў

У нашай пачатковай школе і ў малодшых класах сярэдняй школы настаўнікі роднай мовы вельмі рэдка практыкуюць з дзецьмі састаўленне калектыўных твораў. Між тым гэты метад работы добра развівае творчую ініцыятыву дзетвары, дапамагае прывучаць дзяцей граматна выказваць вусна свае думкі, прывучае іх да актыўнай калектыўнай работы, і, нарэшце, яны вучацца граматна запісваць свае думкі. Гэты метад работы патрабуе ад настаўніка добра прадуманай падрыхтоўкі да ўрока, умення выбраць тэму для калектыўнага твора, а таксама майстэрскага правядзення самаго ўрока.

Нам удалося прысутнічаць на такім уроку настаўніка т. Манцывода. Гэты настаўнік-ударнік працуе ў Менскай базавай школе імені Чарвякова пры НКА БССР і добра вядомы асветніцкай грамадскасці Беларусі. Тав. Манцывода Ілья Дамінікавіч мае за сваімі плячамі 52-гадовы стаж педагагічнай работы і з'яўляецца майстрам сваёй справы.

Рабочы план і канспект урока рускай мовы ў 3 класе (у беларускай школе гэты прадмет вывучаецца ў 3 класе, як вядома, першы год) у т. Манцывода распрацаваны дэталёва і на ім мы не будзем спыняцца, а пакажам самы ўрок, тым больш, што апошні быў праведзен па плану без якіх-небудзь сур'ёзных адступленняў.

У даступнай дзіцячаму разуменню ўступнай гутарцы настаўнік аб'ясніў вучням, што на гэтым уроку яны будуць вучыцца састаўляць калектыўны твор.

— Эта работа будет состоять в том, что по заголовку, который я вам дам, вы подумаете и коротко выскажитесь о содержании будущего рассказа, а потом обдуманные и оформленные вами мысли я буду записывать на доске. Когда рассказ у нас будет готов, мы его прочитаем с вами, а потом вы запишете его в своих тетрадях.

Па вачах дзяцей было відаць з якім вялікім інтарэсам і захапленнем яны чакалі першую такую работу.

— Ну, а теперь мы приступим к составлению сочинения. Рассказ наш будет иметь заголовок: „Чуть-чуть не утонул". Придумайте коротенький рассказ, в котором бы говорилось о двух мальчиках Косте и Пете.

Праз мінуту—паўтары цішыня змянілася ажыўленнем, дзесятка паўтара паднятых рук гаварылі аб тым, што ў дзяцей расказ гатовы, яшчэ праз мінуту ў класе не асталося ні аднаго вучня, у якога ва ўме не паспеў-бы расказ па заданай тэме. Па выкліку настаўніка цэлы рад вучняў коратка абрысавалі змест свайго расказа. Далей трэба было прывесці мыслі дзяцей у стройную сістэму і аформіць расказ.

Настаўнік ставіць класу пытанне:

— В какие дни летом дети купаются?

Падымаецца лес ручонак, і выклiканы вучань адказвае:

— Дети купаются в летние жаркие дни.

— Значит происшествие с Костей было когда?

Адны вучнi адказваюць: „было летом"; другi дадае—„когда было жарко"; трэцi—„в летний день".

З дапамогай настаўнiка дзецi фармулююць першыя сказы расказа, i настаўнiк запiсвае яго на дошцы.

*Был жаркий летний день.*

Далей настаўнiк ставiць пытанне:

— Куда два мальчика отправились купаться?

Пасля калектыўнай прапрацоўкi запiсваецца наступная фраза расказа:

*Два мальчика Костя и Петя пошли купаться на речку.*

— В каких местах реки опасно купаться?

— В глубоких,—адказваюць выклiканыя вучнi. Далей дзецi канстатуюць, што ў глыбокiх месцах купацца небяспечна таму, хто не ўмее плаваць.

Дзецi фармулююць адказ i на дошцы запiсваецца далей:

*Костя не умел плавать. Он попал на глубокое место и стал тонуть.*

Калектыўная работа дзяцей далей развiваецца яшчэ лепш.

Вучнi ясна ўяўляюць сабе карцiну, што здарылася з хлопчыкам, якi топiцца, i падводзяць яе пад загаловак расказа „*Чуть-чуть не утонул*".

Яны нядрэнна фармулююць далейшае развiццё расказа. Настаўнiк канчаткова адшлiфоўвае з дзецьмi iх мыслi i на дошцы паступова запiсваецца: *Тогда Костя и Петя стали кричать и звать к себе на помощь. Эти крики услыхали косцы. Они прибежали и вытащили Костю из воды. Костя был спасен.*

У састаўленнi гэтага расказа прымаў удзел увесь клас. Расказ не быў навязан дзецям настаўнiкам, пытаннi ставiлiся iм, выходзячы з кароткага зместу тых расказаў, якiя былi зроблены з дзецьмi ў пачатку ўрока. Далей некалькi вучняў былi выклiканы настаўнiкам для прачытання з дошкi атрымаўшагася расказа. У заключэнне дзецi сваю калектыўную творчасць чысценька i амаль без памылак перапiсалi ў сшыткi.

Урок быў праведзен жыва i цiкава. Калектыўны твор садзейнiчаў развiццю мышлення дзяцей, i прывучаў дзяцей да граматнай вуснай мовы. Мы прагледзелi запiсанае дзецьмi ў сшытках i граматычных памылак амаль не выявiлi. Адзiнымi памылкамi былi ў некалькiх вучняў няправiльныя пераносы слоў на наступны радок.

На ўроку т. Манцывода прысутнiчала 14 настаўнiкаў малодшых класаў менскiх школ. I адзiная думка педагогаў—урок можна назваць узорным.

У пачатковых школах i ў малодшых класах многiх няпоўных сярэднiх школ вельмi часта настаўнiкi працуюць без дастатковай метадычнай падрыхтоўкi. Мы ўжо гаварылi, што метад калектыўнага твора ў школах амаль не практыкуецца. Карысць-жа яго, безумоўна, вялiкая. Праўда, у праграмах Наркомасветы ёсць указанне аб неабходнасцi развiцця мовы ў дзяцей шляхам складання калектыўнага твора. Але аднаго ўказання недастаткова. Наркомасветы БССР трэба даць для настаўнiкаў метадычную распрацоўку па гэтаму пытанню. Нядрэнна будзе, калi пры этым Наркомасветы дасць прыкладны спiс рэкамендуемых тэм, бо ў сельскай пачатковай школе слаба падрыхтаваны настаўнiк можа зайсцi ў такiя дзебры, што калектыўны твор замест карысцi прынясе шкоду.

*Л. Грайпінер*

# Першыя крокі ў выкладанні нямецкай мовы [1)]

На даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва, у перыяд бурнага росту соцыялістычнай культуры, магутнага развіцця навукі і тэхнікі і ўсё ўзрастаючага міжнароднага значэння СССР вывучэнне замежных моў набывае вялікае значэнне.

Вывучэнне замежных моў ва ўмовах совецкай школы мае вялікае значэнне як сродак інтэрнацыянальнага пролетарскага выхавання. Пастаноўка выкладання замежных моў у шэрагу школ мае сур'ёзныя недахопы. Вельмі важным з пункту погляду эфектыўнасці засваення замежнай мовы з'яўляецца правільная яе пастаноўка з самых першых крокаў. Толькі на моцна закладзеным фундаменце можна дасягнуць высокай эфектыўнасці ў справе вывучэння замежнай мовы ў сярэдняй школе.

Пастараюся ўказаць на найбольш важныя моманты, якія, па-мойму, маюць рашаючае значэнне для яго трывалага засваення.

Асновай выкладання падрыхтоўчага курса з'яўляюцца практыкаванні ў гутарцы з захаваннем прынцыпа нагляднасці, да якіх далучаюцца практыкаванні ў пісьме і чытанні.

Для правядзення прынцыпа нагляднасці карыстаюцца шырока нагляднымі дапаможнікамі, як напрыклад картамі, малюнкамі і, наогул, усімі прадметамі, якія можна дэманстраваць у класе, стараючыся абыходзіцца на першых уроках без перакладу. Толькі паступова адбываецца пераход да менш канкрэтных паняццяў, прычым тлумачэнне даецца ўжо на роднай мове вучняў.

Практыкаванні ў гутарцы складаюцца:

1. З паўтарэння ўслед за настаўнікам сказанага ім.

2. З адказаў на пытанні: wer?, was?, wo?, wie?, was steht dort?, wer sitzt dort?, was liegt hier?, was hängt oben?, was machen wir?, schreiben wir? u. s. w. прымяняючы ў адказах адмаўленні nicht і kein напрыклад, Schreiben wir? Ja, wir schreiben. Lesen wir? Nein, wir lesen nicht, wir schreiben. Ist das ein Tisch? Ja, das ist ein Tisch. Ist das ein Stuhl? Nein, das ist kein Stuhl, das ist ein Tisch u. s. w.

3. З утварэнняў маленькіх простых сказаў з знаёмых вучням слоў, прымяняючы іх у розных камбінацыях для лепшага іх запамінання. Напрыклад, was ist das? Das ist ein Tisch (ein Stuhl, eine Tafel, ein Bild)...

Wo ist der Tisch? Der Tisch ist hier. Der Tisch ist dort.

Wo steht der Tisch? Er steht hier. Er steht dort. Er steht links. Er steht rechts u. s. w.

Steht der Tisch hier? Ja, er steht hier.

Steht der Tisch dort? Nein, er steht nicht dort; er steht hier.

---

1) Даны артыкул друкуецца ў парадку абгаварэння.

Steht der Tisch hier links? Ja, er steht hier links.

Steht der Tisch dort rechts? Nein, er steht nicht dort rechts; er steht hier links.

Wie ist der Tisch? Der Tisch ist grosz. Ist den Tisch klein? Nein, er ist nicht klein; er ist grosz u. s. w.

Was ist noch grosz?..

ці напрыклад: Was machen wir?

Wir lernen. Wir lesen. Wir schreiben. Wir lernen, lesen und schreiben. Wir lernen, lesen und schreiben. Wir lernen alle. Wir lesen alle. Wir schreiben alle. Wir lernen alle lesen und schreiben. Wir lernen deutsch. Wir lesen deutsch. Wir schreiben deutsch. Wir lernen, schreiben und lesen deutsch. Wir lernen alle deutsch lesen und schreiben. Wir lernen auch russisch, weissrussisch. Wir lernen deutsch, russisch und weissrussisch.

Genosse Petrow lernt (schreibt, liest) deutsch.
Genossin Petrowa lernt (schreiht, liest) deutsch.
Genosse Drosdow lernt (schreibt, liest) russisch.
Genosse Drosdowa lernt (schreibt, liest) weissrussisch.
Genossin Drosdowa lernt (schreibt, liest) deutsch, russisch und weissrussisch u. s. w.

Безумоўна, калі відаць, што данае слова ці сказ засвоены, не варта вельмі доўга затрымлівацца на ім, гэта прытупляе ўвагу і паслабляе інтарэс. Тут выкладчык з вялікім пачуццём павінен мяняць аб'екты гутаркі, не перагінаючы палкі ні ў адзін, ні ў другі бок,—не вельмі доўга затрымлівацца на адным аб'екце і не вельмі хутка і бессістэмна пераскакваць з аднаго на другі прадмет.

Трэба цвёрда выясніць сабе мэту ўсіх гэтых прапрацовак; гэта мэта— трывалае засваенне вучнямі слоўнікавага матэрыялу, які ім прападносіцца. Мэта дасягнута,—мяняюць аб'екты гутаркі і ідуць далей.

Важна не даваць вучням сумаваць на ўроках. Трэба зрабіць кожны ўрок цікавым. Выкладанне павінен весці настаўнік франтальна, уцягваючы жывым, актыўным !метадам усіх вучняў у работу, звяртаючыся ў працэсе работы да кожнага з тым ці іншым пытаннем, патрабуючы паўтарэння цяжка засвайваемых слоў і выражэнняў. Але не толькі сам выкладчык ставіць пытанні, патрэбна абавязаць саміх вучняў ставіць адзін другому пытанні і адказваць на іх. Гэта выклікае вялікае ажыўленне і цікавасць да мовы.

З самага пачатку трэба звяртаць вялікую ўвагу на правільнае вымаўленне слоў вучнямі. Пільна трэба сачыць за тым, каб словы выгаварваліся чотка і ясна. Велізарнае значэнне мае чоткае і правільнае выгаварванне самога выкладчыка, але абмяжоўвацца толькі гэтым не трэба, неабходна даваць вучням некаторыя веды з вобласці фанетыкі, указваючы на фізіялагічныя ўмовы ўзнікнення гукаў, на становішча губ і языка, асабліва пры гуках больш цяжкіх для выгаварвання. Сказы выгаварваюцца настаўнікам поўнасцю, поўнасцю паўтараюцца вучнямі і толькі тыя гукі, якія цяжка выгаварваюцца, выдзяляюцца і прапрацоўваюцца асобна.

На 3-ім ці 4-ым уроку пераходзяць да вывучэння пісьма. Пісьмовае зачартанне слова спрыяе лепшаму яго запамінанню, бо ў многіх вучняў зрокавая памяць пераважае над слухавой.

Першы час піша на дошцы толькі выкладчык і пільна сочыць за тым, каб вучні правільна спісвалі. У далейшым пісьмовыя практыкаванні праводзяцца, па магчымасці, на кожным уроку і складаюцца з запісвання ўсяго таго, аб чым ішла гутарка.

Апрача спісвання можна практыкаваць запісванне адказаў на пытанні і маленькія практыкаванні (папаўненне слоў прапушчаных у тэксце). Напрыклад:

D.. Tisch ist klein.

Der Tisch ... klein і т. д.

Толькі добра засвоены вусны матэрыял можа служыць прадметам пісьмовых практыкаванняў. Усе новыя словы піша сам настаўнік на дошцы, указваючы пры гэтым на тыя ці іншыя фанетычныя і арфаграфічныя асаблівасці данага слова. Толькі ўпэўніўшыся, што матэрыял засвоен, настаўнік выклікае да дошкі спачатку больш паспяваючых вучняў і паступова ўсіх астатніх, не пакідаючы ніводнага вучня без вызаву да дошкі. Вельмі важна сачыць за тым, каб усё, што пішацца вучнямі, ці гэта будзе спісванне, ці адказы, ці практыкаванні, было выканана правільна, без усякіх памылак. Гэтага можна лёгка дасягнуць, калі пісьмовыя практыкаванні будуць грунтавацца на добра прапрацаваным вусным матэрыяле.

Добра ўсвоіўшы пісьмовыя начартанні літар, пераходзяць да чытання друкаванага шрыфта, але толькі загадзя распрацаванага матэрыялу, тады чытанне засвайваецца хутка. Пільна трэба сачыць у часе чытання за чоткім выгаварваннем слоў, за правільным націскам і за адпаведнай інтанацыяй голаса.

Узорнае чытанне выкладчыка служыць наглядным прыкладам. З гэтага моманту і вусная распрацоўка, і чытанне, і пісьмо сплятаюцца ў адно цэлае, цесна звязанае адно з другім.

Хатнія работы абмяжоўваюцца паўтарэннем таго, што пройдзена на ўроках, акуратным спісваннем невялічкага ўрыўка і выразным чытаннем услух.

Трэба развіваць у вучняў здольнасць да слухавога ўспрыняцця і запамінання звычайных разгаворных выражэнняў, як напрыклад, Guten Tag, Genossen! Lesen Sie! Schreiben Sie! Gehen Sie an die Tafel! Nehmen Sie die Kreide und schreiben Sie! Nehmen Sie Ihre Bücher und lesen Sie! Nehmen Sie Ihre Hefte und schreiben Sie! Setzen Sie sich!..

Auf Wiedersehen!

Для гэтага-ж можна скарыстаць невялікія лозунгі:

Es lebe der Rote Oktober!
Es lebe die Weltrevolution!
Es lebe der Weltoktober!
Es lebe die Oktoberrevolution!
Es lebe das Weltproletariat!
Es lebe die Sowjetunion!
Es lebe die Sowjetmacht!
Es lebe die Rote Armee!
Es lebe die Rote Flotte!
Es lebe die Komintern!
Es lebe unser Führer Genosse Stalin!
Es lebe Genosse Stalin, der Führer des Weltproletariats!

Мэта гэтага артыкула падзяліцца з таварышамі вопытам праведзенай мною работы.

Мне здаецца, што мэгазгодней было-б пачынаць вывучэнне мовы не з 5-га класа, дзе досыць дарослыя вучні, а з 3-га ці 4-га класа, калі першапачатковы матэрыял і няхуткія тэмпы праходжання матэрыялу больш адпавядалі-б інтарэсам дзіцячага ўзросту.

---

*А. Яворскі, М. Вагер*

# Задачы школы ў сувязі са змяненнямі ў праграмах політэхнічнага працоўнага навучання

У праграму політэхнічнага працоўнага навучання ўнесены значныя змяненні як у адносінах скарачэння зместу, так і скарачэння сеткі часоў. Гэтыя змяненні ў праграмах тлумачацца часткай настаўніцтва няправільна. Некаторыя настаўнікі думаюць, што наогул політэхнічнае працоўнае навучанне становіцца справай зусім няважнай, нават непатрэбнай.

У практыцы работы мы ўжо маем значныя перагібы, якія выяўляюцца ў зачыненні рабочых пакояў у школе і наогул у паслабленні ўвагі працоўнаму політэхнічнаму навучанню. Значная частка школ зусім парвала сувязь з вытворчасцю, не імкнецца вывучыць яе нават шляхам вытворчых экскурсій. Такія адносіны да працоўнага політэхнічнага навучання ідуць супроць указанняў нашай партыі і ўрада ў гэтых пытаннях.

Органы народнай асветы на мясцах і настаўніцтва, грамадскасць павінны паказаць усю няправільнасць і шкоднасць разважанняў аб паслабленні значэння вытворчага політэхнічнага навучання. Неабходна паставіць з усёй вастратой пытанне аб падняцці якасці політэхнічнага працоўнага навучання. Разгрузка праграм гэта дазваляе зрабіць з дастатковай эфектыўнасцю.

Адсюль такія разважанні і дзеянні вельмі шкодны. Яны шкодны і тым, што выкананне зменена́й праграмы патрабуе яшчэ большай увагі як з боку выкладчыка, так і ўсяго школьнага калектыва.

Прычынаю ўнесеных змен у праграму з'яўляецца тое, што яна была перагружана непасільным для дзяцей матэрыялам. Напрыклад: работа з дакладнымі вымяральнымі прыладамі, ліцейная, кузнечная справа, арганізацыя вытворчасці. Апрача таго часта праграмай даваўся такі матэрыял, па якому вучні не мелі ведаў з асноў навук. Напрыклад, у 6-м класе праходзіўся такарны варштат і на ім выконвалася работа, у той час калі па фізіцы дзеці яшчэ слаба ўсвоілі законы механікі. У выніку веды і ўменні былі вельмі павярхоўныя і нетрывалыя. Зразумела, што скарачэнні таксама звязаны і з тым, што паменшан агульны лік гадзін у дэкаду на працу.

Мы не будзем разбіраць усю праграму і ўсе змяненні, унесеныя ў яе, аднак важна адзначыць, што гэтыя змяненні зусім не разыходзяцца з тымі вывадамі, якія зроблены НДІ школьнай педагогікі на аснове выбарачнага даследвання школ увесну г. г. Нашы даследванні паказваюць, што скарачэнні зроблены ў тых раздзелах, з якімі школа не справілася з прычыны яе непасільнасці для дзяцей, або з-за адсутнасці ў дзяцей цвёрдых ведаў з асноў навук,

Так, напрыклад, у 5-м класе значна скарочан раздзел аб уласцівасцях драўніны. Пакінуты пытанні аб усушцы, карабленні і выключаны найбольш цяжкія і менш важныя для вучняў і школы пытанні: параўнанне лёгкасці парод у апрацоўцы пры распілоўцы, стругання, даўбленні, свярленні, пытанні аб якасцях драўніны найбольш рэдкіх парод. Даследванні паказваюць, што веды вучняў па гэтаму раздзелу зусім нізкія.

У 7-м класе выключан рад такіх раздзелаў, як кузнечная справа, ліцейная справа, работа на фрэзерным і стругальным станках і ўсё гэта перанесена ў старшыя класы. Гэта зроблена таму, што вучні к 7-у класу яшчэ не атрымоўваюць належных навуковых ведаў для разумення паказаных раздзелаў і выканання работы, і таму, што не ўсякая школа мае абсталяванне для іх праходжання. Нашы даследванні паказваюць, што веды і ўменні вучняў па вышэйпамянёных раздзелах зусім мізэрныя. Так, ні адзін з вучняў не пералічыў інструментаў па кузнечнай справе, не паказаў на асноўныя кузнечныя аперацыі. Рэдка хто з вучняў даў поўны адказ на пытанне аб асноўных частках варштатаў і т. д. і т. д.

Такім чынам, у праграме пакінут матэрыял, які школе ўдавалася прапрацоўваць, з якім выкладчык і дзеці ў асноўным спраўляліся.

Але задача, якая стаіць цяпер перад школай і выкладчыкам, не менш цяжкая і адказная, чым у мінулыя гады, таму што гадзіны на працоўнае навучанне ў школе скарочаны.

У сувязі з гэтым у сучасны момант можна вызначыць для школы і выкладчыка наступныя задачы:

1. Школа павінна стварыць патрэбную для правядзення працоўнага навучання матэрыяльную абстаноўку. Вялікае значэнне ў гэтым сэнсе мае пытанне аб памяшканні для майстэрняў. Большасць гэтых памяшканняў не адпавядае свайму прызначэнню, і школа, трэба сказаць, праходзіць міма гэтага пытання. Школа павінна заняцца вырабам самаабсталявання.

2. Патрэбна стварыць належную маральную абстаноўку для працы выкладчыка працоўнага навучання. У значнай частцы школ адчуваюцца лёгкія адносіны да ўсёй справы працоўнага навучання і гэта перадаецца вучням, падрывае аўтарытэт выкладчыка працоўнага навучання, падрывае дысцыпліну. Няўважлівыя адносіны да заняткаў па працоўнаму навучанню і зусім нездавальняючая дысцыпліна—звычайнае з'явішча ў многіх школах. Дырэктары і загадчыкі разглядаюць працоўнае навучанне як нейкі асобны прадмет, які можна праходзіць не прытрымліваючыся прынцыпаў правядзення ўрока. Такое недапушчальнае з'явішча неадкладна трэба ліквідаваць.

3. Навучальная частка школы павінна метадычна дапамагаць выкладчыку працоўнага навучання. Яму неабходна дапамагчы ў складанні плана, у методыцы правядзення ўрокаў, даць неабходнае разуменне аб арганізацыі ўрока і т. д.

4. Выкладчык павінен рашуча пакончыць з работай без плана. Ён павінен не толькі скласці гадавы і квартальны план, але дэтальны план кожнага ўрока. Перад кожным урокам ён павінен прадугледзіць не толькі яго змест, але і методыку, падрыхтаваць рысункі, схемы, мадэлі, падрыхтаваць матэрыялы і інструмент, абдумаць, што ён будзе дэманстраваць вучням і т. д.

5. Выкладчык політэхнічнага працоўнага навучання павінен заняцца сістэматычным падвышэннем сваёй педагагічнай кваліфікацыі шляхам прапрацоўкі педагагічнай і тэхнічнай літаратуры. Вопытныя настаўнікі школы ў парадку таварыскай дапамогі павінны дапамагчы выкладчыку

працы ў метадычных пытаннях. Неабходна таксама наладзіць сістэматычны прагляд планаў і разбор метадычных пытанняў політэхнічнага працоўнага навучання на метадычных нарадах.

6. Асоба важнай задачай з'яўляецца арганізацыя сістэматычных экскурсій на вытворчасць: завод, калгас, соўгас. Трэба ў гадавы план унесці ўсе экскурсіі на вытворчасць. Гэта трэба зрабіць так, каб кожная экскурсія вынікала з праграмнага матэрыялу. Плануючы яе, трэба добра арганізаваць падрыхтоўку і правядзенне. Там, дзе магчыма, трэба арганізаваць працу дзяцей 9—10 класаў на прадпрыемстве.

7. Неабходна арганізаваць пазашкольныя тэхнічныя гурткі, дзе звычайна дзеці працуюць з вялікай цікавасцю.

---



Адрас рэдакцыі: г. Менск, Дом Урада, Наркомасветы, пакой № 556, тэл. 24-591.

# ЗМЕСТ



---

Рэдактар *Лозбень*

Тэхрэдактар *Х. Абрамава*
Карэктар *Смольская*

Здана ў друкарню 23|II—35 г. Падпісана да друку 25-III—35 г. Аб'ём $4^1/_2$ друкаваных аркушаў.
Папера 72×105$^1|_{16}$. Знакаў у друкаваным аркушы 62016. Тыраж 8000 экз. Зак. № 164.
Уп. Галоўлітбела № Б 1675.

Друкарня ім. Сталіна, Менск, Энгельса, 2.

